Сяргей Ёрш
Сяргей Чыгрын

# Гісторыя перыядычнага друку Слонімшчыны

## (1916–2016)

Мінск, «Кнігазбор», 2016

УДК 821.161.3-3
ББК 64(4Беи)
Е69

Аўтары кнігі шчыра дзякуюць земляку **АляксандруМіско** за дапамогу ў выданні гэтай кнігі, а **Віталю Лубу** з Беластока — за пошукі старых слонімскіх газет і часопісаў у архівах і бібліятэках Польшчы.

**Ёрш, С.**
Е69 Гісторыя перыядычнага друку Слонімшчыны (1916–2016) / Сяргей Ёрш, Сяргей Чыгрын. — Мінск : Кнігазбор, 2016. — 104 с.
ISBN 978-985-7144-21-1.

У гэтым выданні даследуецца гісторыя перыядычнага друку Слонімшчыны XX — пачатку XXI стагоддзя. Гэта адно з першых асобных даследаванняў гісторыі рэгіянальнага перыядычнага друку ў Беларусі.

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 64(4Беи)**

**ISBN 978-985-7144-21-1**



# Летапіс нашага жыцця

Сучасныя тэхналогіі імкліва змяняюць нашае жыццё. Газеты і часопісы ўжо даўно страцілі сваё былое значэнне. У цяперашні час чалавек атрымлівае інфармацыю найперш з Інтэрнэту, тэлебачання, радыё (яна там больш аператыўная). І неяк трывожна становіцца, калі падумаеш, што ў адзін момант гэта ўсё можа знікнуць: нашая электронная пошта, блогі, старонкі ў сацсетках з тэкстамі, здымкамі, відэа… І як нашчадкі даведаюцца пра тое, як мы жылі, кахалі, працавалі? Але хочацца спадзявацца, што ўсё ж такога «інфармацыйнага апакаліпсісу» не здарыцца. Што навукоўцы прыдумаюць, як захаваць інтэлектуальны набытак сучасных пакаленняў.

З мінулым адначасова і складана, і проста. Продкі нашы шмат пісалі на паперы (у адрозненне ад нас), друкавалі на пішучых машынках. Яны на працягу дзесяцігоддзяў мелі асноўнай крыніцай інфармацыі газету — раённую, абласную ці рэспубліканскую. Вядома, у розныя часы была розная свабода слова, ці яе ўвогуле не было, і тады людзі, каб даведацца праўду, чыталі «між радкоў». У любым выпадку газета была летапісцам нашага жыцця: ці беднага і гаротнага, ці заможнага і шчаслівага. Гартаючы пажоўклыя старонкі, прыгадваеш падзеі, сведкам ці нават удзельнікам якіх ты быў, згадваеш людзей, якіх ужо няма сярод нас, успамінаеш той час ці тых асобаў, якіх часам сустракаеш на старонках старой прэсы…

Напярэдадні 100-х угодкаў заснавання слонімскага перыядычнага друку мы вырашылі паспрабаваць абагульніць назапашаныя веды пра яго гісторыю[1]. Вядома, не ўсё захавалася. Войны і пажары не шкадавалі архіваў. На жаль, на сённяшні момант у Слоніме няма поўнага збору мясцовай перыёдыкі. Некаторыя слонімскія газеты і часопісы можна знайсці толькі ў бібліятэках і архівах Варшавы, Кракава, Вільні ці Мінска, у прыватных зборах. Тым не менш, аўтары паспрабавалі адшукаць большасць газетных і часопісных скарбаў Слонімшчыны, каб падзяліцца знаходкамі з вамі, нашыя шаноўныя чытачы.

[1] Раней з'яўлялася некалькі аглядных публікацый, прысвечаных слонімскаму перыядычнаму друку: Ёрш С., Чыгрын С. Перыядычны друк Слонімшчыны // Газета Слонімская. 1998. № 4 (33). 23–29 студз.; Ёрш С. Гісторыя слонімскага перыядычнага друку // Слонімскі край. 2000. № 1. С. 26–29; № 2. С. 19–25; Чыгрын С. Слонімскі буквар. Мінск: Кнігазбор, 2013. С. 20–22.

# Кароткі нарыс гісторыі перыядычнага друку Слонімшчыны

## Перыяд нямецкай акупацыі і польска-савецкай вайны 1915–1920 гадоў

Гісторыя перыядычнага друку Слонімшчыны бярэ свае пачаткі ў гады Першай сусветнай вайны. Раней, пад уладай царскай Расіі, ніякіх мясцовых выданняў не было, слонімцы чыталі газеты і часопісы, якія выпісвалі з Гродна, Вільні, Мінска, Варшавы, Масквы і Санкт-Пецярбурга. У кнізе слонімскага гісторыка Годэля Гольдберга «Нарыс падзей горада Слоніма» згадваецца нарыс М. Заблоцкага пра яўрэйскую абшчыну і яе дзеячаў, нібыта апублікаваны ў газеце «Słonimer Wort» («Слонімскае слова») у 1913 годзе[1]. Аднак гэта была памылка, насамрэч гаворка ішла пра публікацыю 1931 года.

Напрыканцы жніўня 1915 года на Слонімшчыну прыйшлі нямецкія войскі, якія ўсталёўвалі тут свае парадкі. Горад быў часткова разбураны падчас баёў, многія прамысловыя прадпрыемствы рускія войскі, адступаючы, вывезлі на ўсход або знішчылі. Магчыма, такі лёс напаткаў і друкарню, заснаваную ў 1892 годзе ў Слоніме Вольфам Гурвічам[2]. Нямецкія акупацыйныя ўлады выдавалі ў Беларусі свае газеты на нямецкай мове. Была такая і ў Слоніме, прычым гумарыстычная.

У 1916 годзе ў Слоніме пачала выходзіць нямецкамоўная газета **«Der Schara-Lurch»** («Шчараўская Амфібія»; варыянт: «Шчараўская Жаба»). Калі выйшаў першы нумар, невядома — на жаль, ён не захаваўся (можна меркаваць, што адбылося гэта вясной). Тым не менш, можам з упэўненасцю сказаць, што на 2016 год прыпадаюць 100-я ўгодкі з часу заснавання слонімскага перыядычнага друку.

Як было пазначана пад лагатыпам, «Der Schara-Lurch» — гэта «гумарыстычны часопіс шэрых палёў і зялёнай лістоты». Выданне было рукапісным, аздобленым малюнкамі таленавітага мастака. Гатовы макет нумара памнажаўся, магчыма, на шапірографе. «Рэдакцыя і

[1] Goldberg G. Zarys dziejów miasta Słonima. Słonim, 1934. S. 63.

[2] Księga adresowa przemysłu, handlu i finansów. 1922. Warszawa, 1922; http://www.sbc.org.pl/dlibra/docmetadata?id=28183&from=&dirids=1&ver_id=&lp=24&QI=






*«Шчараўская Жаба» — першае перыядычнае выданне ў Слоніме. 1916 год*

выдавецтва» знаходзіліся ў цэнтры горада — на тагачаснай Парадной вуліцы (цяперашняя Першамайская вуліца). Прозвішча рэдактара ў 9-м нумары ад 1 лістапада 1916-га, які мы мелі магчымасць праглядзець, адсутнічае.

Газета з гумарам пісала пра жыццё нямецкіх вайскоўцаў у Слоніме, нехта пад крыптанімам Э. К. змясціў артыкул «Год гарадской друкарні». Безумоўна, «фішкай» газеты з'яўляюцца яе малюнкі. Часам некалькі з іх аб'яднаныя нейкай адной тэмай. Напрыклад, «вайна ў 16 годзе ад нараджэння Хрыста» і «ў 1816 годзе ад нараджэння Хрыста». Дарэчы, нямецкія даследчыкі, пішучы пра вайсковую прэсу часоў Першай сусветнай вайны, адзначаюць, што слонімская газета мела ці не самую арыгінальную назву і змест[1].

Безумоўна, «Der Schara-Lurch» чыталі толькі нямецкія вайскоўцы. Жыхары горада яе ўвогуле маглі не бачыць. На сённяшні дзень асобныя нумары выдання захаваліся ў бібліятэках Польшчы, Германіі і ЗША[2]. Апошні вядомы нам нумар газеты выйшаў 20 снежня 1916 года. Ці выходзіла яна ў 1917 годзе, інфармацыі няма. Пра Слонімшчыну пісала і нямецкая ваенная газета, якая выдавалася ў Баранавічах. У ёй змяшчаліся малюнкі слонімскіх краявідаў[3]. Гэтае выданне меў у

[1] http://www.wintersonnenwende.com/scriptorium/deutsch/archiv/weltkampf/wer0833.html

[2] http://jbc.bj.uj.edu.pl/dlibra/doccontent?id=269547&from=PIONIER%20DLF; http://searchworks.stanford.edu/view/448688

[3] Чыгрын С. Ваколіцы Слоніма на старонках ваеннай газеты // Газета Слонімская. 2005. № 27. 6 ліп.

сваім хатнім архіве даследчык беларуска-нямецкіх сувязяў Уладзімір Сакалоўскі (1930–2013). Як вядома, Слонім знаходзіўся пад нямецкай акупацыяй да студзеня 1919 года.

Магчыма, што ўжо ў 1917–1919 гадах у Слоніме выходзілі яўрэйскія газеткі невялікага фармату (спачатку пад нямецкай, а пасля — пад польскай акупацыяй). Нам вядомыя выявы некалькіх нумароў, у якіх прысутнічаюць лічбы «1917» і «1919». Ці азначаюць яны дату выдання, ці яны маюць іншы сэнс, а газеткі выйшлі ў пазнейшы час, невядома. Патрэбныя далейшыя пошукі і даследаванні.

Органы савецкай улады, якія існавалі ў Слоніме напачатку 1919 года і ў ліпені–верасні 1920 года, выдавалі ў мясцовай друкарні толькі абвесткі і загады для насельніцтва. Аднак была заснавана і «вусная газета» (адзіная ў гісторыі Слоніма!). Створана яна была па прычыне недахопу ў бальшавікоў газетнай паперы. У верасні 1920 года на плошчах і гарадскіх вуліцах з'явілася наступная абвестка:


ОБ'ЯВЛЕНИЕ.

*Аб'ява пра стварэнне ў Слоніме «вуснай газеты». Верасень 1920 года*

АБ'ЯВА

*Слонімскі Ваенна-Рэвалюцыйны Камітэт, знаходзячы вельмі важным і карысным выдавецтва мясцовай газеты, але не маючы магчымасці правесці гэта ў жыццё, па прычыне папяровага крызісу, абвяшчае, што ў Слоніме будзе існаваць вусная газета. Жадаючыя прыняць удзел у вуснай газеце запрашаюцца зарэгістравацца ва Уездрэўкоме.*

*11 верасня 1920 г. Уездваенрэўком*[1].

Верагодна, «вусную газету» чыталі на Гандлёвай плошчы (цяперашняя плошча Леніна) альбо каля гандлёвых радоў (цяперашняя Першамайская вуліца). Складалася яна з разнастайных абвестак і загадаў мясцовых уладаў. Напрыклад, паводле аднаго з іх

[1] НАРБ, ф. 362, в. 1, спр. 1, арк. 58. Пераклад з рускай мовы.



слонімцы павінны былі здаць «бомбы»[1]. Таксама бальшавікі распавядалі людзям пра сітуацыю на савецка-польскім фронце, а яна імкліва мянялася. З захаду і поўдня да горада набліжаліся польскія войскі, а разбітая Чырвоная Армія адступала на ўсход. Баі за горад пачаліся 27 верасня 1920 года, а ўжо на наступны дзень польскія войскі цалкам узялі Слонім пад свой кантроль. Такім чынам, «вусная газета» калі існавала, то толькі крыху больш за два тыдні.

Падчас Першай сусветнай вайны, вайны савецка-польскай Слонім быў часткова зруйнаваны, спалены. На аднаўленне спатрэбіліся некалькі гадоў і значныя сродкі. Польскія ўлады толькі ўмацоўваліся на акупаванай беларускай зямлі, прысылалі з Польшчы чыноўнікаў, паліцэйскіх, настаўнікаў, суддзяў. У самым пачатку 192х гадоў ім было не да выдання мясцовай газеты — выпісвалі прэсу найперш з Варшавы. Слонімскія беларускія актывісты на выданне сваёй газеты проста не маглі атрымаць дазвол польскіх уладаў. Яны чыталі газеты і часопісы, якія ім прывозілі ці дасылалі з Вільні, тагачаснага цэнтру заходнебеларускага нацыянальна-вызваленчага руху. У віленскіх газетах з'яўляліся карэспандэнцыі са Слоніма, Жыровічаў, Вялікай觉ракоткі, Чамяроў, Азярніцы і іншых вёсак.

Да 1924 года ў Слоніме была аднаўленая значная частка разбураных і спаленых вайной будынкаў, запрацавала прамысловасць, рамеснікі. У 1922 годзе пачала працу аднаўленая друкарня Вольфа Гурвіча, якая мела філію ў Лідзе[2]. Павышэнне ўзроўню жыцця гараджан, развіццё прадпрымальніцтва, актывізацыя інтэлігенцыі спрыялі з'яўленню мясцовай прэсы.

[1] Ёрш С. Як жыхары Слоніма бомбы здавалі // Газета Слонімская. 1998. № 37 (66). 10–16 верас.

[2] Księga adresowa przemysłu, handlu i finansów. 1922. Warszawa, 1922; http://www.sbc.org.pl/dlibra/docmetadata?id=28183&from=&dirids=1&ver_id=&lp=24&QI=

## Польскамоўныя выданні




*Рэклама газеты «Слонімскія ведамасці». 1924 год*

У 1924 годзе пачалі выходзіць **«Wiadomości Słonimskie»** («Слонімскія паведамленні»). Гэта быў польскамоўны штотыднёвік, «прысвечаны справам палітычным, грамадскім і літаратурным». Газета выдавалася накладам 1000 асобнікаў. Галоўным рэдактарам быў прафесар Станіслаў Брохвіч-Левіньскі[1]. Ён быў чалавекам не мясцовым, з ліку прыездджых палякаў, якія мусілі праводзіць паланізатарскую палітыку на беларускай зямлі. Вядома, што яшчэ летам 1924 года Брохвіч-Левіньскі працаваў у Гродне ў дзяржаўнай гімназіі імя А. Міцкевіча, быў рэдактарам і выдаўцом часопіса «Ruń» для «крэсовай моладзі». У адной з выяўленых намі рэкламных абвестак пра «Wiadomości Słonimskie» падавалася наступная інфармацыя:

*«Адзінае польскае выданне ў Навагрудскім ваяводстве, прысвечанае справам палітычным, грамадскім і літаратурным — выходзіць раз на тыдзень… Аператыўная і дакладная інфармацыя. Вялікі наклад. Падпіска з перасылкай 1.20 зл. на месяц, 3.50 зл. на квартал…»*[2].

Адшукаць нам удалося толькі восем нумароў выдання, у тым жа 1924 годзе яго выхад быў спынены[3]. Ёсць інфармацыя, што ў 1924

[1] Katalog Prasowy PARA. Poznań, 1925. S. 23, 84. Станіслаў Брохвіч-Левіньскі — прафесар літаратуры і моваў ва ўніверсітэце Стэфана Баторага ў Вільні, універсітэце Ягелонскага ў Кракаве. Яго сын Януш нарадзіўся ў верасні 1920 г. у Ваўкавыску. У будучыні — герой антынацысцкага супраціўлення, удзельнік Варшаўскага паўстання, пасля вайны жыў на эміграцыі. Сын успамінаў, што «з-за прафесійнай актыўнасці бацькі часта змянялася месца жыхарства». Верагодна, прафесар жыў у Слоніме кароткі час.

[2] Katalog Prasowy PARA. S. 84.

[3] Сем нумароў газеты «Wiadomości Słonimskie» (№ 1–3, 5–8 за 1924 г.) захоўваюцца ў зборах Акадэмічнай бібліятэкі Літвы ў Вільні.



годзе ў Слоніме нейкі час выходзіла **«Gazeta Słonimska»**[1]. Аднак звестак пра яе рэдактара і выдаўца, пра перыядычнасць няма. Вядома толькі, што яна асвятляла «грамадскае і культурнае жыццё краю»[2].




*Так выглядала вокладка тыднёвіка «Слонімскае рэха» ў сярэдзіне 1920-х гадоў*

Польскамоўным выданням цяжка было выжыць у горадзе, пераважную большасць жыхароў якога складалі яўрэі і беларусы. Многія з іх не ведалі польскай мовы. Толькі з часам, калі павялічылася колькасць палякаў, прысланых у горад з Польшчы, калі актывізавалася паланізатарская праца ўладаў сярод беларусаў, у тым ліку і праз школу, умовы для існавання мясцовых польскамоўных газет сталі больш спрыяльнымі.

Яшчэ адзін выдавецкі праект, які рэалізоўваўся ў горадзе над Шчарай, — гэта выданне польскамоўнага штотыднёвіка **«Echo Słonimskie»** («Слонімскае рэха»). Ён выходзіў у 1924–1926 гадах, верагодна, з перапынкамі. Гэта быў «орган беспартыйны і незалежны Зямлі Навагрудскай». Газета выходзіла па суботах. Рэдакцыя і адміністрацыя знаходзіліся па адрасе: Слонім, вуліца Міцкевіча, 12 (былая Парадная, цяпер — Першамайская, ніжэйшая яе частка). Адзіны нумар гэтай газеты захаваўся ў зборах Слонімскага раённага краязнаўчага музея імя Я. Стаброўскага[3].




*А такой была першая старонка «Слонімскага рэха» восенню 1929 года*

Цікава, што ў кастрычніку 1929 года газета аднавіла свой выхад. «Echo Słonimskie»

[1] Spis gazet i czasopism Rzeczypospolitej Polskiej oraz poradnik reklamowy. Rocznik trzeci 1924/25 rok. Warszawa, [1924]. С. 16, 32; Katalog Prasowy PARA. Poznań, 1925. S. 23.

[2] [Герасімчык В.]. Краязнаўчы рух у Слонімскім павеце ў 1921–1939 гг. Глава 3. Асноўныя накірункі краязнаўчай дзейнасці на тэрыторыі Слонімскага павета ў 1921–1939 гг. // http://geron–1987.blogspot.com.by/2014_08_01_archive.html

[3] Была такая газета // Слонімскі веснік. 1991. № 30. 14 сак.

па-ранейшаму было штотыднёвікам (з выхадам у кожную суботу), «органам беспартыйным і незалежным Зямлі Навагрудскай». Рэдакцыя і адміністрацыя знаходзіліся па старым адрасе. З нейкай прычыны газета друкавалася вельмі далёка — у Беластоку. Захаваўся № 6 ад 23 лістапада 1929 г. Можна меркаваць, што агулам да канца года з’явілася больш за дзясятак нумароў газеты «Echo Słonimskie». Апошні нумар выдання выйшаў 18 студзеня 1930 года, гэта быў другі нумар за гэты год[1]. Газета друкавала не толькі слонімскія навіны, рэкламу, але і артыкулы, у якіх уздымалася праблематыка ўсяго Навагрудскага ваяводства (менавіта ў яго складзе быў Слонім). Аўтары прапаноўвалі перанесці цэнтр ваяводства з Навагрудка ў Слонім! Наклад тыднёвіка ў 1929–1930 гадах складаў 400 асобнікаў. Рэдактарам «Echo Słonimskie» быў Юзаф Гэнэк, банкаўскі работнік[2]. Магчыма, што ён і выдаваў газету ў 1924–1926 гадах. Вядома, што Гэнэк загінуў падчас Другой сусветнай вайны.

Слонімскі гісторык Годэль Гольдберг пісаў у 1934 годзе, што ў Слоніме «час ад часу на польскай мове выдаваліся аднадзёнкі мясцовага Саюза польскага настаўніцтва»[3]. На жаль, не ўсе яны захаваліся. Вядома толькі, што 4 лютага 1933 года да 10-х угодкаў існавання павятовага аддзела Саюза польскага настаўніцтва (1922–1932) і да настаўніцкага з’езду, які праходзіў у Слоніме[4], выйшла аднадзёнка **«Nasz Lot»** («Наш палёт»). На адзін з артыкулаў гэтай газеты (Мечыслава Гальскага — «Слонімшчына») спасылаецца Годэль Гольдберг у сваёй кнізе. Рэдактарам быў згаданы М. Гальскі, настаўнік, вядомы на Слонімшчыне грамадскі дзеяч[5]. Газета мела 38 старонак[6].

Дакладна вядома, што восенню 1933 года быў заснаваны часопіс (ці газета) **«Związkowe Zarzewie»** («Саюзны ачаг», варыянт: «Саюзны агмень»). Гэта было выданне павятовага аддзела Саюза польскага

[1] Urzędowy wykaz czasopism wydawanych w Rzeczypospolitej Polskiej; dodatek miesięczny do Urzędowego wykazu druków (Warszawa). 1930. № 8. 31 sierpnia. S. 49.

[2] Ciechanowicz L. Czasopiśmiennictwo w województwie Nowogródzkim w latach Drugiej Rzeczypospolitej // http://pawet.net/zl/zl/2001_47/4.html

[3] Goldberg G. Zarys dziejów miasta Słonima. S. 51.

[4] Zjazd nauczycielski w Słonimie // Kurjer Nowogródzki. 1933. № 34. 4 lutego.

[5] Placówka oświatowa dla dorosłych // Kurjer Nowogródzki. 1933. № 1. 1 stycznia.

[6] https://books.google.by/books/about/Nasz_lot.html?id=GQSJmwEACAAJ&hl=ru



настаўніцтва ў Слоніме, прысвечанае арганізацыйным, асветным і грамадскім справам Слонімшчыны. Першы нумар выйшаў у верасні 1933 года[1]. Перыядычнасць часопіса невядомая. Найхутчэй гэта быў квартальнік (у 1937 годзе выйшлі як мінімум 4 нумары). Часопіс выдаваўся да 1939 года, калі з’явіўся адзіны вядомы нам нумар[2]. Ён пазначаны студзенем, як № 1, агульнай нумарацыі не было.


ZWIĄZKOWE ZARZEWIE

WYBORY DO SAMORZĄDU

*Газета «Саюзны ачаг» выдавалася павятовым аддзелам Саюза польскага настаўніцтва ў Слоніме ў 1933–1939 гадах*

Як бачым, спробы асобных грамадзян і нават арганізацый стварыць польскамоўнае перыядычнае выданне ў Слоніме не мелі вялікага поспеху. Для гэтага не хапала і фінансавых сродкаў, і журналісцкіх кадраў. Да таго ж, паўторым сказанае раней, польская інтэлігенцыя ў горадзе была нешматлікая. Некаторыя з тых, хто прыехаў сюды на працу з Польшчы, не затрымліваліся надоўга. Іх мала цікавіла мясцовая праблематыка, жыццё і гісторыя.

Адным з самых паспяховых польскамоўных выданняў быў **«Kurjer Słonimski»** («Слонімскі кур’ер»). Ён пачаў выдавацца ў 1931 годзе, але тады ж, з невядомых прычын, спыніў выхад. Гэта быў віленска-навагрудскі праект. Віленская газета «Słowo» (выдавец — Станіслаў Мацкевіч) заснóўвала рэгіянальныя версіі выдання («мутацыі»), у якія далучаліся мясцовыя навіны. Паспяховым праектам быў «Kurjer Nowogródzki» («Навагрудскі кур’ер»), заснаваны ў 1931 годзе. Гэта было штодзённае выданне з пастаяннай калонкай слонімскіх навін.

Як піша даследчык Лех Цехановіч, менавіта такія праекты — выданні мясцовых варыянтаў газет з вялікіх гарадоў — мелі найбольшы поспех у невялікіх заходнебеларускіх гарадах. Аднак іх наклады

[1] Urzędowy wykaz czasopism wydawanych w Rzeczypospolitej Polskiej; dodatek miesięczny do Urzędowego wykazu druków. 1933. № 12. 31 grudnia. S. 73.

[2] Kałuski M. Polskie czasopisma pedagogiczne i oświatowe wydawane na Kresach do 1939 roku // http://www.kworum.com.pl/art4418,polska_przedmurzem.html


Prenumeratę
opłacić
OGŁOSZENIA
dać
do naszego pisma
W SŁONIMIE
można
w filji Redakcji i Administracji
ul. Studencka 30. Telefon 28.
Codziennie od 17—19-ej.

*Рэдакцыя штодзённай газеты «Слонімскі кур'ер» у 1934–1937 гадах знаходзілася на Студэнцкай, 30*



*Мужчына чытае газету на вуліцы. 1930-я гады. Фота Рамана Вішняка*

звычайна складалі толькі некалькі соцень асобнікаў[1].

«Kurjer Słonimski» зноў пачаў выдавацца ў 1934 годзе. Першы нумар выйшаў 1 верасня. Ён быў пазначаны як № 1 (238). Але гэта не значыць, што столькі нумароў выйшла ў 1931 годзе. «Kurjer Słonimski» выходзіў як частка накладу штодзённага «Kurjera Nowogródzkiego» і захоўваў яго нумарацыю[2]. У сваю чаргу, навагрудская газета была рэгіянальным праектам віленскай газеты «Słowo». У выходных дадзеных газеты «Kurjer Słonimski» быў пазначаны наступны адрас рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Замкавая, 2. Слонімская ж рэдакцыя знаходзілася на Студэнцкай, 30. У Слоніме былі некалькі чалавек, якія дасылалі мясцовыя навіны. Нам вядомы адзін з іх — гэта Віктар Клімкевіч. Ён быў беларусам, ураджэнцам Слоніма, працаваў чыноўнікам у старостве, выконваў абавязкі сакратара слонімскага аддзела Польскага краязнаўчага таварыства. Да 1937 года, верагодна, Клімкевіч цалкам засяродзіўся на журналісцкай працы[3].

Газета вельмі цікава асвятляла жыццё Слонімшчыны. Яна пісала пра здарэнні (крымінал, паводкі), пра рашэнні мясцовых уладаў, пра праблемы горада (напрыклад, пра асвятленне вуліц, пра іх чысціню, пра якасць вады) і павета, пра адукацыю, змяшчала культурную хроніку, спартыўныя навіны. Чытаючы «Kurjer

[1] Ciechanowicz L. Czasopiśmiennictwo w województwie Nowogródzkim w latach Drugiej Rzeczypospolitej // http://pawet.net/zl/zl/2001_47/4.html

[2] Urzędowy wykaz czasopism wydawanych w Rzeczypospolitej Polskiej; dodatek miesięczny do Urzędowego wykazu druków (Warszawa). 1934. № 11. 30 listopada. S. 58.

[3] Akcesy do obozu płk. Koca w Słonimie // Kurjer Nowogródzki. 1937. № 68. 10 marca.



Słonimski», мы маем падрабязную хроніку жыцця Слонімшчыны на працягу некалькіх гадоў. І можна пашкадаваць, што выданне спыніла выхад у 1937 годзе. Колькі выйшла нумароў, дакладна невядома, але лічба блізкая да тысячы.


TYGODNIK SŁONIMSKI
DEKLARACJA IDEOWO-POLITYCZNA PŁK. A. KOCA

*Газета «Слонімскі штотыднёвік» выходзіла ў лютым–сакавіку 1937 года*

У 1937 годзе кароткі час праіснавала ілюстраваная польскамоўная газета **«Tygodnik Słonimski»** («Слонімскі штотыднёвік») — «прысвечаная справам Зямлі Слонімскай». Выдаваў яе «часовы рэдакцыйны камітэт» (Фалькевіч, Рымдзянкова, Мусніцкая, Жукоўская, Сейдэнфраў і Бычак), адказным рэдактарам быў Казімір Гарасімовіч[1]. 21 лютага (№ 2) газета надрукавала артыкул пра гісторыю Слоніма. Нам вядомы № 3, які выйшаў у нядзелю, 28 лютага. Каля лагатыпа газеты быў герб Слоніма. На канец лютага на яе падпісаліся толькі 11 чалавек[2]. Вядома, што на працягу лютага–сакавіка 1937 года выйшлі як мінімум пяць нумароў газеты. Яны захоўваюцца ў бібліятэках і архівах Варшавы, Вільні і Гродна.

У Слоніме працягвалі выходзіць і аднадзёнкі. 3 лютага 1937 года накладам 150 асобнікаў была выдадзена аднадзёнка мясцовай філіі «Асацыяцыі “вайсковая сям'я”» — **«JEDNODNIÓWKA. 3.II.1937. Stowarzyszenie Rodzina Wojskowa. Koło Słonim»**. У газеце распавядаецца пра свята вайсковай сям'і, пра дзейнасць слонімскай арганізацыі, змешчаны склад яе кіраўніцтва (практычна ўсе прозвішчы не мясцовыя), нарыс пра гісторыю Слоніма, пра помнік ахвярам бальшавікоў, устаноўлены каля




*На аднадзёнцы ад 3 лютага 1937 года, якая захавалася ў зборах Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве, ёсць штамп Слонімскага староства*

[1] «Tygodnik Słonimski» // Kurjer Nowogródzki. 1937. № 43. 13 lutego; Ciechanowicz L. Czasopiśmiennictwo w województwie Nowogródzkim w latach Drugiej Rzeczypospolitej // http://pawet.net/zl/zl/2001_47/4.html

[2] Kurjer Słonimski. 1937. № 57. 27 lutego.

вайсковых казармаў, вершы. За рэдакцыйны камітэт нумар падпісала рэдактар Ганарата Сандэёва. Асобнік выдання са штампам Слонімскага староства захоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве. Ёсць звесткі, што падобныя аднадзёнкі «Асацыяцыя "Вайсковая сям'я"» выдавала і раней на сваё лютаўскае свята[1].

Згадку яшчэ пра адну польскамоўную аднадзёнку знаходзім у кнізе Г. Гольдберга. Яна выйшла ў Слоніме ў 1926 годзе, мела назву **«Jednodniówka wystawowa»**[2]. Магчыма, гаворка пра нейкую краязнаўчую выставу.

## Школьныя перыядычныя выданні




*Вучнёўскі часопіс «Жыравяк» выдаваўся на працягу дзесяцігоддзя*

У міжваенны час польскія ўлады надавалі шмат увагі патрыятычнаму выхаванню моладзі, спрыялі фарміраванню актыўных і адказных грамадзян. Галоўная роля ў гэтым адводзілася адукацыі. У Слоніме ў сярэдніх навучальных установах працавала нямала настаўнікаў, прысланых з Польшчы, і яны праводзілі паланізатарскую працу сярод беларускай моладзі, у пэўнай ступені паспяховую. У Жыровіцкай дзяржаўнай сярэдняй сельскагаспадарча-лясной школе[3] вучыліся не толькі хлопцы са Слонімшчыны, але і з іншых раёнаў Заходняй Беларусі і нават з самых аддаленых куткоў Польшчы. Менавіта яны і прынялі актыўны ўдзел у заснаванні першага польскамоўнага школьнага выдання на Слонімшчыне. Гэта быў вучнёўскі часопіс **«Żyrowiak»** («Жыравяк»), ён выдаваўся ў 1928–1938 гадах. Яго выдаўцом было пазначана сяброўскае таварыства навучэнцаў школы («Сяброўскае

[1] Święto Rodziny Wojskowej // Kurjer Nowogródzki. 1937. № 35. 5 lutego.

[2] Zarys dziejów miasta Słonima. S. 62.

[3] Больш падрабязна пра гэтую навучальную ўстанову распавядаецца ў наступных выданнях: Księga pamiątkowa Żyrowiaków: absolwentów i wychowanków Wydziału Leśnego i nauczycieli byłej Państwowej Średniej Szkoły Rolniczo-Leśnej w Żyrowicach k. Słonima (woj. nowogródzkie): т. I (1990), т. II (1990), т. III (1999). Gołuchów, Ośrodek Kultury Leśnej.



таварыства вучняў дзяржаўнай сярэдняй сельскагаспадарча-лясной школы ў Жыровічах»). Першы нумар з'явіўся ў лістападзе 1928 года. Спачатку ён альбо пісаўся ад рукі, альбо набіраўся на друкарцы і пасля памнажаўся ў школе на капіравальным апараце (верагодна, на шапірографе). За няпоўныя два гады (да кастрычніка 1930 года) выйшлі 8 нумароў часопіса. Паводле ўспамінаў былых навучэнцаў, першыя нумары мелі па некалькі старонак, іх наклад складаў 60–70 асобнікаў. З № 9 ад кастрычніка 1930 года «Żyrowiak» пачаў друкавацца ў Слоніме (друкарня Паразоўскага па Гандлёвай плошчы). У гэты і ў пазнейшы час аб'ём нумара павялічыўся да 8–16 старонак, вырас і наклад — да 200–300 асобнікаў[1].

У 1928–1930 гадах часопіс не меў сталай назвы. Яна змянялася: **«Echo Żyrowic»** («Рэха Жыровіч»), **«Nasz Głos»** («Наш Голас»), **«Nasze Myśli»** («Нашыя Думкі»). І толькі ў 1930 годзе замацавалася назва «Żyrowiak». Выданне паведамляла пра жыццё школьнага інтэрната, змяшчала абвесткі, шмат сатыры і гумару. Планавалася, што часопіс будзе выходзіць штомесяц (і гэта ўдавалася, напрыклад, напачатку 1931 года), але пераважна атрымлівалася яго выдаваць раз на 2–3 месяцы. Паводле ўспамінаў былых вучняў школы, агулам выйшла крыху больш за 30 нумароў часопіса[2].




*У слонімскай гімназіі імя Тадэвуша Касцюшкі і настаўніцкай семінарыі выходзіў часопіс «Наша думка»*

У Слоніме першае школьнае выданне з'явілася восенню 1929 года. Гэта быў часопіс **«Nasza Myśl»** («Наша Думка»), які выдавалі навучэнцы гімназіі імя Тадэвуша Касцюшкі (у былой аўстэрыі Агінскага (вуліца Савецкая, 10) і настаўніцкай семінарыі (у паваенны час — СШ № 1, цяпер — ліцэй, вуліца Чырвонаармейская, 39). Яны планавалі, што

[1] Urzędowy wykaz czasopism wydawanych w Rzeczypospolitej Polskiej; dodatek miesięczny do Urzędowego wykazu druków. 1931. № 3. 31 marca. S. 17; Wychowanie w szkole żyrowickiej // http://bialowieza.lasy.pl/sekcja–9/65-nwzs/402-wychowanie-w-szkole-zyrowickiej.html

[2] Wychowanie w szkole żyrowickiej // http://bialowieza.lasy.pl/sekcja–9/65-nwzs/402-wychowanie-w-szkole-zyrowickiej.html

гэта будзе месячнік, але перыядычнасць не заўсёды вытрымлівалася. У 1929 годзе праўдападобна выйшлі 2 нумары, яшчэ 6 з'явіліся ў першым паўгоддзі 1930 года. Часопіс пісаў пра жыццё навучальных установаў, меў рубрыкі «літаратурную», «навуковую», «са свету». Новая нумарацыя пачыналася не з пачатку каляндарнага года, а з пачатку новага года навучальнага (1930/1931). Таму ў кастрычніку 1930 года выйшаў № 1 часопіса, што было пазначана на вокладцы. А вось далей у выданні прысутнічаў памылковы № 8, хаця гэта ўжо быў 9-ы нумар ад пачатку. Крыху заблыталі даследчыкаў маладыя слонімцы… У згаданым нумары рэдакцыя пісала:

«У імя Божае распачынаем другі год выдаўніцтва. Хочацца крыху пашырыць рамкі нашага выдання, вырашылі… увесці яшчэ як мінімум дзве рубрыкі: "хроніка слонімская", у якой будзем змяшчаць весткі пра Слонім і яго ваколіцы ды апісваць вершамі і прозай парадкі і адносіны, пануючыя ў гэтым горадзе; і "вольная трыбуна", у якой усе Сябры і Сяброўкі маглі б выказвацца па ўсіх справах…»[1].

Рэдакцыя прасіла вучняў дасылаць «вершыкі», рэцэнзіі на прачытаныя кнігі. Прасіла толькі пісаць артыкулы «змястоўныя і кароткія». У часопісе друкаваліся і вершы (некаторыя прысвечаны Слоніму і пад псеўданімамі), і проза, нататкі пра турыстычныя вандроўкі, гістарычныя артыкулы «Некалькі дат з мінулага Слоніма», «З мінулага Слоніма», хроніка. У 1929–1930 гадах адказнымі рэдактарамі былі па чарзе настаўнікі Я. Тырко, Ст. Сянас, С. Яўдыньскі, В. Сэрвацкая, галоўнымі рэдактарамі былі навучэнцы А. Юрэвіч, Л. Стахурскі, Ул. Карэньчук, М. Міхальскі, Ул. Шыдлоўскі[2]. А ў лістападзе 1930 года на сходзе вучняў гімназіі імя Касцюшкі была выбрана новая рэдакцыя, рэдактаркамі сталі дзяўчаты — Віхровуўна і Казакевіч, у адміністрацыі былі таксама гімназісткі — Дойлід і Сядлецкая[3].

Вядома, што ў кастрычніку–снежні 1930 года выйшлі тры нумары часопіса, а ў студзені–сакавіку 1931 года яшчэ тры — № 4–6 (12–14).

[1] Nasza Myśl. 1930. № 1 (9). październik. S. 1.

[2] Anibros M. Czasopisma wileńskiego rejonu bibljograficznego w roku 1930 // Ateneum Wileńskie: czasopismo naukowe, poświęcone badaniom przeszłości ziem Wielkiego X. Litewskiego. R. 7, z. 3–4. Wilno, 1930. S. 944.

[3] Sprawozdanie z Redakcji «Naszej Myśli» // Nasza Myśl. 1930. № 3 (11). Grudzień. S. 12.



Яны захоўваюцца ў Акадэмічнай бібліятэцы ў Вільні. Верагодна, «Nasza Myśl» выходзіла да лета, паколькі ў кастрычніку 1931 года «спынены на час вакацый школьны часопіс… быў адноўлены». На спецыяльным пасяджэнні была абрана новая адказная рэдактарка — Рымдзянкова, выкладчыца польскай мовы ў гімназіі, галоўным рэдактарам стаў навучэнец гімназіі М. Клімовіч[1]. У кастрычніцкім нумары былі ўспаміны з вакацый, вершы вучняў, а таксама артыкул «З мінулага Слоніма»[2].

У лістападзе 1931 года замест часопіса «Nasza Myśl» пачаў выходзіць часопіс **«Młody Literat»** («Малады Літаратар»). Гэта ўжо было выключна выданне гімназіі імя Тадэвуша Касцюшкі (тагачасны адрас — вуліца Уланская, 5). Склад рэдакцыі быў той жа (Рымдзянкова, Клімовіч, Дойлід). У рэдакцыйным артыкуле адзначалася, што назва зменена з некалькіх прычын. Гэта і тое, што цяпер часопіс выдаецца толькі гімназіяй (без семінарыі) і ў супрацоўніцтве з нейкай малавядомай варшаўскай арганізацыяй навукоўцаў. Таксама тое, што было вырашана правесці «рэінкарнацыю выдання», рэарганізаваць яго, бо яно «не адпавядала вымогам часу». Абноўлены часопіс мусіў «вобразна паказаць літаратурнае жыццё» навучальнай установы. Рэдакцыя заклікала вучняў пісаць і дасылаць свае тэксты[3].


MŁODY LITERAT

*У канцы 1931 года гімназія імя Тадэвуша Касцюшкі пачала выдаваць часопіс пад назвай «Малады літаратар»*

У Слоніме не захавалася гэтага выдання, але некалькі асобнікаў першага нумара знайшліся ў бібліятэках Вільні і Торуня. Выданне чыталі не толькі вучні гімназіі, але і дарослыя. Вядома, што яго праглядаў слонімскі беларускі паэт Язэп Вількоўскі (Вількоўшчык). У 1935 годзе

[1] «Nasza Myśl» — wznowiona // Kurjer Nowogródzki. 1931. № 22. 12 października.

[2] Z życia Seminarjum Naucz. w Słonimie // Kurjer Nowogródzki. 1931. № 30. 22 października.

[3] Redakcja. Koleżanki i Koledzy! // Młody Literat. 1931. № 1. Listopad. S. 1.

ён падараваў адзін асобнік слонімскага часопіса для музея Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры ў Вільні[1].

Планавалася, што гэта будзе месячнік, але ці ўдавалася выдаўцам утрымліваць анансаваную перыядычнасць, невядома. Магчыма, што першы нумар часопіса стаў і апошнім. Прынамсі, пра гэта пісала адно з выданняў, прысвечаных перыядычнаму друку (праўда, у ім былі і памылкі)[2].

Цікава, што яшчэ ў 1929-м часопіс з такой жа назвай пачала выдаваць гуманістычная гімназія ў Стоўбцах. Друкавалі яны свой «Młody Literat» у Вільні[3].

У 1933 годзе ў слонімскай гімназіі імя Тадэвуша Касцюшкі і настаўніцкай семінарыі вырашылі аднавіць сумеснае выданне свайго часопіса. Ён атрымаў новую назву — **«Echo Murów Szkolnych»** («Рэха школьных муроў»). Падобных школьных выданняў у тагачаснай Заходняй Беларусі было вельмі шмат, нават з падобнымі назвамі. Напрыклад, у Брэсце і Ломжы ў 1929–1930 гадах выходзіла «Echo Szkolne». Можна сказаць, што быў сапраўдны бум, гімназісты і семінарысты спрабавалі свае творчыя сілы, рэалізоўвалі задумы. І настаўнікі ім у гэтым спрыялі.

Першы нумар «Echo Murów Szkolnych» быў надрукаваны ў Слоніме ў Хрысціянскай друкарні ў снежні 1933 года. У ім не было ніякага рэдакцыйнага артыкула пра пераемнасць ад часопісаў «Nasza Myśl» і «Młody Literat». Іншыя маладыя людзі хацелі рэалізаваць свой праект, не падобны на папярэднія. Як на наш погляд, «Nasza Myśl» была цікавейшая, утрымлівала больш разнастайныя матэрыялы. «Echo Murów Szkolnych» было перапоўненае справаздачамі розных гурткоў, грамадскіх арганізацый. Абвяшчаўся і «конкурс на найлепшую навелу са школьнага жыцця». Адказным рэдактарам часопіса быў прафесар Салінькі, у рэдакцыйны камітэт уваходзілі наступныя асобы: Г. Петкунасуўна, С. Лондануўна, Ванда Каструўна, І. Дзюрыч, Г. Жэромскі[4].

---

[1] Падзяка // Беларуская крыніца (Вільня). 1935. № 29. 25 ліп.

[2] Urzędowy wykaz czasopism wydawanych w Rzeczypospolitej Polskiej; dodatek miesięczny do Urzędowego wykazu druków. 1933. № 10. 31 października. S. 61.

[3] Urzędowy wykaz czasopism wydawanych w Rzeczypospolitej Polskiej; dodatek miesięczny do Urzędowego wykazu druków. 1930. № 1. 31 stycznia. S. 2.

[4] Echo Murów Szkolnych. 1933. № 1. S. 32.




ECHO MURÓW SZKOLNYCH

NIEMA KASZUB BEZ POLONI, A BEZ POLSKI KASZUB.

ECHO MURÓW SZKOLNYCH

Echo Murów Szkolnych

ECHO MURÓW SZKOLNYCH

*Апошнім выданнем слонімскай гімназіі імя Касцюшкі і настаўніцкай семінарыі стаў часопіс «Рэха школьных муроў»*

«Рэдакцыю ўзначальваў настаўнік, а пісалі вучні. Там былі і сачыненні, і вершы, і жыццё гімназіі, нарысы пра экскурсіі», — успаміпала Ніна Пятроўна Лукашэйка (Сяменік), вялікая патрыётка Слоніма[1]. У 1930-я гады яна вучылася ў гімназіі імя Касцюшкі. У яе сямейным архіве захавалася некалькі нумароў школьных часопісаў.

У выданні «Urzędowy wykaz czasopism wydawanych w Rzeczypospolitej Polskiej» можна прачытаць, што часопіс перастаў выходзіць пасля першага нумара[2]. Але гэта не адпавядае сапраўднасці. Часопіс хоць і быў неперыядычны, але праіснаваў яшчэ некалькі гадоў. Вядомы яго № 3 ад снежня 1935 года. На ім пазначаны «трэці год выдання». Пад лагатыпам з'явіўся надпіс «маладзёжнае выданне». У нумары шмат вершаў і празаічных твораў. Ёсць нататка Лялі Данілевіч «У нашым рэгіянальным музеі» з апісаннем некаторых экспанатаў. Адказным рэдактарам часопіса ў гэты час быў Чэслаў Оржажэўскі, галоўным рэдактарам — С. Герус, яго намеснікам — В. Зімны. Паводле некаторых звестак, выданне «Echo Murów Szkolnych» было спынена ў 1936 годзе і ўжо не аднаўлялася.

---

[1] Паведамленне Н. Лукашэйкі С. Яршу ад лета 1997 г.

[2] Urzędowy wykaz czasopism wydawanych w Rzeczypospolitej Polskiej. 1934. № 7. 31 lipca. S. 43.

## Яўрэйская прэса

«Мясцовая прэса доўгі час выходзіла выключна на габрэйскай мове», — піша гісторык Васіль Герасімчык[1]. І абсалютна не мае рацыі. Як паказвае нашае даследаванне, практычна ўвесь час паралельна з яўрэйскімі існавалі і польскамоўныя выданні.

Яўрэйскія газеты, як і польскія, за малым выключэннем трымаліся на газетным рынку непрацяглы час — закрываліся з-за нястачы сродкаў, малой чытацкай аўдыторыі (і гэта пры тым, што яўрэі складалі больш за палову жыхароў горада[2]). Як мы адзначалі, першыя газеткі маглі з'явіцца яшчэ ў 1917–1919 гадах. Праўда, пра іх не згадвае слонімскі яўрэйскі гісторык Годэль Гольдберг. Аднак у яго даследаванні няма згадкі і пра такое выданне, як **«Unzer Journal»** («Наш часопіс»). Яно з'явілася ў Слоніме падчас выбараў у польскі Сейм у 1922 годзе як орган Грамадскага [яўрэйскага] савета[3]. Але, відаць, праіснавала нядоўга.



*Газета «Слонімскае слова» была галоўным выданнем яўрэйскай абшчыны ў 1930-я гады*

Яўрэйскія выданні ў міжваенныя дзесяцігоддзі пісалі пра жыццё мясцовай яўрэйскай абшчыны; калі гэта было партыйнае выданне, то асвятлялася дзейнасць пэўнай партыі (напрыклад, сіяністаў); нямала месца адводзілася матэрыялам пра падзеі ў свеце, пра сусветны эканамічны крызіс, пра падзеі ў Палесціне, пра выбары ў мясцовыя органы самакіравання[4].

У 1926 годзе выйшаў першы нумар газеты **«Słonimer Wort»** («Слонімскае слова»), друкаванага органа мясцовай сіяніcцкай арганізацыі. Ад таго часу яна выходзіла неперыядычна (на ідыш, як і большасць яўрэйскіх выданняў) і, відаць, у 1927 годзе часова спыніла выхад. З 1929 года газета выходзіла штотыднёва па пятніцах[1]. «Słonimer Wort» пісаў не толькі пра яўрэйскае грамадскае і гаспадарчае жыццё, пра падзеі ў замежжы, але і шмат увагі надаваў мінуўшчыне Слонімскага краю. Напрыклад, у 1933 годзе Годэль Гольдберг друкаваў свой нарыс «Слонім на працягу стагоддзяў», які праз год выйшаў на польскай мове ў выглядзе кнігі, але пад іншай назвай. У тым жа годзе ў «Słonimer Wort» змяшчаліся жыццярысы вядомых слонімскіх яўрэяў, нарыс пра яўрэйскую прэсу ў Слоніме.



*Мужчына прадае яўрэйскія выданні. 1930-я гады. Фота Рамана Вішняка*

Рэдактарамі газеты ў розны час былі Ш. Гузоўскі, М. Ейруш, І. Спакойны, В. Лемкін, выдаўцамі — арганізацыя сіяністаў, М. Ейруш (у 1931 годзе). Апошні нумар газеты пазначаны 1 верасня 1939 года. Агулам выйшлі 478 нумароў. Газета «Słonimer Wort» даступная для прагляду ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве.

Нам вядома пра два выпадкі канфіскацыі газеты на загад слонімскага старосты. Спачатку падставай для гэтага стаў артыкул «Куды прывядзе гэты галоп?» у № 105 ад 20 лістапада 1931 года, у якім, верагодна, крытыкавалася палітыка польскіх уладаў. Пасля, у пачатку 1932-га, у артыкуле былога віцэ-бурмістра Слоніма Мойшы Заблоцкага былі знойдзены парушэнні двух артыкулаў Крымінальнага кодэксу[2].

Атрымліваецца, што менавіта «Słonimer Wort» у даваенны час было самым стабільным і працяглым слонімскім перыядычным выданнем. Аднак даступнае яно было толькі для часткі жыхароў Слоніма — яўрэяў.

---

[1] Герасімчык В. Гісторыя габрэйскай абшчыны ў Слоніме // Газета Слонімская. 2015. № 48. 25 лістап.

[2] У 1931 г. яўрэі складалі 64 % насельніцтва горада. Гл.: Zarys dziejów miasta Słonima. S. 53.

[3] Memorial Book of Slonim // http://www.jewishgen.org/yizkor/Slonim/Slonim.html

[4] Щука О. Еврейская периодическая печать на территории Западной Беларуси в межвоенный период // Тирош — труды по иудаике. Вып. 10. М., 2010. С. 160–164.



---

[1] Zarys dziejów miasta Słonima. S. 51.

[2] Dokąd prowadzi ten gallop? // Kurjer Nowogródzki. 1931. № 57. 22 listopada; Zajęcie «Słonimer Wort» spowodowal p. Zabłocki // Kurjer Nowogródzki. 1932. № 4. 6 stycznia.

У жніўні 1926 года ў Слоніме выйшла яўрэйская аднадзёнка пад назовам **«Nakundes»**, пазначаная першым нумарам. У красавіку 1928 года з’явілася аднадзёнка-ўлётка **«Bibljotek-wok»** («Тыдзень бібліятэкі»). Яе рэдактарам і выдаўцом быў М. Рэзнік. У траўні 1929 года ў Слоніме была выдадзена аднадзёнка **«Hechawer»** («Таварыш»). Гэта было выданне яўрэйскіх скаўтаў. Чарговая скаўцкая аднадзёнка — **«Der frajer skojt»** («Вольны скаўт») — выйшла з друку ў кастрычніку 1930 года. Яе адказным рэдактарам таксама быў М. Рэзнік. У 1929 годзе з’явілася аднадзёнка **«Folk un land»** («Народ і краіна»), яе адказным рэдактарам быў В. Вераб’ёўскі. У тым жа годзе выходзіла газета **«Słonimer Łebn»** («Слонімскае жыццё»), рэдакцыя якой знаходзілася на Бернардынскай вуліцы, 17 (цяпер — вуліца Васі Крайняга). Вядомы № 4 газеты ад пятніцы 30 жніўня. У пятніцу 11 студзеня 1935 года, пад такой жа назвай выйшла аднадзёнка. Увесь нумар быў прысвечаны абароне нейкага Х. Рабіновіча ад нападаў яго палітычных праціўнікаў-сіяністаў. Анансавалася, што неўзабаве пачне выходзіць тыднёвік **«Słonimer Łebn»**[1]. Але пра тое, што ён сапраўды пачаў выдавацца, інфармацыі няма.



*У міжваенны час у Слоніме выходзіла больш за дзясятак яўрэйскіх перыядычных выданняў. Фота з кнігі «Memorial Book of Slonim»*

3 чэрвеня 1932 года ў Слоніме пабачыла свет аднадзёнка **«Unzer Sztyme»** («Наш голас»), а ў лістападзе 1933 года — аднадзёнка **«Dwar Slonim»**. Кароткі час у 1932 годзе выходзіла газета **«Słonimer kurjer»**. Выйшла як мінімум 5 нумароў[2]. Таксама вядома пра **«Słonimer judysze sztyme»** («Слонімскі яўрэйскі голас»)[3]. У Акадэмічнай бібліятэцы ў Вільні захавалася аднадзёнка пад такой назвай, пазначаная 16 верасня 1932 года. Яе рэдактарам і выдаўцом быў Я. Аберштэйн. У красавіку 1933 года ў Слоніме была надрукаваная аднадзёнка **«Unzer cukunft»** («Наша будучыня»). Яе рэдактарам і выдаўцом быў М. Шэлюбскі.

[1] Nowe pismo żydowskie // Kurjer Nowogródzki. 1935. № 11. 12 студз.

[2] № 5 ад 1932 г. захоўваецца ў Акадэмічнай бібліятэцы ў Вільні.

[3] Memorial Book of Slonim // http://www.jewishgen.org/yizkor/Slonim/Slonim.html



Вясной-летам 1933 года выходзіў «незалежны тыднёвік для Слоніма і ваколіцы» пад назвай **«Słonimer Woch»** («Слонімскі тыдзень»). Яго першы нумар з’явіўся 3 сакавіка[1]. Рэдактарам быў А. Альперштэйн. Выданне пратрымалася амаль тры месяцы, за якія выйшлі 10 нумароў (апошні — 1 чэрвеня)[2]. Газета друкавалася ў слонімскай друкарні Паразоўскага.



*Газета «Слонімскі тыдзень» выдавалася вясной–летам 1933 года*

У другой палове 1930-х гадоў на газетным рынку ўтрымаўся толькі «Słonimer Wort». Інфармацыі пра тое, што ў той час з’яўляліся нейкія іншыя выданні, няма.



*Здымак групы слонімскіх яўрэяў. На стале ляжыць слонімская яўрэйская газета. Фота 1930-х гадоў*

[1] Urzędowy wykaz czasopism wydawanych w Rzeczypospolitej Polskiej. 1935. № 1. 31 stycznia. S. 4.

[2] http://alpha.bn.org.pl/search~S5*pol?/tSlonim/tslonim/1%2C21%2C23%2CB/frameset&FF=tslonimer+wok+umpartajise+woknsrift+far+slonim+un+umgegnt&1%2C1%2C/indexsort=-

## Рэлігійныя хрысціянскія выданні


ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

*У Альбярціне ў 1932–1934 гадах выдаваўся беларускамоўны рэлігійны часопіс «Да Злучэньня!»*

На Слонімшчыне існавалі і рэлігійныя выданні. І гэта не дзіўна, паколькі рэлігійнае жыццё ў нашым краі было вельмі актыўным. Больш таго, у Альбярціне каля Слоніма ў 1924 годзе была заснавана Усходняя місія айцоў езуітаў і пачалося адраджэнне Уніі, гвалтоўна ліквідаванай у Беларусі ў XIX стагоддзі расійскай царскай уладай. Такім чынам Слонімшчына стала цэнтрам «неауніі». Сярод уніяцкіх святароў вылучаўся сваёй прыхільнасцю да беларушчыны айцец Антон Неманцэвіч (1893 — 1943). Менавіта ён стаў рэдактарам беларускай версіі рэлігійнага часопіса **«Да Злучэньня!»** (выдаўцом быў ордэн айцоў езуітаў, у які ўваходзіў і Неманцэвіч, існавала таксама і рускамоўная версія), першы нумар якога выйшаў у студзені 1932 года. Месцам выдання быў пазначаны Альбярцін, але друкаваўся месячнік у Вільні ў Беларускай друкарні імя Францішка Скарыны[1], распаўсюджваўся ён па ўсёй тагачаснай Польшчы, высылаўся і ў замежжа.

У часопісе змяшчаліся рэлігійныя, палемічныя, асветніцкія тэксты, публіцыстыка, хроніка, у тым ліку і з жыцця ўніятаў у Альбярціне, Сынковічах. Была рубрыка «Куток для дзяцей».

«Да Злучэньня!» можна лічыць слонімскім выданнем да кастрычніка 1934 года, калі выйшаў 34-ы нумар. Да таго часу рэдактар айцец Антон Неманцэвіч знаходзіўся ў Альбярціне і ў Сынковічах, але ад лістапада 1934-га ён пераехаў на Валынь, дзе пачаў выкладаць у Папскай Усходняй семінарыі ў Дубне. У «Да Злучэньня!» замест Альбярціна месцам выдання стала пазначацца Вільня, а адрас рэдакцыі падаваўся ў Дубне. Сам часопіс выдаваўся да 1937 года.

[1] Urzędowy wykaz czasopism wydawanych w Rzeczypospolitej Polskiej. 1932. № 3. 31 marca. S. 15.



Яшчэ адным выданнем рэлігійнага кірунку быў польскамоўны часопіс **«W Górę Serca»** («Угору сэрцы»). Ён быў месячнікам «марыянскага брацтва вучаніц семінарыі імя маці Марцэліны Дароўскай». У міжваенны час пры кляштары непакалянак у Слоніме (пры касцёле Беззаганнага зачацця Прасвятой Панны Марыі) існавалі пяцікласная школа і настаўніцкая семінарыя, у якой вучыліся пераважна мясцовыя дзяўчаты. Першы нумар часопіса «W Górę Serca» выйшаў у студзені 1930 года. Рэдакцыя месцілася ў семінарыі па адрасе: вуліца Сянкевіча, 11 (цяпер — Першамайская). Часопіс спачатку друкаваўся ў друкарні Ельяна[1]. Агулам за 1930 год выйшлі 8 нумароў[2], у 1931-м — 6. Апошні (№ 5–6) пазначаны чэрвенем-ліпенем 1931 года[3]. Тры нумары гэтага выдання захаваліся ў Акадэмічнай бібліятэцы Літвы ў Вільні.

Адказным рэдактарам была В. Далецкая, галоўнымі рэдактаркамі — М. Хадзыньска, Т. Шытко (першыя шэсць нумароў), Марыя Гародка, Л. Кажан[4]. «W Górę Serca» быў выданнем не толькі рэлігійным, але і выхаваўчым, змяшчаў краязнаўчыя артыкулы. Высвятляецца, што сярод навучэнак семінарыі быў вельмі актыўны гурток краязнаўчай моладзі[5]. Кракаўскі краязнаўчы месячнік «Orli Lot» («Арліны палёт») у кастрычніку 1930 года прысвяціў цэлы нумар слонімскім дзяўчатам — удзельніцам гуртка[6]. Пра гісторыю Слоніма і семінарыі цікава напісала М. Гародка, ёсць артыкулы Галіны Бучак, Марылі Падгурскай, Мечыславы Брэнэк. Дзяўчаты пісалі, што іх не задавальняе часопіс

[1] Urzędowy wykaz czasopism wydawanych w Rzeczypospolitej Polskiej; dodatek miesięczny do Urzędowego wykazu druków. 1930. № 1. 31 stycznia. S. 3.

[2] Anibros M. Czasopisma wileńskiego rejonu bibljograficznego w roku 1930 // Ateneum Wileńskie: czasopismo naukowe, poświęcone badaniom przeszłości ziem Wielkiego X. Litewskiego. R. 7, z. 3–4. Wilno, 1930. S. 944.

[3] Urzędowy wykaz czasopism wydawanych w Rzeczypospolitej Polskiej; dodatek miesięczny do Urzędowego wykazu druków. 1933. № 4. 30 kwietnia. S. 30.

[4] Anibros M. Czasopisma wileńskiego rejonu bibljograficznego w roku 1930 // Ateneum Wileńskie: czasopismo naukowe, poświęcone badaniom przeszłości ziem Wielkiego X. Litewskiego. R. 7, z. 3–4. Wilno, 1930. S. 944.

[5] Больш падрабязна пра гэта напісана ў наступным артыкуле: Герасімчык В. Краязнаўчы рух у Слонімскім павеце ў 1921–1939 гг.; http://geron–1987.blogspot.com/2014/08/1921–1939–3–1921–1939.html

[6] Orli Lot. 1930. № 8. Październik.




*Польскамоўная газета «Слонімская зара» змяшчала не толькі рэлігійныя, але і краязнаўчыя артыкулы*

«W Górę Serca», яны хацелі б мець выключна краязнаўчае выданне[1].

Верагодна, з чэрвеня 1933 года пачала выходзіць польскамоўная газета **«Zorza Słonimska»** («Слонімская зара»). Інфармацыі пра яе мы маем вельмі мала. Гэта было выданне «парафіяльнай Акцыі Каталіцкай у Слоніме», выходзіла пры касцёле святога Андрэя. Газету выдавалі ў форме «аднадзёнак». Дзве з іх выйшлі ў жніўні 1935 года (адна пазначана 27 жніўня), па адным нумары — у чэрвені 1933 года і ў сакавіку 1934 года. Адказнымі рэдактарамі былі Чэслаў Цялега, Рамуальд Свіркоўскі, Станіслаў Цесляк[2]. Ведаем імя і прозвішча аднаго з аўтараў гэтага выдання — Ігнат Валадковіч[3]. Вядомы яго артыкул пра храмы і кляштары Слоніма, які з'явіўся ў нумары ад 27 жніўня 1935 года. Газеты мелі па 20–36 старонак[4]. Адна аднадзёнка «Zorza Słonimska», ад чэрвеня 1933-га, мела аб'ём 24 старонкі. У нумары былі змешчаны матэрыялы пра дзейнасць і планы «акцыі каталіцкай»[5].

Трэба адзначыць, што на старонках газеты «Zorza Słonimska» вельмі часта прыгадваўся слонімскі каталіцкі дэкан Ян Вэбер (1878–1919). Падчас польска-савецкай вайны яго ў Слоніме арыштавалі бальшавікі і 29 студзеня 1919 года закатавалі ў лесе каля Альбярціна. Труп святара знайшоў жыхар Слоніма Юзаф Картовіч, які і пахаваў яго ў

[1] Orli Lot. 1930. № 8. Październik. S. 146.

[2] Bibliografia polska 1901–1939. T. Jednodniówki.Warszawa: Biblioteka Narodowa, 2013. S. 364.

[3] Pietrzkiewicz I. Wizytacje słonimskiej szkoły kanoników regularnych laterańskich // Ars Educandi. Źródła. T. 1. Studia z dziejów wychowania i kształcenia od średniowiecza do XIX wieku. Mysłowice, 2009. S. 237; Dowlaszewicz I. Działalność oświatowa Sióstr Niepokalanek w Słonimiu // http://pawet.net/zl/zl/2001_46/8.html

[4] Kościoły i klasztory rzymskokatolickie dawnego województwa nowogródzkiego. T. 3, Miasto Słonim. Kraków: Międzynarodowe Centrum Kultury, 2013. S.183.

[5] Wiadomości Akcji Katolickiej Archidiecezji Wileńskiej. 1933. № 6–7. Czerwiec–lipiec. S. 6.



лесе. 6 сакавіка 1919 года, калі ў Слонім прыйшлі польскія войскі, Яна Вэбера ўрачыста перазахавалі. Ксяндзу ў газеце прысвячаліся розныя артыкулы, успаміны і вершы. Пісала газета і пра мерапрыемствы ў касцёлах і навучальных установах, прысвечаныя памяці Вэбера.

Шмат увагі на сваіх старонках «Zorza Słonimska» надавала парафіяльнай хроніцы, а таксама друкавала вялікую колькасць рэкламы, прычым рэкламы самай разнастайнай: ад мясной крамы Магільніцкага, банка хрысціянскага, розных кнігарняў і харчовых крамаў да пякарні Адама Свідзерскага і да кабінета доктара Чэслава Цялегі.

На газету «Zorza Słonimska» была адкрыта падпіска, і некаторыя слонімцы-каталікі яе выпісвалі[1]. Можна меркаваць, што гэтае выданне праіснавала да пачатку Другой сусветнай вайны.

## Адзінае падпольнае выданне

Побач з легальнай прэсай у міжваенны час існаваў і беларускі падпольны друк. Сімвалічна, што адзінай беларускамоўнай газетай (мы памятаем, што ў Альбярціне выходзіў на беларускай мове легальны рэлігійны часопіс) на Слонімшчыне да верасня 1939 года было падпольнае выданне **«Піянер»**. Выдавалася яно напрыканцы 1932 — пачатку 1933 гадоў вясковай моладдзю, якую арганізаваў раённы камітэт камсамола Заходняй Беларусі. Газету пісалі ад рукі і памнажалі на шапірографе (наклад складаў да 200 асобнікаў) у вёсках Какошчыцы і Мялькавічы. Выйшлі ўсяго тры нумары[2]. «Піянер» расказваў пра масавыя выступленні моладзі на Слонімшчыне, пра яе барацьбу за школу на роднай мове. На старонках выдання друкаваліся замалёўкі, песні і вершы вясковых дзяцей. Газету «чыталі людзі ўсіх узростаў»[3]. Адказным рэдактарам «Піянера» быў Уладзімір Бялько, былы вучань Віленскай беларускай гімназіі, які трагічна загінуў у 1933 годзе — быў закатаваны польскай паліцыяй. У рэдкалегію ўваходзілі камсамольцы Іван Дабрыян, Антон Бішкірэвіч, Філіп Маркевіч, піянер Пётр Дабрыян. Сябры рэдкалегіі таксама арыштоўваліся. Паводле ўспамінаў гісторыка Васіля Мялешкі, яшчэ адзін супрацоўнік газеты

[1] Паведамленне сланімчанкі Веры Іванаўны Занямонскай Сяргею Яршу ад красавіка 2000 г.

[2] Дабрыян П. Старонкі слаўнай гісторыі// За перамогу камунізму. 1972. 7 сак.

[3] Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Слонімскага раёна. Мінск: БЕЛТА, 2004. С. 169.

Мікалай Сакалоўскі напрыканцы 1940-х гадоў быў рэпрэсіраваны савецкімі ўладамі[1].

На жаль, невядома, ці захаваўся хаця б адзін асобнік «Піянера».

## Польскамоўны праект беларускага паэта


GAZETA SŁONIMSKA

*«Слонімская газета» — штотыднёвік, які выдаваўся ў снежні 1938 — студзені 1939 года*

У снежні 1938 — студзені 1939 года ў Слоніме выходзіла на польскай мове **«Gazeta Słonimska»** («Слонімская газета»). Гэта быў штотыднёвік, заснаваны з ініцыятывы беларускага паэта Сяргея Новіка-Пеюна, які жыў у горадзе пад наглядам паліцыі. Таму афіцыйна газета выдавалася ад імя яго жонкі Людмілы Новік (яна была пазначана і рэдактарам)[2]. Можна сказаць, што ў міжваенны час у слонімскім друку гэта быў адзіны беларускі праект, праўда, рэалізаваны не на роднай мове.

Першы нумар «Gazety Słonimskiej» выйшаў на Каляды, у нядзелю, 25 снежня 1938 года, у прыватнай друкарні Ельяна і Луняньскага, якая знаходзілася на вуліцы 3-га Мая (цяпер — Чырвонаармейская). Яшчэ два нумары газеты з’явіліся 1 і 8 студзеня 1939 года. Праўдападобна, трэці нумар «Gazety Słonimskiej» стаў апошнім (у нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве захоўваюцца толькі тры нумары, два першыя нумары знаходзяцца ў Народным музеі імя А. Жукоўскага СШ № 4 г. Слоніма). А прычынай спынення выхаду магла быць нястача грошай для выдання газеты[3]. Калі так, то на што ад пачатку спадзяваўся Сяргей Новік-Пяюн — на нейкіх фундатараў, на прыбыткі ад рэкламы? Аднак цалкам магчыма, што меў месца і ціск польскіх уладаў на

[1] Ёрш С. Лёс падпольшчыка // Газета Слонімская. 1999. № 44 (125). 28 кастр. — 3 лістап.

[2] Ёрш С. Хто ж быў рэдактарам даваеннай «Газеты Слонімскай»? // Газета Слонімская. 1997. № 20 (20). 17–23 кастр.; Ёрш С. Найстарэйшая слонімская незалежная газета // Газета Слонімская. 1998. № 51 (80). 17–23 снеж. Гэтую версію падтрымаў і паэт Алег Лойка: Лойка А. З 60-ці годдзем! // Газета Слонімская. 1999. № 1. 31 снеж. — 6 студз.

[3] Станкевіч З. Па старонках «Gazety Słonimskiej» // Газета Слонімская. 1998. № 51 (80). 17–23 снеж.



выдаўцоў. Ужо ў сакавіку 1939 года Новік-Пяюн быў арыштаваны.



*Сяргей Новік (Новік-Пяюн)*

«Gazeta Słonimska» была апалітычным выданнем, пісала пра грамадскае, культурнае і эканамічнае жыццё Слонімшчыны, пра здарэнні, змяшчала краязнаўчыя матэрыялы і шмат рэкламы. У кожным нумары рэдакцыя тлумачыла свае мэты, выказвала спадзяванне на падтрымку слонімцаў. У першым нумары адзначалася, што газета «прызначана для ўсяго грамадзянства слонімскай зямлі без падзелу на веравызнанне і нацыянальнасць». Згадваліся «некалькі мясцовых выданняў», якія раней выходзілі ў горадзе кароткі час. Рэдакцыя «Gazety Słonimskiej» здзіўлялася, што жыхары 19-тысячнага Слоніма з такімі слаўнымі традыцыямі не зберагглі ніводнай сваёй газеты[1].



*Людміла Новік*

У навагоднім нумары рэдакцыя пісала: «Зычым таксама, каб выданне наша “Gazeta Słonimska” ад сёння выходзіла стала і неперарыўна 50 гадоў. Каб гэтае выданне стала патрэбай жыхароў г. Слоніма і павета. Павінны быць у кожнага грамадзяніна амбіцыі мець мясцовае выданне. Яно патрэбна як сталы інфарматар пра тое важнае, што адбываецца ў горадзе і павеце»[2]. Але «Gazeta Słonimska» не пратрымалася на рынку і месяца. Яна была апошнім прыватным праектам па выданні незалежнай газеты ў Слоніме напярэдадні чарговай змены ўлады.

Аляксандр Асіпчык відавочна памыляецца, калі піша, што з пераездам у 1938 годзе ў Слонім з Вільні беларускага ксяндза і палітыка Адама Станкевіча (польскія ўлады выслалі яго ў Слонім) пачаў выдавацца «месячнік для дзяцей»[3]. Верагодна, ён меў на ўвазе беларускі дзіцячы часопіс «Пралескі», які выходзіў у Вільні ў 1934–1939 гадах.

[1] Od Redakcji // Gazeta Słonimska.1938. № 1. 25 grudnia.

[2] U progu Nowego Roku // Gazeta Słonimska. 1939. № 1 [2]. 1 stycznia.

[3] Асіпчык А. Сяргей Новік-Пяюн (успамін) // Змагар (Нью-Ёрк). 1972. № 53. 23 сак.

## «Першыя саветы»

Падчас Другой сусветнай вайны ўлады на Слонімшчыне мяняліся неаднаразова. Прыход у верасні 1939 года савецкіх войскаў ва ўспамінах людзей звычайна называецца «першымі саветамі», паколькі ў 1944 годзе былі «другія саветы». Гэта быў трагічны час. Пакуль усталёўвалася савецкая ўлада, у некаторых мясцовасцях узброеныя актывісты распраўляліся з польскімі асаднікамі, леснікамі, чыноўнікамі, паліцэйскімі, землеўладальнікамі, святарамі, а часам і з членамі іх сем'яў. Пасля арыштамі займаліся савецкія карныя органы, якія «зачышчалі» «нядобранадзейны элемент». А зімой 1940 года прайшла дэпартацыя ў Расію, найбольш было выслана палякаў, але былі і беларусы. Такімі акцыямі савецкія ўлады ламалі каркас, на якім трымалася ранейшая ўлада, пазбаўляліся людзей, якія маглі супраціўляцца запланаваным мерапрыемствам.

Але гэта было пасля. Мы ж вернемся ў Слонім, у які 18 верасня 1939 года ўвайшлі часці Чырвонай Арміі. Неўзабаве пачалі працу органы савецкай улады, спачатку «часовыя». Для ідэалагічнай «апрацоўкі» насельніцтва выкарыстоўваліся газеты, прывезеныя з БССР, шматлікая танная прапагандысцкая камуністычная літаратура. Аднак ужо 26 верасня ў Слоніме выйшаў першы нумар мясцовай беларускамоўнай газеты **«Вольная праца»**.



*Іосіф Чарняўскі, галоўны рэдактар «Вольнай працы»*

Па сведчанні першага рэдактара «Вольнай працы» Іосіфа Чарняўскага, газета выходзіла ў аб'яднанай друкарні на Студэнцкай вуліцы — новыя ўлады нацыяналізавалі чатыры прыватныя друкарні, якія існавалі ў горадзе, і зрабілі з іх адну. Чарняўскі ўспамінае: «Прыбыўшы ў Слонім, я ўдакладніў становішча з паліграфічнай базай. Тады ў горадзе былі чатыры саматужныя друкарні, уласна кажучы, гэта былі дапаможныя майстэрні мясцовых гандляроў па выпуску розных квітанцыённых дакументаў, пераплётаў прыватных кніг, сшыткаў, публікацый, аб'яў аб смерці, розных паведамленняў мясцовых уладаў… Гаспадарамі гэтых друкарняў былі Ельян, …нехта Карпоўскі, Дзярэчынскі»[1].

[1] Ёрш С. Слонімскія друкарні // Газета Слонімская. 1999. № 52 (133). 23–29 снеж.





*Сяргей Сіняк (Хмара)*

Ад самага пачатку ў газеце працавалі тры слонімскія паэты: Сяргей Новік-Пяюн (сапраўднае прозвішча Новік, былы фактычны рэдактар «Gazety Słonimskiej»), Сяргей Хмара (сапраўднае прозвішча Сіняк) і Анатоль Іверс (сапраўдныя імя і прозвішча Іван Міско). Аднак неўзабаве Хмара быў арыштаваны НКУС і апынуўся ў мінскай турме. Палітычныя рэпрэсіі былі ў поўным разгары. Зразумела, што не магло быць ніякага «вальнадумства» ў тагачаснай «Вольнай працы».

Іван Міско ўспамінае, што Чарняўскі «пры стварэнні рэдакцыйнага калектыву хацеў абаперціся на мясцовыя кадры», аднак у Слоніме і раёне «не знайшлося людзей, якія маглі б правільна пісаць па-беларуску». Спачатку сітуацыю ратавалі слонімскія паэты, пасля з Мінску ці з Баранавічаў прыслалі некалькіх журналістаў. Рэдактару даводзілася дапамагаць наборшчыкам, якія «ніколі не набіралі беларускага тэксту». Неўзабаве з Мінску прыслалі газетную паперу, набор беларускіх шрыфтоў, клішыраваны загаловак назвы газеты[1].

Спачатку раённая газета распаўсюджвалася бясплатна. Як успамінае Іосіф Чарняўскі, Іван Міско са слонімскімі актывістамі браў пачкі газеты і раздаваў яе гараджанам. Яна карысталася вялікім попытам, па яе прыязджалі нават жыхары Зэльвы, Казлоўшчыны, Дзярэчына, Быценя[2].

«Вольная праца» выходзіла ў Слоніме да канца чэрвеня 1941года два разы на тыдзень. Усяго выйшаў 201 нумар (апошні — 22 чэрвеня). На пачатку вайны рэдактар «Вольнай працы» Іосіф Чарняўскі выехаў на ўсход, а частка яго супрацоўнікаў засталася. Іван Міско ўспамінаў: «Начальства сказала, каб спакойна, без панікі ўсе заставаліся на сваіх рабочых месцах… Пасля нядзельнага начнога дзяжурства ў рэдакцыі (у панядзелак дзяжурыў сакратар) раненька ў аўторак я пабег на працу і… нікога не знайшоў. Апусцелі райкам партыі, райвыканкам і гарвыканкам. Нікога не было і ў рэдакцыі. Вось табе і "заставацца на сваіх

[1] Міско І. Першы нумар // Слонімскі веснік. 1999. 17 ліп.

[2] Успаміны Іосіфа Чарняўскага ад 12 красавіка 1970 г. // Архіўныя зборы Народнага музея імя А. Жукоўскага СШ № 4 г. Слоніма.

рабочых месцах”… У сярэдзіне бушавала крыўда, злосць і штосьці такое, што не выкажаш словамі»[1].

## Пад нямецкай акупацыяй. 1941–1944 гады


Слонімскі Кур'ер

*У 1944 годзе ў Слоніме пад нямецкай акупацыяй выходзіла газета «Слонімскі кур'ер», пазней перайменаваная ў «Слонімскую газету»*

Ужо да канца чэрвеня 1941 года нямецкія войскі акупавалі Слонімшчыну, і пачаў устанаўлівацца «новы парадак» з масавымі расстрэламі, а пасля і з паленнем вёсак. Каб давесці да насельніцтва свае загады і распараджэнні, акупанты выпускалі спецыяльныя лістоўкі, абвесткі, якія расклейваліся ў горадзе. А напачатку восені 1941 года вырашылі выдаваць у Слоніме газету. Гэта быў **«Slonimer Kurjer»** («Слонімскі кур'ер»). Дэкларавалася, што газета будзе выходзіць два разы на тыдзень на трох мовах: беларускай, польскай і нямецкай. У вядомым нам № 2 ад 21 верасня 1941 года першая старонка была нямецкамоўная, другая і трэцяя — беларускамоўныя, чацвёртая — польскамоўная. Прычым рэдакцыя прасіла ў чытачоў прабачэння, што «па тэхнічных прычынах у сённяшнім нумары на беларускай мове ёсць дзве старонкі, а на польскай жа толькі адна». «Чытачам-палякам» абяцалася сітуацыю выправіць.

У газеце друкаваліся нямецкія зводкі і артыкулы пра становішча на франтах вайны. З уласна слонімскіх матэрыялаў у № 2 было толькі два: абвестка Ядзвігі Вільчэўскай пра згублены па дарозе паміж Крывошыным і Баранавічамі пашпарт, выдадзены 21 ліпеня 1941 года баранавіцкім бурмістрам, і рэдакцыйная абвестка. Адныя і тыя ж матэрыялы амаль цалкам дубліраваліся на трох мовах.

Нам вядома, што пабачылі свет прынамсі два нумары газеты. Рэдакцыя ж планавала, што «Slonimer Kurjer» будзе выходзіць рэгулярна, была распачата падпіска, якую прымала гарадская друкарня (падпіска на месяц каштавала 60 пфенігаў; адзін нумар газеты прадаваўся за

[1] Анатоль Іверс. Мой жыццяпіс // Жыццё і творчасць Анатоля Іверса: успаміны, згадкі, рэцэнзіі, прысвячэнні, пісьмы, фотаздымкі. Мінск: Кнігазбор, 2012. С. 10.



10 пфенігаў). Дзе друкаваўся «Slonimer Kurjer», у Слоніме ці ў Баранавічах, дакладна невядома.

Выходзіла газета кароткі час і не мела папулярнасці сярод слонімцаў. Прынамсі, беларускія дзеячы ў Слоніме Сяргей Хмара і Барыс Данілюк не прыгадвалі ў сваіх успамінах гэтага выдання.

У канцы 1941 года — у пачатку 1942-га, калі ў Слоніме пачала дзейнічаць мясцовая філія грамадскай арганізацыі «Беларуская народная самапомач» (БНС), яе дзеячы спрабавалі атрымаць ад акупацыйных уладаў дазвол на выданне газеты. Паводле ўспамінаў Сяргея Хмары, варыянтамі назвы былі «Змаганне» і «Наперад» (ёсць звесткі пра яшчэ адзін варыянт — штотыднёвік «Слонімскі голас»[1]). Аднак немцы не далі дазволу[2].

Наступная легальная газета з'явілася ў Слоніме толькі ў пачатку 1944 года. Гэта быў беларускамоўны тыднёвік **«Słonimski kurjer»** («Слонімскі кур'ер»). Першы нумар выйшаў у суботу, 1 студзеня 1944 года, накладам у 15 тысяч паасобнікаў. «У гісторыі Слоніма гэты часапіс не ёсць першым, — чытаем у рэдакцыйным артыкуле ў першым нумары. — …Нашая ж газета павінна быць нашай Слонімскай і беларускай. Змест яе мусіць быць блізкім беларускім сялянам, становячым пераважаючую большасць насельніцтва… Вось таму і звяртаецца Рэдакцыя да ўсіх перадавых людзей, падаваць у газету свае думкі і зацемкі, спрыяючыя развіццю грамадскага, культурнага і гаспадарчага жыцця нашага краю»[3].

Да 11-га нумара газета выходзіла лацінкай і кірыліцай адначасова, а пасля — кірыліцай. Рэдакцыя «Słonimskaha kurjera» знаходзілася на вуліцы Паркавай, 20 (цяпер — вуліца Пушкіна), а друкавалася газета ў Баранавічах (там жа знаходзіўся і цэнзар, які кантраляваў змест). Усяго выйшла 16 нумароў. Да 14 сакавіка 1944 года адказным рэдактарам «Słonimskaha kurjera» быў доктар Віктар Войтанка, якога на гэтай пасадзе замяніў Сяргей Хмара (Сіняк). З 1 сакавіка 1944 года на газету была адкрыта нават падпіска. Акрамя разнастайнай прапаганды,

[1] Слонімская хроніка // Раніца (Берлін). 1942. № 2(66). 18 студз.

[2] Хмара С. Пад гітляроўцамі // Беларускі голас (Таронта). 1970. № 186. Верасень.

[3] Ад Рэдакцыі // Słonimski kurjer. 1944. № 1. 1 студз.

афіцыйных распараджэнняў акупацыйных уладаў, у газеце друкаваліся слонімскія навіны, абвесткі, літаратурныя творы, некралогі.

Вясной 1944 года былі спробы наладзіць друкаванне газеты ў Слоніме. 28 сакавіка 1944 года «Слонімскі кур'ер» надрукаваў абвестку, што шукаюцца друкары і наборшчыкі, кандыдатам прапаноўвалася звяртацца ў рэдакцыю. Але, як пісаў ужо на эміграцыі Сяргей Хмара, «слонімская друкарня Хмарука яшчэ не мела магчымасцяў пачаць… друк [газеты]»[1].

З 25 красавіка 1944 года замест «Слонімскага кур'ера» пачала выдавацца таксама беларускамоўная **«Слонімская газэта»**. Яна таксама выходзіла штотыднёва на 4 старонках. Рэдактарам па-ранейшаму быў Сяргей Хмара. Наклад «Слонімскай газэты» складаў 15 тысяч асобнікаў. Да 13 чэрвеня 1944 года выйшлі 8 нумароў. Нумарацыя захоўвалася, таму нумар «Слонімскай газэты» ад 25 красавіка быў 17-м. Апошні нумар (24-ы) выйшаў 13 чэрвеня 1944 года.

Для выхадцаў з Каўказа (кабардзінцаў ды іншых), якія ў першай палове 1944 года часова пасяліліся на Слонімшчыне, у Баранавічах выдавалася на рускай мове «Северокавказская газета»[2]. «Купіў я ў кіёску газету, — пісаў адзін з аўтараў падпольнай «Вольнай працы». — Гляджу — “Северокавказец”. І чуць не паваліўся са смеху: «Як гэта сталася — “Северокавказец” у Слоніме? Чаму ён гаўкнуў аж у Слоніме…»[3].

Існаваў падчас нямецкай акупацыі на Слонімшчыне і падпольны друк. Ён быў створаны савецкімі партызанамі і камуністычнай партыяй. 12 кастрычніка 1943 года, пасля таго, як у Слонімскі раён прыбыў з савецкага тылу райкам кампартыі на чале з Міхаілам Анішчыкам, было адноўлена выданне газеты **«Вольная праца»**. Але гэта ўжо было падпольнае выданне малога фармату і накладу, якое выходзіла ў партызанскай друкарні ў лесе «Воўчыя Норы» на поўдні Слонімшчыны. Улічвалася нумарацыя даваеннай «Вольнай працы».

У рэдакцыйным артыкуле «Час перамогі блізкі» ў першым нумары адноўленай газеты ад 12 кастрычніка 1943 года чытаем: «25 верасня

[1] Беларускі голас (Таронта). 1970. № 186. Верасень.

[2] Жумарь С. Оккупационная периодическая печать на территории Беларуси в годы Великой Отечественной войны. Минск, 1996. С. 74, 204.

[3] «Северокавказец» в Слониме // Вольная праца. 1944. № 20. 23 чэрв.






*Першы нумар адноўленай «Вольнай працы» выйшаў у партызанскай друкарні 12 кастрычніка 1943 года*

1939 года выйшаў у Слоніме першы нумар “Вольнай працы” (насамрэч, 26 верасня. — *С. Ё., С. Ч.*), першай беларускай газеты ў гэтым горадзе. Але пасля выпуску 22-га чэрвеня 1941 года 201 нумару, далейшая яе выдача была перарвана разбойніцкім нападам гітлераўскай Нямеччыны на Савецкі Саюз. Цяпер у глыбокім падполлі пры гітлераўскай няволі мы прыступілі да далейшай выдачы “Вольнай працы”… мы перакананы, што хутка надыйдзе час, калі “Вольная праца” пачне лягальна выдавацца ў Слоніме ды будзе знакам сапраўднай волі працы і працоўных».



*Мікалай Бурсевіч, рэдактар «Вольнай працы». Фота: «Слонімскі веснік»*

Рэдагаваў газету Мікалай Бурсевіч (у газеце пазначалася, што рэдагуе яе рэдкалегія). Васіль Афанасік называе другім рэдактарам Анішчыка[1], але наўрад ці ён прымаў вялікі ўдзел у выдавецтве. Рэдакцыя і друкарня знаходзіліся ў лесе, месца гэтае было заканспіравана. Вось што ўспамінаў Мікалай Бурсевіч:

«Спачатку рэдакцыя і друкарня качавала па лесе разам з партызанскім атрадам імя Дзяржынскага брыгады імя Ракасоўскага. Пазней для нашага газетнага калектыву зрабілі асобную зямлянку, паводдаль ад партызанскага атрада. У 1944 годзе ў калектыў рэдакцыі і друкарні ўваходзілі: рэдактар слонімскай “раёнкі”, два паліграфісты, рэдактар Баранавіцкай гарадской газеты, кухарка, а таксама невялікая групка ўзброенай аховы. Акрамя таго, у зямлянках атрада імя Дзяржынскага былі тры партызаны, якія сістэматычна прымалі ўдзел у рэдакцыйнай рабоце… На выпадак нечаканага нападу праціўніка мы былі гатовы ўвесь багаж друкарні схаваць»[2].

Усяго выйшла 16 нумароў газеты накладам ад 350 да 800 асобнікаў кожны. У гэтай друкарні выходзіла таксама газета Баранавіцкага

[1] Афанасик В. Газета-юбилярка // Слонімскі веснік. 2014. 23 верас.; http://www.slonves.by/2014/09/gazeta-yubilyarka/

[2] Бурсевіч М. Газета-партызанка // За перамогу камунізму. 1989. 26 верас.

падпольнага гаркама кампартыі «За Родину»[1]. «Вольная праца» нелегальна распаўсюджвалася ў Слоніме праз мясцовую прасавецкую антыфашысцкую арганізацыю. Частка накладу газеты прыбывала з лесу, з партызанскай брыгады імя Ракасоўскага на канспіратыўную кватэру на вуліцы Ружанскай, 5, дзе жылі падпольшчыцы, навучэнкі слонімскай настаўніцкай семінарыі Ніна Жыткевіч і Надзя Петручэня. А яны распаўсюджвалі яе сярод надзейных людзей, якія ўдзельнічалі ў супраціўленні акупантам[2].


БАРАЦЬБА

*У чэрвені 1944 года выйшлі два нумары падпольнай газеты «Барацьба»*

«Вольная праца» выходзіла друкам фарматам А4 на 2 альбо 4 старонках. Яна была ілюстраваная. Клішэ для ілюстрацый на бярозавых дошчачках рабіў мастак Мікалай Беляеўскі[3]. Газета інфармавала пра падзеі на франтах вайны і ў савецкім тыле, пісала пра партызанскія аперацыі на Слонімшчыне і злачынствы нямецкіх акупантаў, друкавала жарты і карыкатуры на акупантаў і калабарантаў.

Акрамя «Вольнай працы» і розных улётак, адозваў і зводак, у «Воўчых Норах» была надрукавана газета **«Барацьба»**, орган Слонімскага антыфашысцкага камітэта. Усяго выйшла два нумары: ад 19 і 28 чэрвеня 1944 г. Газета заклікала жыхароў Слонімшчыны да змагання з нямецкімі акупантамі, інфармавала пра іх зверствы над мірным насельніцтвам, пісала пра становішча на франтах вайны, надрукавала каментар І. Сталіна аб адкрыцці саюзнікамі другога фронту. Рэдактарам «Барацьбы» быў Іван Міско (паэт Анатоль Іверс), кіраўнік антыфашысцкай арганізацыі Слонімшчыны[4].



*Іван Міско*

[1] [Сенкевич А.]. Партизанское движение на Слонимщине. Слонім, 1990. [С. 5].

[2] Міско І. Леанід Сеньчык і іншыя // За перамогу камунізму. 1990. 13 сак.

[3] За перамогу камунізму. 1989. 26 верас.

[4] Анатоль Іверс. Мой жыццяпіс // Жыццё і творчасць Анатоля Іверса: успаміны, згадкі, рэцэнзіі, прысвячэнні, пісьмы, фотаздымкі. Мінск: Кнігазбор, 2012. С. 13.



## Пасляваенны час

У ліпені 1944 года на Слонімшчыне была адноўлена савецкая ўлада. І калі супрацоўнікі «Слонімскай газэты» падаліся на чужыну, адступілі з Беларусі разам з немцамі, рэдакцыя «Вольнай працы» пераехала з лесу ў Слонім. Яшчэ 14 ліпеня газета выйшла як «орган Слонімскага (падпольнага) РК КП (б) Беларусі», а ўжо 19 ліпеня — як «орган Слонімскага РК КП (б) Беларусі і райсавета дэпутатаў працоўных». Адказным рэдактарам быў Мікалай Бурсевіч. Рэдакцыя спачатку знаходзілася на вуліцы Пушкіна, 24, а з сярэдзіны жніўня 1944 года — на вуліцы Студэнцкай, 14. Фармат і перыядычнасць газеты мяняліся. Напэўна, галоўнай прычынай гэтага быў недахоп газетнай паперы. Напрыклад, у канцы ліпеня ў раёнцы была змешчана такая абвестка:

«Рэдакцыя газеты “Вольная праца” патрабуе для свайго выдаўніцтва паперу і гатова закупляць яе ў прыватных асоб ці арганізацый. Цана вызначаецца па дагаворанасці на месцы»[1].

Газета выходзіла 2–3 разы на тыдзень, а з 1948 года — стабільна тры разы на тыдзень накладам каля 3 тысяч асобнікаў[2]. «Вольная праца» пісала не толькі пра Слонімшчыну, але і пра падзеі ў Беларусі, Савецкім Саюзе і ў свеце. Зразумела, што ніякай свабоды слова ў той час не было, у газеце асвятляліся далёка не ўсе тэмы. У канцы 1940-х — 1950-я гады галоўныя рэдактары часта мяняліся. Да кастрычніка 1947 года працаваў Мікалай Бурсевіч, у 1949-м — Міхаіл Башлакоў, пасля яго быў Іван Вераб’ёў. У 1950–1960-я гады ў «Вольнай працы» мяняліся заснавальнікі. У красавіку 1952 года да іх ліку далучыўся і гарадскі савет. У траўні 1962 — лютым 1963-га заснавальнікамі газеты былі Гродзенскі абкам КПБ і аблсавет, Слонімскае тэрытарыяльнае


ВОЛЬНАЯ ПРАЦА

*Пасля вызвалення горада ад нямецкіх захопнікаў «Вольная праца» зноў стала легальным выданнем*

[1] Вольная праца. 1944. № 28 (236). 27 ліп.

[2] Міско І. З гісторыі гарадской друкарні // За перамогу камунізму. 1970. 4 жн.



*У савецкія часы раённая газета неаднаразова змяняла назву: «Вольная праца» / «За перамогу камунізма» / «За перамогу камунізму». Фота: «Слонімскі веснік»*



*У 1950–1953 гады ў вёсцы Рышчыцы (цяпер — мікраераён Слоніма) выдавалася газета «Голас калгасніка»*

вытворчае калгасна-саўгаснае ўпраўленне. Працягвалася гэта і ў далейшым.

У траўні 1962 года «Вольная праца» змяніла назву на **«За перамогу камунізма»** (пазней яна стала называцца «За перамогу камунізму»). Газета адмовілася ад ранейшай нумарацыі (5 траўня выйшаў № 1). Аднак у красавіку 1964 года «За перамогу камунізма» аднавіла «год выдання і валавую нумарацыю з 1939 года»[1].

У час прымусовай калектывізацыі, якая праводзілася савецкімі ўладамі ў канцы 1940-х — пачатку 1950-х гадоў, узнікла патрэба ў пашырэнні прапагандысцкага ўплыву савецкай прэсы на насельніцтва. Таму ў заходніх абласцях Беларусі з'явіліся новыя выданні калгаснай тэматыкі. Зразумела, гэта была не ініцыятыва мясцовых уладаў, такое распараджэнне яны атрымалі з Мінску. У 1950 годзе на Слонімшчыне былі заснаваны дзве новыя газеты: **«Голас калгасніка»** (орган палітаддзела Рышчыцкай МТС (машынна-трактарнай станцыі) Слонімскага раёна) і «**Трыбуна калгасніка»** (орган палітаддзела Слонімскай МТС). Абодва выданні выходзілі з 27 траўня 1950 года да 30 снежня 1953 года два разы на тыдзень на беларускай мове. Усяго выйшла па 360 нумароў абедзвюх газет[2]. Амаль поўныя камплекты выданняў захоўваюцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі ў Мінску.

Ад пачатку часовым выканаўцам абавязкаў адказнага рэдактара «Голасу калгасніка» быў М. Баброў (у траўні–верасні 1950 года). Далей адказныя рэдактары мяняліся (Мікалай Бурсевіч, зноў М. Баброў),

---

[1] Газеты Беларускай БССР 1917–1975. Біяграфічны паказальнік: у 2 ч. Ч. 1. Мінск, 1984. С. 33–34.

[2] Газеты Беларускай БССР 1917–1975. Біяграфічны паказальнік: у 2 ч. Ч. 2. Мінск, 1985. С. 24, 114.





*Палітаддзел Слонімскай МТС у пачатку 1950-х гадоў у пасёлку Грыбава (цяпер — у межах Слоніма) выдаваў газету «Трыбуна калгасніка»*

газету падпісвалі і часовыя выканаўцы абавязкаў рэдактара (Ф. Шапшэдаў, В. Зінавееў), з № 67 ад 26 жніўня 1953 года і да канца года рэдактарам быў К. Рамановіч. Наклад быў пастаянны на працягу чатырох гадоў выхаду — 500 асобнікаў (як і ў «Трыбуны калгасніка»). Аб'ём — 2 старонкі фармату А3.

У рэдакцыйным артыкуле першага нумара адзначалася: «…газета "Голас калгасніка"… заклікана шырока асвятляць на сваіх старонках калгаснае жыццё. Газета будзе змагацца за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў, папулярызаваць вопыт перадавікоў калгаснай вытворчасці, актыўна выяўляць і крытыкаваць недахопы…»[1]. І сапраўды крытыка прысутнічала — выкрывалі гультаёў і «сабатажнікаў». Друкаваліся навіны калгасаў, МТС, лісты чытачоў, літаратурныя творы, пастановы вышэйшых органаў улады БССР, СССР, прывітанні Іосіфа Сталіна.

«Трыбуна калгасніка» вонкава і зместам мала адрознівалася ад «Голасу калгасніка». Друкаваўся той жа афіцыёз. А вось навіны былі ўжо з калгасаў Слонімскай МТС. Меліся рубрыкі «Партыйнае жыццё», «Падзеі ў Карэі», «На працоўнай вахце міру», «Калючыя радкі», «Па БССР», «У калгаснай вёсцы», «Па слядах выступленняў "Трыбуны калгасніка"» ды іншыя. Аб'яўляўся конкурс «на лепшыя фельетоны, нарысы і вершы», шмат увагі надавалася насценнаму друку (таксама праводзіліся конкурсы з грашовымі прэміямі). У газеце быў артыкул пра бібліятэку імя Янкі Купалы ў вёсцы Вялікая Кракотка і пра прыезд



Аб'яўляецца конкурс

*У лютым 1952 года «Трыбуна калгасніка» абвясціла конкурс для рэдкалегій насценных газет і «баявых лісткоў» з грашовымі прэміямі*

---

[1] За новыя поспехі калгаснага будаўніцтва! // Голас калгасніка. 1950. № 1. 27 траўня.

туды ўдавы Янкі Купалы (№ 49 ад 30 чэрвеня 1951 года). Друкаваўся верш Міхася Васілька «Першы май» (№ 33 ад 1 траўня 1951 года), верш Максіма Танка «Новаму году» (№ 1 ад 1 студзеня 1952 года). Часам на старонках газеты з'яўляліся рускамоўныя вершы.

Адказным рэдактарам спачатку быў І. Новікаў. Час ад часу абавязкі адказнага рэдактара/рэдактара выконвалі Р. Кавалёў, Г. Кавальчук, П. Коршыкаў, І. Бацько, С. Сярогін і В. Рэкун. З чэрвеня 1952 года рэдактарам быў Б. Гардзей.

У першае пасляваеннае дзесяцігоддзе ў калгасах, МТС, арганізацыях, установах, сельсаветах распаўсюдзілася выданне рукапісных насценных газет і «баявых лісткоў». Гэта своеасаблівы «самвыдат» тых часоў. Узровень яго быў розны — хтосьці рабіў толькі для справаздачы, але іншыя падыходзілі творча. «Галоўная задача нізавога друку заключаецца ў тым, каб на аснове мясцовых фактаў выхоўваць працоўных у духу сацыялістычных адносін да працы і грамадскай уласнасці, у духу яго комуністычнай ідэалогіі», — чытаем пра мэты насценных газет і «баявых лісткоў» у мясцовым друку[1]. Гэта значыць, што і яны мусілі «апрацоўваць» мясцовае насельніцтва, агітаваць яго.

Захаваліся назвы некаторых выданняў «нізавога друку» другой паловы 1944 года. Органам Слонімскага раённага камітэта камсамола была насценная газета **«Комсамолец»**. Партыйна-камсамольская арганізацыя пры Слонімскім райвыканкаме выдавала **«Совецкага служачага»**. Іх афармляў мастак Беляеўскі. У Слонімскай сярэдняй школе выходзіла на беларускай мове насценгазета **«Голас моладзі»**, орган вучнёўскай моладзі.

Камсамольская арганізацыя чыгуначнай станцыі «Слонім» выпускала баявы лісток **«Сігнал»**. Іван Міско пісаў: «Усе ўстановы і прадпрыемствы павінны выпускаць насценгазеты, задачай якіх — падняць культурны і палітычны ўзровень працоўных. Насценная газета павінна паказваць поспехі перадавікоў і выкрываць недахопы»[2].

У пачатку 1950-х гадоў у калгасе «Савецкая Беларусь» (Жыровіцкі сельсавет) былі насценныя газеты **«Калгаснае жыццё»** і **«Новае жыццё»**, у калгасе імя Молатава (Міжэвіцкі сельсавет) — **«За высокі ўраджай»**, у калгасе імя Сталіна (Касцянёўскі сельсавет) — **«Сталінец»**,

[1] Паўней асвятляць мясцовае жыццё // Голас калгасніка. 1953. № 29. 8 крас.

[2] Міско І. Насценгазеты горада // Вольная праца. 1944. № 52. 29 кастр.



у калгасе імя Кірава (Міжэвіцкі сельсавет) — **«Кіравец»** (рэдактар — Іван Зайцаў), у калгасе імя Шверніка (Глоўсевіцкі сельсавет) — **«За ўраджай»** і **«Уперад»**, у Слонімскай МТС — **«Трактарыст»** і **«Механізатар»**. У Сялявічах тэрытарыяльная партарганізацыя і сельсавет выдавалі насценгазету **«Шлях да комунізма»** (рэдактар — Кацярына Бадзяка), а калгас імя Дзяржынскага — **«Дзержынцы»**.

Безумоўна, тэма насценных газет і баявых лісткоў вартая асобнага даследавання. Яны выходзілі яшчэ падчас нямецкай акупацыі. У слонімскім музеі захоўваецца арыгінал партызанскай сценгазеты **«Чырвоны партызан»**[1]. У 1984 годзе выдавалася насценная газета **«Гісторыя вакол нас»**, штоквартальны бюлетэнь Слонімскага райсавета добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. У архівах маглі захавацца і дзясяткі падобных пасляваенных выданняў.

У пасляваенны час у Слоніме на рускай мове выходзіла вайсковая газета **«На штурм!»** (пазней — **«Кутузовец»**). Гэта было выданне закрытага характару і друкавалася ў вайсковай друкарні[2]. «З часці не выносіць», — такі надпіс быў пад лагатыпам «Кутузовца». Газета выходзіла 2–3 разы на тыдзень пад дэвізам «За нашу Савецкую Радзіму!», змяшчала савецкія афіцыйныя дакументы, загады, нарысы пра вайскоўцаў ды іншыя. Пасля змены назвы (праўдападобна, у 1946 годзе) ранейшая нумарацыя не захоўвалася.


КУТУЗОВЕЦ

*Слонімскія вайскоўцы выдавалі сваю газету — «На штурм!», пазней — «Кутузавец»*

Вядома, што ў жніўні 1945 года адказным рэдактарам газеты «На штурм!» быў М. І. Алескоўскі. Ён жа рэдагаваў газету «Кутузовец» у лютым 1946 года. А № 61 «Кутузовца» ад 3 чэрвеня 1946 года падпісваў намеснік адказнага рэдактара А. Т. Пекін. У снежні 1947 года адказным рэдактарам быў А. Беразоўскі. Паступова змест газеты станавіўся больш разнастайным. У 1947 годзе з'явіліся рубрыкі «Падрыхтоўка да выбараў у мясцовыя Саветы», «Па старонках новых часопісаў». Газета «Кутузовец» была ілюстравана фотаздымкамі. У адпаведнасці

[1] Васильев С. Воспоминания военных лет // Газета Слонімская. 2009. № 27. 1 ліп. (у гэтым нумары памылкова пазначана, што гэта № 28 ад 8 ліпеня).

[2] Ёрш С. Слонімскія друкарні // Газета Слонімская. 1999. № 52. 23–29 снеж.

з існуючымі ў той час патрабаваннямі сакрэтнасці для савецкай вайсковай прэсы, у выходных дадзеных газеты і яе змесце не згадваўся Слонім (прынамсі, у 1944–1947 гадах). Па некаторых звестках, газета «Кутузовец» выходзіла да 1960-х гадоў.

З 1960-х і да канца 1980-х гадоў «За перамогу камунізму» была адзіным мясцовым выданнем у Слоніме. Выходзіла выключна на беларускай мове тры разы на тыдзень. З 1957 года яе рэдагаваў Фёдар Ганчар. У газеты сфарміраваўся свой сталы чытач, людзі актыўна на яе падпісваліся. Наклад, які, напрыклад, у 1958 г. складаў менш за 3 тысячы, у 1970-м — больш за 8 тысяч, у далейшым дасягнуў 15 500 асобнікаў[1].

Газета, якую рэдагаваў Фёдар Ганчар, шмат распавядала пра перадавікоў калгасаў і саўгасаў, пра калгасныя і гарадскія новабудоўлі. На старонках выдання шырока рэкламавалася будаўніцтва гасцініцы на сто месцаў, новага бальнічнага корпуса, паведамлялася пра адкрыты новы ўнівермаг і СШ № 6, пра завершаны мантаж рэтрансляцыйнай тэлевізійнай станцыі — 350-метровай мачты (і пра тое, што Слонімскі тэлерэтранслятар вышэйшы за парыжскую Эйфелеву вежу на 45 метраў).

У канцы 1960-х гадоў слонімская раёнка пісала, што перасоўная механізаваная калона пачала ўзводзіць асфальтавы завод, што ў Слонім прыйшоў прыродны газ, пачаў працаваць самы малады ў Беларусі маторарамонтны завод. На старонках газеты чытачы з цікавасцю знаходзілі матэрыялы пра тое, што на Першамайскай вуліцы быў адкрыты помнік-танк, што выйшаў значок, прысвечаны Слоніму, а музей СШ № 4 атрымаў залаты медаль Галоўнага камітэта ВДНГ у Маскве.

«За перамогу камунізму» — сведка многіх падзей, якія адбываліся на Слонімшчыне ў той час. У 1970-х гадах раёнка інфармавала сваіх чытачоў, як ішло будаўніцтва Слонімскай камвольна-прадзільнай фабрыкі, раённай бальніцы, гандлёвага цэнтра ў вёсцы Сялявічы і г. д. Вядома ж, на сваіх старонках газета адводзіла месца для гістарычных матэрыялаў, культуралагічных, літаратурных старонак і куткоў. Актыўна ў той час друкавалі свае творы на старонках раёнкі Анатоль Іверс, Алесь Сучок, Рудольф Пастухоў, Алена Руцкая, Алег Лойка, Мікола Арочка і іншыя мясцовыя літаратары. Вельмі папулярнай сярод чытачоў была сатырычная старонка Кандрата Стружкіна. Прыдуманы журналістамі газетны герой «здымаў стружку» з гультаёў, злодзеяў, прайдзісветаў і махляроў. Шмат гадоў ролю Стружкіна ў газеце «іграў» журналіст Рыгор Капусцін.

[1] Афанасик В. Газета-юбилярка // Слонімскі веснік. 2014. 23 верас.; http://www.slonves.by/2014/09/gazeta-yubilyarka/




ИНФОРМАЦИОННЫЙ ВЕСТНИК

*У 1990 годзе выдаваўся «Інфармацыйны веснік Слонімскага гаркама камсамола»*

Пасля абвяшчэння ў СССР у сярэдзіне 1980-х гадоў «перабудовы» марудна, але няўхільна пачала змяняцца атмасфера ў тагачаснай краіне. Змены прарываліся ва ўсе сферы жыцця, у тым ліку і ў ідэалогію. У слонімскай газеце стала менш малацікавага для чытача афіцыёзу, а больш рэзанансных матэрыялаў, краязнаўчых артыкулаў. З 1986 года галоўным рэдактарам газеты «За перамогу камунізму» быў Сяргей Прасняк. Менавіта пры ім выданне змяніла маральна састарэлую назву і стала з 1991 года называцца «Слонімскім веснікам». Назва прыжылася і захавалася да сённяшніх дзён.


Молодёжь Слонима

*Цікавым гарадскім выданнем была газета «Моладзь Слоніма»*

У 1990 годзе малады грамадскі актывіст Руслан Генюш пры Слонімскім гаркаме камсамола распачынае выпуск **«Информационного вестника»** накладам ад 1000 да 1500 асобнікаў. Гэта было па тым часе смелае выданне для горада і раёна. Акрамя афіцыйных невялікіх інфармацый гаркама камсамола рэдактар друкаваў розныя бульварныя навіны, здарэнні сярод моладзі, гістарычныя артыкулы па гісторыі моладзевага руху на Слонімшчыне ў 1920–1930-х гадах. Выйшла тры нумары на рускай і беларускай мовах.

А потым замест «Информационного вестника» Руслан Генюш пачаў выдаваць газету **«Молодёжь Слонима»**. Гэта было неперыядычнае выданне, орган Слонімскага гаркама камсамола. Пазіцыянавала яно сябе як «гарадскую маладзёжную газету». Газета выходзіла ў 1990–1991 гадах на рускай мове, беларускамоўныя матэрыялы былі рэдкасцю.

Змест вызначаўся разнастайнасцю і сапраўды мог зацікавіць маладых чытачоў. Выйшлі з друку ўсяго 4 нумары.

## Перыядычны слонімскі друк у незалежнай Рэспубліцы Беларусь

Абвяшчэнне дзяржаўнай незалежнасці Рэспублікі Беларусь 25 жніўня 1991 года і Белавежскія пагадненні, якія скасавалі СССР, паспрыялі дэмакратызацыі беларускага грамадства. Можна сказаць, што ў пачатку 1990-х гадоў зараджалася сапраўдная свабода слова: у кіёсках побач прадавалася дзяржаўная і недзяржаўная прэса, на апазіцыйныя выданні, якія легалізаваліся, можна было без праблем падпісацца. У Слоніме ў гэты час існаваў толькі «Слонімскі веснік». Яго наклад зменшыўся. Калі ў 1990 годзе ён складаў больш за 15 тысяч асобнікаў, дык у 1992–1994 гадах — каля 7 тысяч.

Спробы заснавання недзяржаўных выданняў у Слоніме рабіліся яшчэ ў сярэдзіне 1990-х. У 1995–1996 гадах выходзіла спецыялізаванае спартыўнае выданне — «інфармацыйна-аналітычны веснік» **«Футбольный меридиан»**. Гэта было рускамоўнае агульнарэспубліканскае выданне, яго наклад складаў 3 тысячы асобнікаў. Выдаўцамі былі Руслан Корнеў і Сяргей Бузун, галоўнымі рэдактарамі — Корнеў (№ 1, 2 і 4) і Бузун (№ 3). Газета пісала пра навіны сусветнага і беларускага футбола, друкавала статыстыку, аналітычныя матэрыялы. Паколькі газета выдавалася ў Слоніме, не дзіўна, што шмат увагі надавалася менавіта слонімскаму футболу, яго гісторыі. Агулам выйшлі 4 нумары, апошні — восенню 1996 года, калі слонімскі «Камунальнік» заваяваў права гуляць у вышэйшай лізе чэмпіянату Беларусі.


ФУТБОЛЬНЫЙ МЕРИДИАН

*У сярэдзіне 1990-х у Слоніме выдавалася рэспубліканская спартыўная газета «Футбольны мерыдыян»*

Па некаторых звестках, у 1996–1997 гадах была зарэгістравана газета «Городок», якая чамусьці не пачала выдавацца. У 1996 годзе выйшаў адзін нумар газеты **«Вечерний Слоним с Русланом Генюшем»**. Аднак распаўсюд нумару быў забаронены, і выданне спынілася. У красавіку 1997 года пачалося выданне недзяржаўнай **«Газеты Слонімскай»**. Ад самага пачатку гэта быў штотыднёвік, які выдаваўся на беларускай і рускай мовах. Стварылі яго журналіст Віктар Валадашчук (галоўны рэдактар), літаратар Сяргей Чыгрын і гісторык Сяргей Ёрш. Падкрэслівалася пераемнасць ад «GS», якую ў 1938–1939 гадах выдавалі ў Слоніме Людміла і Сяргей Новікі. Газета цікава пісала пра грамадска-палітычнае, культурнае, спартыўнае жыццё Слонімшчыны, пра крымінал і здарэнні. У ёй былі краязнаўчая і літаратурная старонкі. «ГС» друкавала кнігу Васіля Супруна «Дзеі над Шчарай», якая пасля выйшла асобным выданнем. З'яўляліся рэзанансныя публікацыі («Алег дадому не вярнуўся», «Што яны выраблялі!» ды іншыя), якія дапамагалі штотыднёвіку знаходзіць і заваёўваць давер свайго чытача. Паступова павялічваўся аб'ём газеты, паляпшалася якасць і разнастайнасць матэрыялаў. З'явіліся карэспандэнты ў суседніх раёнах — Дзятлаўскім, Мастоўскім і Зэльвенскім.



*Газета «Вячэрні Слонім з Русланам Генюшам» была надрукаваная, але не распаўсюджвалася*


Газета Слонімская

*У красавіку 1997 года пачаў выходзіць незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік «Газета Слонімская»*

«Газета Слонімская» склала канкурэнцыю афіцыйнаму «Слонімскаму весніку», што, безумоўна, пайшло яму на карысць. З 7 чэрвеня 1997 года рэдакцыя «Слонімскага весніка» пачала выпускаць рускамоўны бясплатны дадатак для падпісчыкаў — **«Мы приглашаем в гости»**. Меркавалася яго выдаваць раз на месяц.

18 кастрычніка 2002 года ўнітарнае прадпрыемства «Газета Слонімская» заснавала яшчэ адну газету — **«Отдушина»**. Выходзіць яна пачала восенню 2003 года[1]. Гэта быў таксама штотыднёвік, «масава-

[1] «Отдушина» — это когда от души // Газета Слонімская. 2003. № 43. 23–29 кастр.




*Штотыднёвік «Аддушына» пачаў выходзіць восенню 2003 года*

палітычная газета». Як можна меркаваць, яна мусіла стаць «страхоўкай» на выпадак, калі б улады закрылі «Газету Слонімскую». А такая пагроза сапраўды існавала. У 2008 годзе «Газета Слонімская» «стаяла на мяжы закрыцця». У яе забралі ліцэнзію на рознічны гандаль і пазбавілі памяшкання рэдакцыі. На перамовы з чыноўнікамі Слонімскага райвыканкама прыязджала з Мінска старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў Жанна Літвіна[1].

Нягледзячы на цяжкасці, «Газета Слонімская» працягвала існаваць, выжываць у неспрыяльных умовах. Знайшла сваё аблічча і «Отдушина». Яна змяшчала гутаркі з цікавымі людзьмі, слонімцамі і гасцямі горада, публікавала шмат матэрыялаў на культурную тэму. Была старонка для дзяцей «Праменьчык» (пазней яна перанеслася ў «Газету Слонімскую»), такія рубрыкі, як «Жанчыны нашага горада», «Вёска», «Глыбінка», «Навіны», «Грамадства», «Наша інтэрв'ю», «Погляд», «Гэта цікава», «Партрэт сучасніка», «Нявыдуманая гісторыя», «Такое жыццё», «Шлях да Бога», «Культура», «Мастацтва», «Цуд прыроды», «Увайдзі ў гісторыю свайго горада» і іншыя. Амаль на ўсіх старонках друкаваліся выказванні вялікіх людзей. У 2010–2011 гадах была апублікаваная дэтэктыўная аповесць Аляксея Якімовіча «Загадкавы храм».

У чэрвені 2011 года каляровая газета стала чорна-белай, замест 8 старонак засталося 4. З сакавіка 2012 года з'явіліся рэкламныя старонкі, стала больш літаратуры. «Отдушина» зноў выдавалася на 8 старонках. У тым жа годзе абедзве газеты пачалі прадавацца разам (32 старонкі «ГС» + 8 старонак «Отдушины»). На канец 2015 года гэта ўжо 40 старонак (24+16).

У «Слонімскім весніку» ў 2000-я гады неаднаразова мяняліся рэдактары: Марыя Данюк, Кірыл Ляшчанка, Васіль Афанасік, зноў Кірыл Ляшчанка. Са жніўня 2008 года рэдакцыя «Слонімскага весніка» выдавала бясплатны дадатак — рэкламна-забаўляльную газету **«Пят-**

---

[1] Жанна Літвіна: «Наша будучыня ў нашых руках» // Газета Слонімская. 2012. № 29. 11 ліп.



**ница Слонима»**. Гэта было пераважна рускамоўнае выданне. У 2009 годзе яго рэдактарам была **Аліна Чарныш**. У 2009 годзе выходзіў яшчэ адзін дадатак — **«Слоним школьный»**. Гэта таксама было пераважна рускамоўнае выданне, штотыднёвік. Рэдактарам яго была **Наталля Зайчук**.




*Сённяшні лагатып газеты «Слонімскі веснік»*

На сённяшні дзень «Слонімскі веснік» выдаецца тры разы на тыдзень. Праўда, адзін нумар здвоены (за аўторак-сераду, 24 старонкі, наклад — каля 3700 асобнікаў), таму рэальна «раёнка» выходзіць толькі двойчы на тыдзень. Пры гэтым нумар за суботу атрымліваюць толькі па падпісцы, у кіёскі ён чамусьці не трапляе.

«Газета Слонімская» і «Отдушина» выдаюцца раз на тыдзень накладам каля 4 тысяч асобнікаў. «Газеты Слонімскай» ужо выйшла амаль 1000 нумароў, «Отдушины» — амаль 600.

На жаль, як і ў «Газеце Слонімскай», дзе ў апошнія гады рускамоўных матэрыялаў стала ўсё больш, некаторыя нумары «Слонімскага весніка» цалкам рускамоўныя. Такога не было нават у савецкія часы, калі раённая газета выдавалася выключна на роднай мове. Яшчэ ў 1990-я гады рэдакцыя райгазеты з гонарам пісала: «“Слонімскі веснік” — адна са старэйшых беларускамоўных газет на Гродзеншчыне»[1].

Восенню 2011 года ў Слоніме пачала выходзіць газета **«Счастливый дом»**. Гэта было рэспубліканскае выданне. Яго першы нумар выйшаў накладам больш за 7550 асобнікаў. Галоўным рэдактарам была Марыя Данюк — былая галоўная рэдактарка «Слонімскага весніка». Выданне было малафарматнае, яно асвятляла тэмы кахання, сямейных праблемаў, змяшчала рэцэпты страваў, крыжаванкі. Яшчэ ў другой палове 2000-х падобных газетак у Беларусі выходзіла шмат, яны прадаваліся ў кіёсках, паштовых аддзяленнях і карысталіся пэўнай папулярнасцю. Аднак мода на іх, як і




*Першая старонка газеты «Шчаслівы дом»*

---

[1] Нашай газеце — 54 гады // Слонімскі веснік. 1993. 25 верас.




*«Жыровіцкая абіцель» мела рэкордны для Слонімшчыны наклад — 75 тысяч асобнікаў*




*Часопіс «Ступені» распаўсюджваецца па ўсёй Беларусі*

на ўсе папяровыя выданні, паступова пачала праходзіць — людзі розных узростаў усё больш захапляліся Інтэрнэтам. Відаць, гэта была адна з прычын (акрамя фінансавай), чаму «Счастливый дом» неўзабаве спыніў выхад. Ды і наклад «Счастливого дома» зменшыўся да 200 асобнікаў. Колькі ўсяго выйшла нумароў гэтай газеты, пакуль нам даведацца не ўдалося.

Слонімшчына мае багатую рэлігійную гісторыю. Сотні гадоў вернікаў з усёй Беларусі і замежжа прыцягвае Жыровіцкая святыня. Яна і сёння застаецца важным цэнтрам рэлігійнага жыцця ў нашай краіне. У Жыровічах знаходзяцца рэдакцыі чатырох (!) перыядычных выданняў — **«Жыровіцкая абіцель», «Ступени», «Стремянка»** і **«Колыбель»**. «Ступени» выдаюцца студэнтамі Мінскіх духоўнай акадэміі і семінарыі раз на квартал з чэрвеня 2000 года. Гэта агульнарэспубліканскае выданне, яно піша на тэмы рэлігіі, маралі, царкоўнай гісторыі Беларусі, асвятляе студэнцкае жыццё, змяшчае літаратурныя творы, хроніку акадэміі і семінарыі. «Жыровіцкая абіцель» — таксама рэспубліканскае выданне, «багаслоўска-літаратурна-мастацкі лісток», які выходзіць з 1997 года. Яго асаблівасць — тэксты друкуюцца не толькі на рускай і беларускай мовах (прычым на «тарашкевіцы»), але і на англійскай. Наклад дасягаў 75 тысяч асобнікаў. Гэта абсалютны рэкорд для слонімскага перыядычнага выдання ўсіх часоў. Рэдактар — паэт Зьніч (Алег Бембель, манах Іаан).

Многія нумары «Жыровіцкай абіцелі» тэматычныя, яны цалкам прысвечаныя, напрыклад, князю Канстанціну (Васілю) Астрожскаму, Дастаеўскаму і Каліноўскаму, старцам Жыровіцкай абіцелі, архімандрыту Гурыю і іншым асобам. Пастаянна на старонках «Жыровіцкай абіцелі» друкуюцца на беларускай мове творы паэта Зьніча, а таксама вершы студэнтаў Мінскай духоўнай семінарыі ў Жыровічах.



У сакавіку 2011 года ў Жыровічах з’явіўся першы нумар студэнцкай газеты Мінскіх духоўных школ **«Стремянка»,** якая з’яўляецца дадаткам да часопіса Мінскіх духоўных акадэміі і семінарыі «Ступени». Выйшла тры нумары на рускай мове.

З восені 2012 года ў Жыровічах пачаў выдавацца на рускай мове і дзіцячы праваслаўны часопіс **«Колыбель»**. Выходзіць ён да сённяшніх дзён накладам 299 асобнікаў. У часопісе публікуецца шмат артыкулаў, прысвечаных царкоўным святам, праваслаўным святыням, друкуюцца таксама дзіцячыя вершы, гульні, крыжаванкі, малюнкі.

Розныя рэкламныя выданні ў Слоніме ў апошні час то з’яўляюцца, то непрыкметна назаўсёды знікаюць. Сярод выданняў пакуль замацавалася на слонімскай прасторы рэкламна-даведачная газета на рускай мове **«Мой район»**. Яна распаўсюджваецца ў Слоніме бясплатна накладам 5 тысяч асобнікаў.

Зарэгістраванае ААТ «ЮниконСервис» у Слоніме выпусціла ў пачатку студзеня 2016 года на чатырох старонках сваю рэкламную газету **«ЮниконСервис»**, якая змяшчае розную рэкламу.

Як бачым, на Слонімшчыне існуе нямала перыядычных выданняў. У той жа час і ў нашым раёне назіраецца агульнасусветная тэндэнцыя змяншэння ўвагі людзей да папяровых СМІ. І з гэтым нічога не зробіш. Выжывуць тыя газеты і часопісы, якія заваююць свайго чытача і ў Інтэрнэце, наладзяць з ім кантакт у сацыяльных сетках. Пакуль жа сайты тых жа слонімскіх газет абнаўляюцца слабавата.




*Гэта толькі частка слонімскага самвыдату, які выходзіў з 1984 года*

# СЛОНІМСКІ САМВЫДАТ

Гісторыя слонімскага самвыдату (гэта значыць выданняў незарэгістраваных, выробленых рознымі тэхнічнымі сродкамі, неабавязкова ў друкарні) налічвае больш за трыццаць гадоў. Летам 1984 года ў Слоніме выйшаў «альманах вайсковае творчасці» пад назвай **«Набойні»**. Выдаваў яго на друкарцы Сяргей Астраўцоў, цяпер вядомы гродзенскі журналіст і літаратар, а ў той час — выпускнік Белдзяржуніверсітэта. У Слонім ён трапіў на вайсковыя студэнцкія зборы. Кожны ўзвод атрымаў заданне зрабіць насценную газету. Былыя студэнты зрабілі беларускамоўнае выданне, на вокладцы якога было пазначана: «Слонім, 1984, кніжня жаўнера "Варта"». У альманаху на 16 старонках змяшчаліся літаратурныя творы Сяргея Астраўцова і Сяргея Дубаўца. Было шмат гумару і іранізавання з вайсковых парадкаў. Ведаючы прымаўку «Як надзену партупею…» і тое, што з гумарам у вайскоўцаў слабавата, аўтары пісалі матэрыялы «з падтэкстам», іроніяй і нават сарказмам. Прыкладам, аб гэтым сведчыць допіс радавога Баймурадава «Харошы камандзір» (партрэтны накід), наследаванне газеце «Во славу Родине». Альбо перадавіца «Свежая праграма», замалёўка «Дзіўны лес», нататка «Наперад!», п'еска «Прыём пішчы», трыялет, прысвечаны яфрэйтару Германчуку…[1]. Хлопцы папросту высмейвалі дубаватыя армейскія парадкі. А кадравыя афіцэры не маглі зразумець сэнсу старажытнабеларускага слова «набойні» — гэта значыць снарады, боепрыпасы[2].

Цікава, што ў тым жа 1984 годзе пачаў выходзіць штоквартальны бюлетэнь Слонімскага раённага савета добраахвотнага Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры — **«Гісторыя вакол нас»**. Гэта была насценная газета, якую рэдагаваў Давід Зінгер. На макет наклейваўся машынапісны тэкст, фотаздымкі, загалоўкі пісаліся ад рукі. Выйшлі ўсяго некалькі нумароў. У адным з іх — нарысы пра подзвігі савецкіх воінаў і партызан пры вызваленні Слонімшчыны ад нямецкіх акупантаў, зацемкі пра ветэранаў. Паводле некаторых звестак, да выдання бюлетэня меў дачыненне Іван Міско (Анатоль Іверс), які ў

---

[1] Лабовіч Антон. «Самвыдат» Гродзеншчыны. Гродна, 2006. С. 15.

[2] Самвыдат Гарадзеншчыны (1996–2000 гг.): дапаможны даведачны каталог / уклад. Антон Лабовіч. Горадня: Ратуша, 2000. С. 21.

1976–1984 гадах быў сакратарам слонімскай структуры Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.

### Партыйныя выданні

Свае інфармацыйныя бюлетэні са слонімскіх суполак беларускіх палітычных партый выдавалі сябры Партыі камуністаў беларускай (ПКБ) і Партыі БНФ. У 1990-х — напачатку 2000-х гадоў патрэба ў такіх выданнях яшчэ была, паколькі інтэрнэт у той час не быў даступны значнай частцы беларусаў. Гэта сёння слонімцы даведваюцца навіны найперш з Сеціва, дзе ёсць вялізны выбар крыніц інфармацыі.

23 лютага 1996 года накладам 50 асобнікаў выйшаў інфармацыйны лісток Слонімскага раённага камітэта Партыі камуністаў Беларускай **«Наше время»** («Наш час»). Меркавалася, што ён стане штоквартальным выданнем. Матэрыялы, якія ў ім змяшчаліся, датычылі найперш жыцця і працы мясцовай партыйнай арганізацыі, дзейнасці правадыра бальшавіцкай партыі Уладзіміра Леніна. Рэдактарам быў Віктар Герасімчык.

Практычна ўсе нумары інфармацыйнага лістка выпускалі «дзедаўскім» спосабам. Тэксты набіраліся на пішучай машынцы, і пасля ўжо з дапамогай нажніц і клею «вярстаўся» кожны нумар, памнажаўся на ксераксе. З сёмага нумара інфармацыйны лісток змяніў сваю назву і стаў называцца **«Время — новости — события»** («Час — навіны — падзеі»), змяніўся таксама дызайн, шрыфт набору, а наклад павялічыўся да 150–170 асобнікаў. Да 2003 года выйшлі 19 нумароў[1]. У 2006 годзе выданне спыніла свой выхад.

Слонімская Рада БНФ на працягу некалькіх гадоў выдавала інфармацыйны бюлетэнь **«Змагар»**. Рэдагаваў яго Мікалай Ракевіч (пад псеўданімам «Паўлюк Дубіна»). У 1998–2000 гадах выйшлі 7 нумароў. У адрозненне ад значнай часткі слонімскага самвыдату, «Змагар» нейкі час выдаваўся ў друкарні. Наклад быў не большы за 299 асобнікаў. Бюлетэнь друкаваў публіцыстычныя і палемічныя матэрыялы, інфармацыю пра партыйныя справы, пра дзейнасць Слонімскай Рады БНФ, успаміны, вершы. У «Змагары» (1998, № 1) была надрукаваная

[1] Даведка пра выпуск слонімскім РК ПКБ інфармацыйнага лістка «Время — новости — события». Напісана В. Герасімчыкам у жніўні 2003 года. Захоўваецца ў архіве С. Ярша.



«Кароткая гісторыя Слонімскай арганізацыі Беларускага Народнага Фронту».

Варта згадаць і адзіны нумар «гісторыка-прапагандовага бюлетэня» незарэгістраванай Беларускай партыі свабоды **«Архівы свабоды»**. Ён выйшаў у Слоніме ў красавіку 1997 года. Выданне было агульнарэспубліканскае, змяшчала публікацыі пра гісторыю беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Распаўсюджваўся бюлетэнь у Мінску і іншых гарадах Беларусі[1].

### Афіцыйныя і ведамасныя

Самвыдат, які б выпускалі мясцовыя ўлады, — з’ява рэдкая. На Слонімшчыне вядомы пакуль толькі адзін такі выпадак. У 1999–2000 гадах выходзіў інфармацыйны бюлетэнь **«Слонимские ведомости»**. Выдавалі яго Слонімскі гарадскі савет і гарвыканкам. Рэдактарам быў Войцех Угрыновіч, старшыня гарсавета. У выданні змяшчалася разнастайная афіцыйная інфармацыя, у тым ліку шэраг рашэнняў гарадскіх уладаў, статыстычныя матэрыялы, інтэрв’ю з чыноўнікамі, вынікі перапісу насельніцтва 1999 года. Бюлетэнь выходзіў на беларускай і рускай мовах. «Слонимские ведомости» распаўсюджваліся ва ўстановах і арганізацыях горада. З’явіліся як мінімум тры нумары.

27 снежня 2007 года ААТ «Слонімскі мясакамбінат» выпусціў першы нумар сваёй ведамаснай газеты на рускай мове **«Пищевик»**. Газета выходзіць па сённяшні дзень. На яе старонках адлюстроўваецца жыццё і справы работнікаў Слонімскага мясакамбіната.

### Грамадскія

У канцы 1990-х — пачатку 2000-х гадоў на Слонімшчыне ўзнікла дастаткова шмат грамадскіх арганізацый, ініцыятываў. Многія з іх выпускалі свае бюлетэні. Сярод маладзёжных выданняў адзначым **«Вятрак»**, які выходзіў у вёсцы Мірная ў 2000–2004 гадах. Яго рэдагаваў Алег Шэлестаў. Ім жа быў выпушчаны яшчэ шэраг выданняў, многія з якіх абмяжоўваліся першым нумарам: **«Голас беларусаў»**, **«Беларускі бюлетэнь»**, **«Кампутарныя забавы»**, **«Паэтычная газета»**. У вёсцы Мірная Слонімскага раёна выйшаў і адзін нумар

[1] «Архівы свабоды» даступныя ў інтэрнэце: http://vytoki.net/?docs=00015483

«паэтычнага бюлетэня» **«Натхненне»**, яго рэдактарам быў Валерый Сакалоў. Варта адзначыць, што ўсе гэтыя выданні былі беларускамоўныя. Шкада, што невялікі беларускі творчы асяродак са сваім «газетным холдынгам» праіснаваў у Мірнай нядоўга.

У 1996 годзе кароткі час выходзіў грамадска-палітычны часопіс **«Душы бальшавіцкую гадзіну!»**. У 2000 годзе ў Слоніме з'явіўся адзін нумар экалагічнага выдання **«Жаўранак»**. Яго рэдагаваў Вячаслаў Бякета. Цімур Куц у 2001–2002 гадах выдаваў літаратурны бюлетэнь **«Look ahead»** («Глядзець наперад»), у якім друкаваліся вершы, проза.

Больш сталым выданнем быў беларускамоўны «слонімскі моладзевы бюлетэнь» пад назвай **«Ветразь»**. Ён выходзіў у Слоніме на працягу 1998–1999 гадоў, вызначаўся разнастайнай тэматыкай (нарысы пра мясцовыя грамадскія арганізацыі, хроніка, гістарычныя і праваабарончыя артыкулы). Адказным рэдактарам быў Алесь Масюк, кіраўнік грамадскага аб'яднання «Ветразь». Агулам выйшлі 7 нумароў бюлетэня, пасля чаго яго выданне спынілася. У 2004 годзе пры падтрымцы «Ветразя» кароткі час выдаваўся «бюлетэнь для падлеткаў і моладзі» пад назвай **«Ключ к себе»**.

Выданні для моладзі з'яўляліся рэгулярна, але існавалі нядоўга. У 2003 годзе выйшаў першы нумар «газеты для падлеткаў і моладзі Слонімшчыны» **«Званок»**. Галоўным рэдактарам быў Аляксей Якімовіч, яго намеснікам — Алег Шэлестаў. У адным мясцовым выданні з'явілася крытычная публікацыя: звярталася ўвага на тое, што «Званок» піша для падлеткаў на тэму сексу[1].

У 2004, 2007–2009 гадах Слонімская школа маладога журналіста выдавала неперыядычны бюлетэнь **«Тусоўка»**. У 2003 годзе грамадскае аб'яднанне «Воля да развіцця» выдала газету **«Слонімская святліца»**. У выданні змяшчаліся матэрыялы пра аднайменны падлеткавы клуб, артыкулы яго ўдзельнікаў. Рэдагавала газету Вольга Шынкевіч.

Слонімская суполка Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны ў 2001–2003 гады выдавала бюлетэнь **«Ветразь надзеі»**. Амаль усе нумары рэдагавала настаўніца і грамадская дзяячка Таццяна Трафімчык. У 2000–2003 гадах у Слоніме выходзіла рускамоўнае выданне

[1] Каваленка В. Зусім як неба і зямля // Газета Слонімская. 2003. № 48. 27 ліст. — 3 снеж.



Свабоднага прафсаюза Беларускага работнікаў КПФ — **«Камвольщик»**. Яго рэдактарам быў Віталь Яшану.

У наступныя гады нямала слонімскіх выданняў выходзіла ананімна. Напрыклад, **«Слонімскі праваабаронца»**, які выдаваўся ў 2003–2005, 2007–2009 гадах, пісаў на тэму абароны правоў чалавека. У 2008–2010 гадах выходзіў інфармацыйны грамадска-палітычны бюлетэнь **«Наш дом»**, які шмат увагі надаваў сацыяльнай праблематыцы, але пісаў і пра правы чалавека.

У 2010 годзе ў Слоніме накладам 200 асобнікаў кожны выйшла чатыры нумары бюлетэня **«Лякарня»**. У ім чытачы маглі атрымаць адказы на розныя медыцынскія пытанні: пра ўзаемаадносіны паміж лекарам і пацыентам, што трэба ведаць пацыентам у стацыянарнай бальніцы, аб правах пацыентаў і г. д. Разглядаліся пытанні і аб медыцыне ў іншых краінах Еўропы.

У 2011 годзе, калі рэспубліканская кампанія «Гавары праўду» вярнулася да грамадска-палітычнай дзейнасці, у Слоніме было вырашана выдаваць газету **«Правда Слонима»** на рускай і беларускай мовах. Але выйшаў толькі адзін нумар накладам 299 асобнікаў. Рэдактарам газеты быў Пётр Пабедкін. На старонках адзінага нумара былі апублікаваны матэрыялы на палітычную і эканамічную тэмы, а таксама шмат інфармацыі пад рубрыкай «Адным абзацам пра наша жыццё».

Восенню 2014 года ў Слоніме распачаў працу Грамадзянскі цэнтр на базе ўстановы «Шэгамедкансульт». Мэтай яго дзейнасці стала аказанне садзеяння грамадскім арганізацыям і ініцыятыўным групам грамадзян у іх узаемадачыненнях з мясцовымі органамі ўлады, адстойванні сваіх законных правоў і інтарэсаў, а таксама ў рэалізацыі грамадзянскіх ініцыятыў. А 1 снежня 2014 года Слонімскі грамадзянскі цэнтр пачаў выдаваць **«Інфармацыйны бюлетэнь»** на беларускай мове. На сваіх старонках «Інфармацыйны бюлетэнь» паведамляў аб дзейнасці грамадскіх актывістаў па мясцовым самакіраванні, падводзіў вынікі розных маніторынгаў, сустрэч, паездак. Адводзілася месца і для гісторыі Слоніма. Бюлетэнь пісаў пра Слонім у часы Вялікага Княства Літоўскага, пра магдэбургскае права і наш горад, пра футбольны турнір на прыз у гонар надання Слоніму магдэбургскага права.

## Школьныя выданні

У некаторых слонімскіх навучальных установах існавалі і існуюць сёння свае выданні. У гімназіі № 1 — бюлетэнь «**ВООМ**», у СШ № 2 — «**СМЭШ**», у СШ № 4 — **«Контакт»**, у СШ № 5 — **«Пятый элемент»,** у СШ № 7 — **«Школьная 7я»,** у СШ № 9 — **«Совершенно НЕсекретно»**, у Слонімскім дзяржаўным політэхнічным прафесійным ліцэі — **«Жизнь лицея»**, у Слонімскім раённым дзяржаўным агульнаадукацыйным ліцэі — **«НАШ ЛИцей»** і іншыя. У асноўным усе гэтыя выданні рускамоўныя. Толькі ў некаторых газетах трапляюцца асобныя маленькія інфармацыі па-беларуску і вершы юных паэтаў.

## Краязнаўчая перыёдыка

На Слонімшчыне ў 1990-я гады працавала нямала краязнаўцаў. Друкавалі яны свае матэрыялы ў мясцовым, абласным ці рэспубліканскім друку. Спецыялізаванага краязнаўчага выдання ў той час не было, хаця спробы яго заснаваць рабіліся. Да краязнаўчых можна аднесці бюлетэнь **«Бацькаўшчына»** Слонімскага маладзёжнага гісторыка-асветніцкага таварыства «Зялёны Гай» (рэдактар — Сяргей Ёрш). Адзіны нумар выйшаў у жніўні 1997 года. У ім была змешчана адозва рэдакцыі да чытачоў, інфармацыя пра дзейнасць таварыства «Зялёны Гай», артыкул пра пасляваеннае маладзёжнае падполле на Слонімшчыне.

У канцы 2000 года былі выдадзеныя два нумары беларускамоўнага краязнаўчага квартальніка **«Слонімскі край»** (рэдактар і выдавец — Сяргей Ёрш). У рэдакцыйным артыкуле ў першым нумары былі наступныя радкі:

«“Слонімскі край” з’явіўся менавіта для таго, каб прапагандаваць сярод народа нашу славутую мінуўшчыну. Часопіс разлічаны на настаўніка і школьніка, на гараджаніна і вяскоўца, на ўрадоўца і працаўніка недзяржаўнага сектару»[1].

У часопісе змяшчаліся як арыгінальныя матэрыялы, так і перадрукі. Адзначым некаторыя з публікацый: «Тунэль у Слоніме» Васіля Супруна, «Гісторыя слонімскага перыядычнага друку» Сяргея Ярша, «Парэцкая царква» Аляксандра Талерчыка, «Мусульмане на Слонімскай зямлі» Сулеймана Байрашэўскага, успаміны Пятра Пархуты «З пражытага». Выданне было спынена ў сувязі з пераездам у пачатку 2001 г. рэдактара і выдаўца ў Мінск.

[1] Наш край // Слонімскі край. 2000. № 1. С. 2.



Таксама выйшлі два нумары бюлетэня **«Слонімскі краязнаўца»** (у снежні 2000 года і ў лютым 2001 года). Гэта было выданне гісторыка-краязнаўчага гуртка пры грамадскай арганізацыі «Воля да развіцця». Змяшчала матэрыялы пра вандроўкі па Слонімшчыне, пра сустрэчы з вядомымі слонімскімі краязнаўцамі Васілём Супруном і Міхаілам Рылко, артыкул да 130-годдзя заснавальніка слонімскага краязнаўчага музея Язэпа Стаброўскага, гімн творчага аб’яднання «Вятрак» з вёскі Мірная, які напісаў Сяргей Чыгрын.

У 2002 годзе выйшаў адзін нумар гістарычнага бюлетэня **«Мой родны кут»**, рэдактарам якога быў Вячаслаў Бякета. У наступныя гады краязнаўчыя перыядычныя выданні ў Слоніме не выходзілі.

## Рэлігійныя выданні

Мы ўжо згадвалі пра зарэгістраваныя перыядычныя выданні «Жыровіцкая абіцель» і «Ступени». Акрамя іх існавалі на Слонімшчыне і некалькі незарэгістраваных рэлігійных газет. Вернікі з слонімскага праваслаўнага прыхода ў гонар іконы Маці Божай «Спаручніца грэшных» у 2000 годзе выдавалі на беларускай мове лісток **«Сцежка да матчынай веры»**. Выйшлі чатыры нумары. У іх змяшчаліся звароты да чытачоў, малітвы, парады, тлумачэнні, друкаваліся вершы.

Грэка-католікі Слонімшчыны ў 2000-м выдалі два нумары беларускамоўнага бюлетэня **«Наша вера»**. Ён змяшчаў хроніку жыцця грэка-каталіцкай парафіі Святой Тройцы (яна знаходзілася на стадыі рэгістрацыі), рэлігійныя матэрыялы, інфармацыю пра царкоўныя святы, вершы, пісаў пра новыя кнігі па гісторыі Уніі. Сярод гістарычных публікацый варта адзначыць успаміны Ніны Аляксеевай «Уніяты ў перадваенным Альберціне».

У тым жа 2000 годзе ў Слоніме з’явіўся яшчэ і бюлетэнь слонімскіх мусульман — **«НУР/СВЕТ»** («Святло»)[1]. Ён выходзіў на рускай мове. У выданні змяшчаліся разнастайныя рэлігійныя матэрыялы,

[1] Ёрш С. У слонімскіх мусульман з’явілася сваё выданне // Газета Слонімская. 2000. № 42 (175). 12–18 кастр.

інфармацыя пра святы, навіны. Рэдактарам і выдаўцом бюлетэня быў Сулейман Байрашэўскі.

Бюлетэнь выдаваўся да ліпеня 2003 года. Выйшла 33 нумары. «НУР/СВЕТ» распаўсюджваўся па мусульманскіх абшчынах у 18 гарадах Беларусі.

### Вясковыя

Многія вёскі Слонімшчыны паміраюць, там мала моладзі і проста актыўных, ініцыятыўных людзей. Таму пасля шматлікіх выдавецкіх праектаў у вёсцы Мірная ў пачатку 2000-х гадоў нам вядомы толькі адзін падобны факт. У 2007–2008 гадах у вёсцы Драпава выдавалася мясцовая газета **«Сельскія весткі»**. Яна была друкаваным органам сельскагаспадарчага кааператыва «Драпава», рэдагавалася Вячаславам Хвясько, намеснікам старшыні гаспадаркі па ідэалагічнай рабоце. Газета выдавалася 1 раз на дэкаду накладам 25–30 асобнікаў. Яна пісала пра дзейнасць кааператыва, сельсавета, школы, змяшчала раённыя навіны, нарысы пра заслужаных землякоў. Былі і крытычныя публікацыі: пра гультаёў і п’яніц. Выдаўцы сцвярджалі, што газета карысталася папулярнасцю ў мясцовых жыхароў, яе перадавалі «з рук у рукі»[1].

### Агульнарэспубліканскія

Сярод слонімскага самвыдату былі і выданні, разлічаныя не толькі на мясцовага чытача. Напрыклад, у 2000 годзе ў Слоніме выходзіў перыёдык **«Голас камбатанта»** — «газета ветэранаў беларускага вызвольнага руху». Першы нумар выйшаў у студзені, пасля перапынку ў ліпені аднавіўся выхад газеты, які працягваўся да канца года. Агулам выйшлі 5 нумароў (газета памнажалася на рызографе ці ксераксе). «Голас камбатанта» распаўсюджваўся не толькі ў Беларусі, але і ў замежжы (дасылаўся ў ЗША, Аўстралію, Польшчу, Літву, Расію). Змяшчаліся артыкулы, прысвечаныя найноўшай гісторыі Беларусі і яе асобам, публіцыстыка, успаміны, вершы, лісты ветэранаў, рэцэнзіі на кнігі. Былі і матэрыялы пра Слонімшчыну, яе гісторыю. Апошні (шосты) нумар газеты выйшаў вясной 2001 года ў Мінску…

[1] Чыгрын С. Вяскоўцы маюць свае «Сельскія весткі» // Газета Слонімская. 2008. № 3. 16 студз.



Гісторыя слонімскага самвыдату даволі багатая. Выходзілі выданні вельмі рознай тэматыкі, тэхнічнага выканання і ўзроўню. Некаторыя з іх пакінулі прыкметны след, іншыя, наадварот, зніклі ўжо пасля 1–2 нумароў. Па самвыдаце добра відаць, калі адзначалася найбольшая грамадская актыўнасць слонімцаў: гэта канец 1990-х — пачатак 2000-х гадоў. Пасля ўздымаў надыходзяць часы спаду актыўнасці, грамадскай апатыі, якія калісьці зноў зменяцца на лепшы, плённы, узнёслы перыяд. Вельмі хочацца ў гэта верыць. А пакуль канстатуем, што ў апошнія гады самвыдат у Слоніме практычна цалкам знік.

# ХРАНАЛОГІЯ СЛОНІМСКІХ ВЫДАННЯЎ

**1916**

DER SCHARA-LURCH

**1920**

УСТНАЯ ГАЗЕТА

**1922**

UNZER JOURNAL

**1924**

WIADOMOŚCI SŁONIMSKIE
GAZETA SŁONIMSKA
ECHO SŁONIMSKIE

**1925**

ECHO SŁONIMSKIE

**1926**

ECHO SŁONIMSKIE
JEDNODNIÓWKA WYSTAWOWA
SŁONIMER WORT

**1927**

SŁONIMER WORT

**1928**

BIBLJOTEK-WOK

**1928–1930**

NASZ GLOS
NASZE MYŚLI
ECHO ŻYROWIC

**1929**

HECHAWER
FOLK UN LAND
NASZA MYŚL
SŁONIMER ŁEBN
SŁONIMER WORT
ECHO SŁONIMSKIE

**1930**

W GÓRĘ SERCA
DER FRAJER SKOJT
ŻYROWIAK
NASZA MYŚL
SŁONIMER WORT
ECHO SŁONIMSKIE

**1931**

W GÓRĘ SERCA
ŻYROWIAK
KURJER SŁONIMSKI
NASZA MYŚL
MŁODY LITERAT
SŁONIMER WORT

**1932**

ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ
ŻYROWIAK
ПІЯНЕР
SŁONIMER JUDYSZE SZTYME
SLONIMER KURIER
SŁONIMER WORT
UNZER SZTYME

**1933**

ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ
DWAR SLONIM
ZORZA SŁONIMSKA
ZWIĄZKOWE ZARZEWIE
ŻYROWIAK
NASZ LOT
ПІЯНЕР
SŁONIMER WOCH
SŁONIMER WORT
UNZER CUKUNFT
ECHO MURÓW SZKOLNYCH

**1934**

ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ
ZWIĄZKOWE ZARZEWIE
ŻYROWIAK
KURIER SŁONIMSKI
SŁONIMER WORT
ECHO MURÓW SZKOLNYCH

**1935**

ZWIĄZKOWE ZARZEWIE
ZORZA SŁONIMSKA
ŻYROWIAK
KURIER SŁONIMSKI
SŁONIMER WORT
SŁONIMER ŁEBN
ECHO MURÓW SZKOLNYCH

**1936**

ZWIĄZKOWE ZARZEWIE
ŻYROWIAK
KURIER SŁONIMSKI
SŁONIMER WORT

**1937**

ZWIĄZKOWE ZARZEWIE
ŻYROWIAK
JEDNODNIÓWKA. 3.II.1937
KURIER SŁONIMSKI
SŁONIMER WORT
TYGODNIK SŁONIMSKI

**1938**

GAZETA SŁONIMSKA
ZWIĄZKOWE ZARZEWIE
ŻYROWIAK
SŁONIMER WORT

**1939**

ВОЛЬНАЯ ПРАЦА
GAZETA SŁONIMSKA
ZWIĄZKOWE ZARZEWIE
SŁONIMER WORT

**1940**

ВОЛЬНАЯ ПРАЦА

**1941**

ВОЛЬНАЯ ПРАЦА
SLONIMER KURIER

**1943**

ВОЛЬНАЯ ПРАЦА

**1944**

БАРАЦЬБА
ВОЛЬНАЯ ПРАЦА
SŁONIMSKI KURJER / СЛОНІМСКІ КУР'ЕР
СЛОНІМСКАЯ ГАЗЭТА

**1945–1949**

ВОЛЬНАЯ ПРАЦА
НА ШТУРМ! / КУТУЗОВЕЦ

**1950–1953**

ВОЛЬНАЯ ПРАЦА
ГОЛАС КАЛГАСНІКА
КУТУЗОВЕЦ
ТРЫБУНА КАЛГАСНІКА

**1954–1962**

ВОЛЬНАЯ ПРАЦА

**1962–1980-я**

ЗА ПЕРАМОГУ КАМУНІЗМА / ЗА ПЕРАМОГУ КАМУНІЗМУ

**1984**

ЗА ПЕРАМОГУ КАМУНІЗМУ

*САМВЫДАТ:*

ГІСТОРЫЯ ВАКОЛ НАС
НАБОЙНІ

**1990**

ИНФОРМАЦИОННЫЙ ВЕСТНИК
МОЛОДЁЖЬ СЛОНИМА
СЛОНІМСКІ ВЕСНІК

**1991**

МОЛОДЁЖЬ СЛОНИМА
ЗА ПЕРАМОГУ КАМУНІЗМУ

**1992–1995**

СЛОНІМСКІ ВЕСНІК

**1996**

ВЕЧЕРНИЙ СЛОНИМ С РУСЛАНОМ ГЕНЮШЕМ
СЛОНІМСКІ ВЕСНІК

*САМВЫДАТ:*

ДУШЫ БАЛЬШАВІЦКУЮ ГАДЗІНУ!
НАШЕ ВРЕМЯ

**1997**

ГАЗЕТА СЛОНІМСКАЯ
ЖЫРОВІЦКАЯ АБІЦЕЛЬ
СЛОНІМСКІ ВЕСНІК

*САМВЫДАТ:*

АРХІВЫ СВАБОДЫ
БАЦЬКАЎШЧЫНА
НАШЕ ВРЕМЯ

**1998**

ГАЗЕТА СЛОНІМСКАЯ
ЖЫРОВІЦКАЯ АБІЦЕЛЬ
СЛОНІМСКІ ВЕСНІК

*САМВЫДАТ:*

ВЕТРАЗЬ
ЗМАГАР

**1999**

ГАЗЕТА СЛОНІМСКАЯ
ЖЫРОВІЦКАЯ АБІЦЕЛЬ
СЛОНІМСКІ ВЕСНІК

*САМВЫДАТ:*

ВЕТРАЗЬ
ЗМАГАР

**2000**

ГАЗЕТА СЛОНІМСКАЯ
ЖЫРОВІЦКАЯ АБІЦЕЛЬ
СЛОНІМСКІ ВЕСНІК
СТУПЕНИ

*САМВЫДАТ:*

ГОЛАС КАМБАТАНТА
ЗМАГАР
КАМВОЛЬЩИК
НАША ВЕРА
НУР/СВЕТ
СЛОНІМСКІ КРАЙ
СЛОНІМСКІ КРАЯЗНАЎЦА
СЦЕЖКА ДА МАТЧЫНАЙ ВЕРЫ

**2001**

ГАЗЕТА СЛОНІМСКАЯ
ЖЫРОВІЦКАЯ АБІЦЕЛЬ
СЛОНІМСКІ ВЕСНІК
СТУПЕНИ

*САМВЫДАТ:*

АД Я ДА Я
БЕЛАРУСКІ БЮЛЕТЭНЬ
ВЕТРАЗЬ НАДЗЕІ
ВРЕМЯ — НОВОСТИ — СОБЫТИЯ
КАМПУТАРНЫЯ ЗАБАВЫ
КАМВОЛЬЩИК
LOOK AHEAD
НУР/СВЕТ
ПАЭТЫЧНАЯ ГАЗЕТА
СЛОНІМСКІ КРАЯЗНАЎЦА

**2002**

ГАЗЕТА СЛОНІМСКАЯ
ЖЫРОВІЦКАЯ АБІЦЕЛЬ
СЛОНІМСКІ ВЕСНІК
СТУПЕНИ

*САМВЫДАТ:*

ВЕТРАЗЬ НАДЗЕІ
ВРЕМЯ — НОВОСТИ — СОБЫТИЯ
ВЯТРАК
ГОЛАС БЕЛАРУСАЎ
КАМВОЛЬЩИК
LOOK AHEAD
МОЙ РОДНЫ КУТ
НАТХНЕННЕ
НУР/СВЕТ



УСЁ ПРА ЎСЁ

**2003**

ГАЗЕТА СЛОНІМСКАЯ
ЖЫРОВІЦКАЯ АБІЦЕЛЬ
ОТДУШИНА
СЛОНІМСКІ ВЕСНІК
СТУПЕНИ

*САМВЫДАТ:*

АД Я ДА Я
ВЕТРАЗЬ НАДЗЕІ
ВРЕМЯ — НОВОСТИ — СОБЫТИЯ
КАМВОЛЬЩИК
НУР/СВЕТ
СЛОНІМСКАЯ СВЯТЛІЦА
СЛОНІМСКІ ПРАВААБАРОНЦА

**2004**

ГАЗЕТА СЛОНІМСКАЯ
ЖЫРОВІЦКАЯ АБІЦЕЛЬ
ОТДУШИНА
СЛОНІМСКІ ВЕСНІК
СТУПЕНИ

*САМВЫДАТ:*

ВРЕМЯ — НОВОСТИ — СОБЫТИЯ
СЛОНІМСКІ ПРАВААБАРОНЦА
ТУСОЎКА

**2005**

ГАЗЕТА СЛОНІМСКАЯ
ЖЫРОВІЦКАЯ АБІЦЕЛЬ
ОТДУШИНА
СЛОНІМСКІ ВЕСНІК
СТУПЕНИ

*САМВЫДАТ:*

ВРЕМЯ — НОВОСТИ — СОБЫТИЯ
СЛОНІМСКІ ПРАВААБАРОНЦА

**2006**

ГАЗЕТА СЛОНІМСКАЯ
ЖЫРОВІЦКАЯ АБІЦЕЛЬ
ОТДУШИНА
СЛОНІМСКІ ВЕСНІК
СТУПЕНИ

*САМВЫДАТ:*

ВРЕМЯ — НОВОСТИ — СОБЫТИЯ

**2007**

ГАЗЕТА СЛОНІМСКАЯ
ЖЫРОВІЦКАЯ АБІЦЕЛЬ
ПИЩЕВИК
СЛОНІМСКІ ВЕСНІК
СТУПЕНИ
ОТДУШИНА

*САМВЫДАТ:*

СЕЛЬСКІЯ ВЕСТКІ
СЛОНІМСКІ ПРАВААБАРОНЦА
ТУСОЎКА

**2008**

ГАЗЕТА СЛОНІМСКАЯ
ЖЫРОВІЦКАЯ АБІЦЕЛЬ
ПИЩЕВИК
ПЯТНИЦА СЛОНИМА
СЛОНІМСКІ ВЕСНІК
СЛОНИМ ШКОЛЬНЫЙ
СТУПЕНИ
ОТДУШИНА

*САМВЫДАТ:*

НАШ ДОМ
НАШ ЛИЦЕЙ
СЕЛЬСКІЯ ВЕСТКІ
СЛОНІМСКІ ПРАВААБАРОНЦА
ТУСОЎКА

**2009**

ГАЗЕТА СЛОНІМСКАЯ
ЖЫРОВІЦКАЯ АБІЦЕЛЬ
ОТДУШИНА
ПИЩЕВИК
ПЯТНИЦА СЛОНИМА
СЛОНІМСКІ ВЕСНІК
СЛОНИМ ШКОЛЬНЫЙ
СТУПЕНИ

*САМВЫДАТ:*

НАШ ДОМ
НАШ ЛИЦЕЙ
СЛОНІМСКІ ПРАВААБАРОНЦА
SLONIM HOOLIGANS PRESENTS
ТУСОЎКА

**2010**

ГАЗЕТА СЛОНІМСКАЯ
ЖЫРОВІЦКАЯ АБІЦЕЛЬ
ПИЩЕВИК
СЛОНІМСКІ ВЕСНІК
СТУПЕНИ
ОТДУШИНА

*САМВЫДАТ:*

BOOM
ЛЯКАРНЯ
НАШ ДОМ
НАШ ЛИЦЕЙ

**2011**

ГАЗЕТА СЛОНІМСКАЯ
ЖЫРОВІЦКАЯ АБІЦЕЛЬ
ПИЩЕВИК
СЛОНІМСКІ ВЕСНІК
СТРЕМЯНКА
СТУПЕНИ
СЧАСТЛИВЫЙ ДОМ
ОТДУШИНА

*САМВЫДАТ:*

ЖИЗНЬ ЛИЦЕЯ
ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
КОНТАКТ
НАШ ЛИЦЕЙ
ПРАВДА СЛОНИМА
СОВЕРШЕННО НЕСЕКРЕТНО

**2012–2013**

ГАЗЕТА СЛОНІМСКАЯ
ЖЫРОВІЦКАЯ АБІЦЕЛЬ
КОЛЫБЕЛЬ
ОТДУШИНА
ПИЩЕВИК
СЛОНІМСКІ ВЕСНІК
СТУПЕНИ
СЧАСТЛИВЫЙ ДОМ

*САМВЫДАТ:*

BOOM
КОНТАКТ
СОВЕРШЕННО НЕСЕКРЕТНО

**2014**

ГАЗЕТА СЛОНІМСКАЯ
ЖЫРОВІЦКАЯ АБІЦЕЛЬ
КОЛЫБЕЛЬ
ОТДУШИНА
ПИЩЕВИК
СЛОНІМСКІ ВЕСНІК
СТУПЕНИ
СЧАСТЛИВЫЙ ДОМ

*САМВЫДАТ:*

BOOM
ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
СОВЕРШЕННО НЕСЕКРЕТНО

**2015**

ГАЗЕТА СЛОНІМСКАЯ
ЖЫРОВІЦКАЯ АБІЦЕЛЬ
КОЛЫБЕЛЬ
МОЙ РАЙОН
ОТДУШИНА
ПИЩЕВИК
СЛОНІМСКІ ВЕСНІК
СТУПЕНИ

*САМВЫДАТ:*

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
ПЯТЫЙ ЭЛЕМЕНТ
СОВЕРШЕННО НЕСЕКРЕТНО
ШКОЛЬНАЯ 7я



# ДАВЕДНІК ПЕРЫЯДЫЧНЫХ І САМВЫДАТАЎСКІХ ВЫДАННЯЎ



**АД Я ДА Я:** літаратурны альманах. Выдаваўся літаратурным гуртком падлеткавага клуба «Святліца», які існаваў пры грамадскім аб’яднанні «Воля да развіцця». Рэдактар — кіраўнік гуртка Мікола Кананoвіч. Першы нумар выйшаў у чэрвені 2001 года, другі — у лістападзе 2003 года. Вядома, што наклад № 2 складаў 600 асобнікаў, ён быў аддрукаваны ў Мінску. У альманахах змяшчаліся творы юных слонімскіх аўтараў, якія наведвалі літаратурны гурток.

*Крыніцы: Цішкевіч А. Ад я да я // Газета Слонімская. 2001. № 26. 28 чэрв. — 4 ліп.; Чыгрын С. Выйшаў з друку другі нумар літаратурнага альманаха // Газета Слонімская. 2003. № 48. 27 лістап. — 3 снеж.*


АРХІВЫ СВАБОДЫ

**АРХІВЫ СВАБОДЫ**: гісторыка-прапагандовы бюлетэнь незарэгістраванай Беларускай партыі свабоды. Агульнарэспубліканскае выданне. Першы нумар выйшаў у красавіку 1997 года. Галоўны рэдактар — Палын. Фармат — А4, аб’ём — 4 старонкі, машынапіс — ксеракопія. Наступны нумар, які анансаваўся, так і не пабачыў свет. Выданне спынена на першым нумары. Ён даступны ў Інтэрнэце: http://vytoki.net/?docs=00015483


БАРАЦЬБА

**БАРАЦЬБА**: орган Слонімскага антыфашысцкага камітэта. Падпольнае выданне. Выходзіла ў друкарні ў савецкім партызанскім атрадзе імя Дзяржынскага брыгады імя Ракасоўскага на поўдні Слонімскага раёна (у лясным урочышчы «Воўчыя норы»). У 1944 годзе выйшлі 2 нумары — № 1 (19 чэрвеня) і № 2 (28 чэрвеня). Змяшчала інфармацыю пра становішча на фронце, пра дзейнасць савецкага партызанскага руху, пра зверствы нямецкіх акупантаў, заклікала жыхароў Слонімшчыны да змагання з ворагам. Выходзіла пад дэвізам «Смерць нямецкім акупантам!». Рэдактарам быў Іван Міско (паэт Анатоль Іверс). Абодва нумары даступныя ў

інтэрнэце: http://old.nlb.by/vov70/index.php?path=/catalogue/view-711&menu_id=531



**БАЦЬКАЎШЧЫНА**: бюлетэнь Слонімскага маладзёжнага гісторыка-асветніцкага таварыства «Зялёны Гай». Першы нумар выйшаў у жніўні 1997 года. Фармат — А4, аб’ём — 2 старонкі, памнажаўся на ксераксе. Выдаваўся на «тарашкевіцы». Рэдактар — Сяргей Ёрш. Адзіны нумар бюлетэня змяшчае адозву рэдакцыі да чытачоў, інфармацыю пра дзейнасць таварыства «Зялёны Гай» і артыкул пра пасляваеннае маладзёжнае падполле на Слонімшчыне. Планавалася, што бюлетэнь стане месячнікам, аднак выхад спыніўся на № 1.

**БЕЛАРУСКІ БЮЛЕТЭНЬ**: аднаднёўка-ўлётка. Выйшла летам 2001 года. Фармат — А4, аб’ём — 2 старонкі, наклад — 250 асобнікаў. Выдаваўся «на правах унутранай дакументацыі» для распаўсюду «сярод нацыяналістычнай моладзі». Выдавец і склад рэдакцыі не пазначаны. Адзіны нумар выйшаў пры тэхнічнай дапамозе ТМА «Вятрак» (в. Мірная Слонімскага раёна). Змяшчаў палітычную публіцыстыку, заклікі да аб’яднання нацыянальных сілаў, інфармацыю пра дзейнасць «Ветрака».

*Крыніцы: Беларускі бюлетэнь зьявіўся ў вёсцы Мірная // Пагоня (Гродна). 2001. № 24. 14 чэрв.*

**BIBLJOTEK-WOK** («Тыдзень бібліятэкі»), аднадзёнка, яўрэйскае выданне. Выйшла ў красавіку 1928 года ў слонімскай друкарні Гурвіча. Рэдактар і выдавец — М. Рэзнік. У аднадзёнкі была толькі 1 старонка, яна нагадвала ўлётку.

*Крыніцы: Bibliografia polska 1901–1939. T. Jednodniywki. Warszawa: Biblioteka Narodowa, 2013. S. 318.*



**BOOM**: орган вучнёўскага самакіравання дзяржаўнай гімназіі № 1 г. Слоніма. Першы нумар выйшаў у снежні 2004 года пад кіраўніцтвам настаўніцы Марыны Жылінскай. На люты 2014 года выйшлі 30 нумароў. Рэдактар — Ганна Ільіна. Фармат — А3, аб’ём — 4–8 старонак.



**W GÓRĘ SERCA** («Угору сэрцы»): рэлігійны, выхаваўчы часопіс. Месячнік «марыянскага брацтва вучаніц семінарыі імя маці Марцэліны Дароўскай», якая існавала пры кляштары непакалянак у Слоніме. Выходзіў у Слоніме ў студзені 1930 — ліпені 1931 года на польскай мове. Змяшчаў артыкулы выхаваўчага, рэлігійнага зместу, часам — краязнаўчыя матэрыялы. Выдаваўся неперыядычна. У 1930 годзе выйшлі 8 нумароў часопіса, у 1931 годзе — 6 (апошні, ад чэрвеня-ліпеня 1931-га, быў здвоены — № 5–6). Адказным рэдактарам была В. Далецкая, галоўнымі рэдактарамі — М. Хадзыньская, Т. Шытко (№ 1–6), Марыя Гародка, Л. Кажан (ад № 7 за 1930 г.). Тры першыя нумары часопіса захаваліся ў Акадэмічнай бібліятэцы Літвы ў Вільні.

*Крыніцы: Anibros M. Czasopisma wileńskiego rejonu bibljograficznego w roku 1930 // Ateneum Wileńskie: czasopismo naukowe, poświęcone badaniom przeszłości ziem Wielkiego X. Litewskiego. R. 7, z. 3–4. Wilno, 1930. S. 944; Urzędowy wykaz czasopism wydawanych w Rzeczypospolitej Polskiej; dodatek miesięczny do Urzędowego wykazu druków. 1930. № 1. 31 stycznia. S. 3; Urzędowy wykaz czasopism wydawanych w Rzeczypospolitej Polskiej; dodatek miesięczny do Urzędowego wykazu druków. 1933. № 4. 30 kwietnia. S. 30; Orli lot (Кракаў). 1930. № 8. S. 147.*


ВЕТРАЗЬ

**ВЕТРАЗЬ**: слонімскі моладзевы бюлетэнь. Выходзіў у Слоніме ў 1998–1999 гадах. Адказны рэдактар — Алесь Масюк. Першы нумар выйшаў у ліпені 1998 года, на працягу 1999 года з’явіліся яшчэ 6 нумароў (агулам — 7 нумароў), пасля чаго выданне спынілася. Фармат — А4, аб’ём — ад 2 да 8 старонак, наклад — 200 асобнікаў. Бюлетэнь Слонімскага маладзёжнага грамадскага аб’яднання «Ветразь» вызначаўся разнастайнай тэматыкай. На яго старонках змяшчаліся навіны грамадскага жыцця Слонімшчыны, нарысы пра слонімскія арганізацыі, гістарычныя матэрыялы, вершы, допісы чытачоў. Існавалі праваабарончая рубрыка, якую вёў Юрый Апанасевіч, і рубрыка «Ці лягчэй кахаць у маладосці?» урача-псіхолага Генадзя Урбановіча. Немалы рэзананс выклікала публікацыя «Як у Жыровіцкім аграрна-тэхнічным каледжы змагаюцца з незалежнай прэсай» (1999. № 5).

*Крыніцы: Гутар М. Маладзёжны незалежніцкі рух на Слонімшчыне (гістарычны нарыс). Слонім, 2000. С. 11; Самвыдат Гарадзеншчыны. Горадня: Ратуша, 2000. С. 17.*



**ВЕТРАЗЬ НАДЗЕІ**: газета Слонімскай суполкі Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Выдавалася ў 2001–2003 гадах на беларускай мове. Рэдактары — Наталля Грасевіч (першы нумар), Тацццяна Трафімчык. Першы нумар выйшаў у лютым 2001 года. Фармат — А4, аб'ём — 4–8 старонак, наклад — 150–299 асобнікаў. Да лютага 2003 года з'явіліся 5 нумароў. У іх друкаваліся пераважна літаратурныя творы школьнага гуртка «Ветразь надзеі», артыкулы пра праблемы падлеткаў, тэсты. Адзін з нумароў быў тэматычны, з выказваннямі ад першай асобы пад рубрыкай «Чаму я размаўляю па-беларуску?». Выдаўцы газеты ставілі за мэту прыцягненне ўвагі грамадскасці да неабходнасці пашырэння ўжывання беларускай мовы, развіцця нацыянальнай свядомасці моладзі Слонімшчыны. Газета распаўсюджвалася ў слонімскіх навучальных установах.

*Крыніцы: У сьвет зьявіўся першы нумар газэты Слонімскага Таварыства Беларускай Мовы — «Ветразь надзеі» // 2001. Красавік. http://free.corefusion.net; Ветразь надзеі лунае ізноў // Новы рэсурс (Мінск). 2003. № 2 (17). Люты; «Чаму я размаўляю па-беларуску?» // Новы рэсурс. 2003. № 6–7 (21–22). Чэрвень–ліпень; Ракевіч М. Спеўнасць роднай мовы… // Биржа информации (Гродна). 2004. 15 крас.*



**ВЕЧЕРНИЙ СЛОНИМ С РУСЛАНОМ ГЕНЮШЕМ**: гарадская грамадска-інфармацыйная і рэкламная газета. Першы нумар, які стаў і апошнім, выйшаў у лістападзе 1996 года (заяўляўся выхад 2 разы на месяц). Фармат — А4, аб'ём — 4 старонкі. Мова выдання — руская, аднак была і адна беларускамоўная заметка. Заснавальнікам і рэдактарам быў Руслан Генюш, былы адказны рэдактар газеты «Молодежь Слонима» (1990–1991). Наклад нумара склаў 499 асобнікаў, ён выйшаў у слонімскай друкарні. Анансаваўся распаўсюд і ў суседніх гарадах Гродзенскай вобласці. Аднак слонімскія ўлады забаранілі распаўсюд газеты, чыноўнікі спасылаліся на яе «нізкі ўзровень».





**ВОЛЬНАЯ ПРАЦА**/ЗА ПЕРАМОГУ КАМУНІЗМА (пазней — ЗА ПЕРАМОГУ КАМУНІЗМУ). Гл.: **СЛОНІМСКІ ВЕСНІК**.



**ВРЕМЯ — новости — СОБЫТИЯ**: інфармацыйны лісток Слонімскага раённага камітэта Партыі камуністаў Беларусі. Гл.: **НАШЕ ВРЕМЯ**.

**WIADOMOŚCI SŁONIMSKIE** («Слонімскія паведамленні»): польскамоўны штотыднёвік, «прысвечаны справам палітычным, грамадскім і літаратурным». Выдаваўся ў Слоніме ў 1924 годзе. Галоўны рэдактар — прафесар Станіслаў Брохвіч-Левіньскі. Наклад газеты складаў 1000 асобнікаў. Падпіска з перасылкай каштавала 1.20 злотых на месяц, 3.50 злотых — на квартал. Нам вядома пра восем нумароў выдання, у тым жа 1924-м яго выхад быў спынены. Сем нумароў газеты «Wiadomości Słonimskie» (№ 1–3, 5–8 за 1924 год) захоўваюцца ў зборах Акадэмічнай бібліятэкі Літвы ў Вільні.

*Крыніцы: Katalog Prasowy PARA. Poznań, 1925. С. 23, 84.*



**ВЯТРАК**: бюлетэнь творчага маладзёжнага аб'яднання. Выходзіў неперыядычна ў 2000–2004 гадах у вёсцы Мірная Слонімскага раёна. Фармат — А4, аб'ём — ад 2 да 12 старонак, наклад — ад 50 да 299 асобнікаў. Галоўны рэдактар — Алег Шэлестаў. Змяшчаліся літаратурныя творы ўдзельнікаў аб'яднання «Вятрак», публіцыстыка, інтэрв'ю з настаўнікам, аўтарам падручніка па гісторыі Беларусі для 6 класа Васілём Ракуцем, уздымаліся праблемы жыцця вёскі, друкаваліся гістарычныя артыкулы. Памнажаўся на ксераксе, рызографе. Да 2004 года выйшлі 11 нумароў.

*Крыніцы: Гутар М. Маладзёжны незалежніцкі рух на Слонімшчыне (гістарычны нарыс). Слонім, 2000. С. 12.*

**GAZETA SŁONIMSKA** («Слонімская газета»): выданне, якое выходзіла нейкі час у 1924 годзе на польскай мове. Інфармацыі пра перыядычнасць, змест, рэдактара і выдаўца няма. Нават і пасля 1924 года ў некаторых рэкламных каталогах, спісах газет па інерцыі згадвалася «GS», хаця яна ўжо не выходзіла.

*Крыніцы: Spis gazet i czasopism Rzeczypospolitej Polskiej oraz poradnik reklamowy. Rocznik trzeci 1924/25 rok. Warszawa, [1924]. S. 16.*



**GAZETA SŁONIMSKA** («Слонімская газета»): штотыднёвік. Выдаваўся ў Слоніме ў канцы 1938 — напачатку 1939 года на польскай мове. Выдавец і рэдактар — Людміла Новік, жонка беларускага паэта Сяргея Новіка-Пеюна. Рэдакцыя знаходзілася ў іх доме на Агароднай вуліцы (цяпер — Багушэвіча). Усяго выйшлі 3 нумары: 25 снежня 1938 года, 1 і 8 студзеня 1939 года. У рэдакцыйным артыкуле падкрэслівалася, што «GS» — гэта «апалітычнае выданне», якое прызначанае для ўсіх слонімцаў, незалежна ад іх веравызнання ці нацыянальнасці. На яе старонках асвятлялася грамадскае, культурнае і эканамічнае жыццё Слонімшчыны, змяшчаліся літаратурныя творы, краязнаўчыя артыкулы, крымінальная хроніка. Газета апублікавала польскамоўны твор беларускага паэта Гальяша Леўчыка «Зімовая байка» (1938. № 1. 25 снежня), паведамленне Язэпа Стаброўскага пра дакумент XVII стагоддзя са збораў слонімскага музея (1939. № 1 (2). Штотыднёвік спыніў выхад найхутчэй з-за фінансавых праблемаў. Знаёмыя Новікаў сцвярджаюць, што ў іх не было сродкаў для выдання газеты. А спадзяванні на прыбыткі ад рэкламы, відаць, не спраўдзіліся. Магчыма, былі і іншыя прычыны, бо ў сакавіку 1939 года С. Новік-Пяюн быў арыштаваны польскімі ўладамі.

У Слоніме захаваліся два першыя нумары газеты, яны знаходзяцца ў архіўных зборах Народнага музея СШ № 4 імя А. Жукоўскага.

*Крыніцы: Ёрш С. Хто ж быў рэдактарам даваеннай «Газеты Слонімскай»? // Газета Слонімская. 1997. № 20. 17–23 кастр.; Ёрш С. Найстарэйшая слонімская незалежная газета // Газета Слонімская. 1998. № 51 (80). 17–23 снеж.*



**ГАЗЕТА СЛОНІМСКАЯ**: незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Выдаецца з 24 красавіка 1997 года. Галоўны рэдактар і выдавец — Віктар Валадашчук. Выходзіць на рускай і беларускай мовах. Распаўсюджваецца праз уласную сістэму распаўсюду ў Слонімскім, Зэльвенскім, Дзятлаўскім і Мастоўскім раёнах (мае адпаведныя рэгіянальныя старонкі). На канец 2015 года выйшла больш за 950 нумароў. Наклад складае каля 4 тысяч асобнікаў.





**ГІСТОРЫЯ ВАКОЛ НАС**: штоквартальны бюлетэнь Слонімскага райсавета добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. Насценная газета. На макет наклейваўся машынапісны тэкст, фотаздымкі, загалоўкі пісаліся ад рукі. Нам вядомы № 1 ад 1984 года. Змест — нарысы пра подзвігі савецкіх воінаў і партызан пры вызваленні Слонімшчыны ад нямецкіх акупантаў, зацемкі пра ветэранаў (напр., у № 1 — пра Фёдара Кавалеўскага). Выйшлі ўсяго некалькі нумароў. Рэдактар — Давід Зінгер. Паводле некаторых звестак, да выдання бюлетэня меў дачыненне Іван Міско (Анатоль Іверс).



**ГОЛАС БЕЛАРУСАЎ**: грамадска-палітычны штомесячны бюлетэнь. Адзіны нумар выйшаў у 2002 годзе. Фармат — А4, аб'ём — 4 старонкі, наклад — 299 асобнікаў. Галоўны рэдактар — Алег Шэлестаў. Змяшчаліся артыкулы на палітычную тэматыку, уздымаліся праблемы паўсядзённага жыцця, экалогіі.

*Крыніцы: Паведамленне А. Шэлестава С. Яршу ад 2003 г.*



**ГОЛАС КАЛГАСНІКА**: орган палітаддзела Рышчыцкай машынна-трактарнай станцыі (МТС) Слонімскага раёна. У пачатку 1950-х гадоў Рышчыцы яшчэ былі вёскай, з 1960-х — гэта мікрараён Слоніма. Газета выдавалася з 27 траўня 1950 года да 30 снежня 1953 года два разы (часам — тры разы) на тыдзень на беларускай мове. Агулам выйшлі 360 нумароў: 1950, № 1–58; 1951, № 1–100; 1952, № 1–100; 1953, № 1–102 (360). Наклад быў пастаянны на працягу чатырох гадоў выхаду — 500 асобнікаў. Аб'ём — 2 старонкі фармату А3. Газета пісала пра працу Рышчыцкай МТС, пра калгасы, якія адносіліся да яе зоны (часта згадваліся Жыровічы, Шылавічы, Чапялёва, Савічы, Новая Стража, Глоўсевічы), змяшчаліся крытычныя матэрыялы, карыкатуры, лісты чытачоў, літаратурныя творы, пастановы вышэйшых органаў улады БССР, СССР. У траўні–верасні 1950 года часовым выканаўцам абавязкаў адказнага рэдактара быў М. Баброў. Далей газету падпісваў Мікалай Бурсевіч, пасля зноў М. Баброў, Ф. Шапшэдаў, В. Зінавееў. З № 67 ад 26 жніўня 1953-га і да канца года рэдактарам быў К. Рамановіч. Газета спыніла выхад у сувязі з ліквi-

дацыяй палітаддзелаў МТС. Амаль поўны камплект выдання захоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі ў Мінску.

*Крыніцы: Газеты Беларускай ССР 1917 — 1975. Бібліяграфічны паказальнік. У 2 ч. Ч. 2. Мінск, 1985. С. 24.*



**ГОЛАС КАМБАТАНТА**: газета ветэранаў беларускага вызвольнага руху. Рэдактар і выдавец — Сяргей Ёрш. У 2000–2001 гадах выйшлі 6 нумароў (апошні — у Мінску). Фармат — А4, аб'ём — ад 4 да 8 старонак, наклад — ад 50 да 299 асобнікаў. Гэта было агульнарэспубліканскае выданне. Друкавала артыкулы пра ветэранаў беларускага вызваленчага руху, іх успаміны, вершы, допісы, расследаванні, інфармацыю пра новыя кнігі па беларускай гісторыі, некралогі. Памнажалася на ксераксе, рызографе, апошні нумар (2001, № 1(6), вясна) выйшаў друкам у Мінску.



**HECHAWER** («Таварыш»): яўрэйская аднадзёнка. Выйшла ў Слоніме ў друкарні Гурвіча ў траўні 1929 года. Адказны рэдактар і выдавец Я. Гэльбфарб. Мела 6 старонак. Гэта было выданне скаўцкай арганізацыі «Hanoar Haiwri».

*Крыніцы: Bibliografia polska 1901–1939. T. Jednodniówki. — Warszawa: Biblioteka Narodowa, 2013. S. 72.*



**ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!**: беларускі рэлігійны часопіс. Гэта было ўніяцкае выданне, месячнік. Таварыства айцоў езуітаў выдавала яго на некалькіх мовах, рэдактарам беларускай версіі быў айцец Антон Неманцэвіч. Часопіс друкаваўся ў Вільні, а рэдакцыя са студзеня 1932 да восені 1934 года знаходзілася ў Альбярціне (у той час ён не ўваходзіў у склад Слоніма). Агулам «слонімскіх» нумароў выйшла 34, апошні — № 10 за кастрычнік 1934 года. З лістапада 1934 года «Да злучэньня!» ужо не меў непасрэднай сувязі са Слонімшчынай, хаця і пісаў пра яе. Часопіс працягваў выдавацца да 1937 года. У ім змяшчаліся публіцыстыка, рэлігійныя, палемічныя, асветніцкія артыкулы, літаратурныя творы, навіны з жыцця ўніятаў у Альбярціне, Сынковічах, у іншых парафіях Заходняй Беларусі. Была і спецыяльная рубрыка для дзяцей.



**DER FRAJER SKOJT** («Вольны скаўт»): аднадзёнка. Яўрэйскае скаўцкае выданне. Выйшла ў кастрычніку 1930 года ў слонімскай друкарні Гурвіча. Выдаўцом была арганізацыя «Вольны скаўт». Адказны рэдактар — М. Рэзнік. Аб'ём — 15 старонак, былі ілюстрацыі.

*Крыніцы: Bibliografia polska 1901–1939. T. Jednodniówki. — Warszawa: Biblioteka Narodowa, 2013. S. 53.*



**DER SCHARA-LURCH** («Шчараўская Амфібія»; варыянт: «Шчараўская Жаба»): гумарыстычная газета («гумарыстычны часопіс шэрых палёў і зялёнай лістоты»), якая выходзіла ў 1916 годзе ў Слоніме пад нямецкай акупацыяй на нямецкай мове. Выдаўцамі былі нямецкія вайскоўцы. Калі выйшаў першы нумар, дакладна невядома (найхутчэй вясной). Газета выдавалася прыблізна раз на месяц. Вядома, што № 9 выйшаў 1 лістапада. Яшчэ адзін нумар быў выдадзены 20 снежня 1916 года, але яго парадкавы нумар невядомы. Няма інфармацыі і пра рэдактара. Вядома толькі, што рэдакцыя месцілася на Параднай вуліцы (цяпер — Першамайская). Дзявяты нумар выдання складаўся з 4 старонак. Газета пісалася ад рукі, на макет дадаваліся малюнкі, выкананыя таленавітым мастаком. Пасля гэтага яе памнажалі, верагодна, на шапірографе. Наклад невядомы. Ці выходзіла газета ў 1917 годзе, інфармацыі няма. Як вядома, Слонім знаходзіўся пад нямецкай акупацыяй да канца 1919 года.

Асобныя нумары газеты захаваліся ў зборах бібліятэкі Ягелонскага ўніверсітэта ў Кракаве (Польшча), у Бундэсархіве (Федэральным архіве Германіі) у Кобленцы: 1916, № 9, 1 лістапада; № ?, 20 снежня. Найбольшая калекцыя (6 розных нумароў выдання) захоўваецца ў бібліятэцы Стэнфардскага ўніверсітэта ў Каліфорніі (ЗША): 1916, № 3–4, 7–10.

«DER SCHARA-LURCH» — першае слонімскае перыядычнае выданне. У 2016 годзе яму споўніцца 100 гадоў.




**DWAR SLONIM**: яўрэйская газета, аднадзёнка. Выйшла ў лістападзе 1933 года ў Слоніме. Выдавец і рэдактар невядомыя.

**ДУШЫ БАЛЬШАВІЦКУЮ ГАДЗІНУ!**: часопіс. Выданне незарэгістраванай беларускай нацыяналістычнай групы «Жалезны Воўк».

Змяшчала палітычную публіцыстыку, праграмныя дакументы, заявы, гістарычныя матэрыялы, вершы. Адрас рэдакцыі — «Воўчыя Норы». Вядомы № 1 ад лютага 1996 года і № 2 ад сакавіка 1996 года. Фармат — А4, машынапіснае. Галоўны рэдактар — Палын.

*Крыніцы: Суднік С. «Душы бальшавіцкую гадзіну» // Пагоня. 1996. № 12. 22–28 сак.; Свободные новости-плюс. 1996. № 10. Сакавік.*

**JEDNODNIÓWKA WYSTAWOWA**: газета, аднадзёнка. Выйшла ў 1926 годзе ў Слоніме на польскай мове. Пра гэтае выданне згадвае слонімскі гісторык Годэль Гольдберг. Да якой выставы быў прымеркаваны выхад аднадзёнкі, невядома.

*Крыніцы: Goldberg G. Zarys dziejów miasta Słonima. S. 62.*



**JEDNODNIÓWKA. 3.II.1937** — выданне слонімскай філіі асацыяцыі «Вайсковая сям'я» («Stowarzyszenie "Rodzina Wojskowa", Koło Słonim»). Аднадзёнка ад 3 лютага 1937 года на польскай мове. Выйшла ў друкарні «Rekord» накладам 150 асобнікаў, аб'ём — 8 старонак, мае вокладку. Аднадзёнка прымеркавана да свята вайсковай сям'і. За рэдакцыйны камітэт нумар падпісала рэдактар Ганарата Сандэёва (Honorata Sądejowa). У газеце распавядаецца пра свята вайсковай сям'і, пра дзейнасць арганізацыі, быў змешчаны склад кіраўніцтва слонімскай філіі, нарыс пра гісторыю Слоніма, пра помнік ахвярам бальшавікоў, устаноўлены каля вайсковых казармаў, друкаваліся вершы. На асобніку, які захоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве, стаіць штамп: «Староства Слонімскае. Абавязковы асобнік». На апошняй старонцы вокладкі штампам пастаўлена дата: 5 траўня 1937 года. Што яна азначае, невядома. Па некаторых звестках, падобныя аднадзёнкі асацыяцыя «Вайсковая сям'я» выдавала і ў ранейшыя гады на сваё лютаўскае свята.

*Крыніцы: Święto Rodziny Wojskowej // Kurjer Nowogródzki. 1937. № 35. 5 lutego.*



**ЖАЎРАНАК**: інфармацыйны бюлетэнь моладзевага клуба аховы прыроды. Адзіны нумар выйшаў у снежні 2000 года. Фармат — А5, аб'ём — 12 старонак, наклад — 299 асобнікаў. Рэдактарам быў Вячаслаў Бякета. Першы і адзіны нумар бюлетэня незарэгістраванага слонімскага клуба аховы прыроды «Жаўранак» змяшчае зварот рэдакцыі да чытачоў, гісторыю стварэння арганізацыі, навіны, аб'явы пра конкурсы, а таксама вершы паэтаў Івана Карэнды і Аляксея Белага, нарыс пра мастака Алеся Фалея ды інш.

*Крыніцы: Чыгрын С. Слонімскі «Жаўранак» // Газета Слонімская. 2001. № 8. 22–28 лют.*



**ЖИЗНЬ ЛИЦЕЯ** («Жыццё ліцэя»): газета. Выдавалася ў 2011 годзе ў Слонімскім дзяржаўным політэхнічным прафесійным ліцэі на рускай мове. Нам вядомыя № 1 (студзень) і № 2 (сакавік). Газета была заснавана з ініцыятывы кіраўніцтва навучальнай установы. Змяшчала артыкулы пра імпрэзы, пра арганізацыю пазакласнай работы, нагадвала пра нормы дысцыплінарнай адказнасці навучэнцаў.

*Крыніцы: Плешко Ж. Жыццё ліцэя на газетных старонках // Отдушина. 2011. № 15. 6 крас.*



**ЖЫРОВІЦКАЯ АБІЦЕЛЬ**: багаслоўска-літаратурна-мастацкі лісток. Выходзіць у Жыровічах з 1997 года. Рэспубліканскае выданне. Тэксты друкуюцца на рускай, беларускай і англійскай мовах. Наклад дасягаў 75 тысяч асобнікаў — абсалютны рэкорд для слонімскага перыядычнага выдання ўсіх часоў. Лісток рэдагуе жыровіцкі літаратар Алег Бембель (Зьніч, ён жа манах Іаан). Выйшла ўжо 95 нумароў. Апошні нумар надрукаваны накладам 1000 асобнікаў.



**ŻYROWIAK** («Жыравяк»): часопіс вучняў Жыровіцкай дзяржаўнай сельскагаспадарчай і лясной школы. Выходзіў у 1928–1938 гадах на польскай мове. Выдаўцом было сяброўскае таварыства навучэнцаў школы. Першы нумар выйшаў у лістападзе 1928 года. № 1–8 у 1928–1930 гадах памнажаліся ў школе на капіравальным апараце (верагодна, на шапірографе), аб'ём нумара складаў некалькі старонак, наклад — 60–70 асобнікаў. У гэты час часопіс не меў сталай назвы, першыя нумары выходзілі пад назвамі «Echo Żyrowic» («Рэха Жыровіц»), «Nasz Głos» («Наш Голас») і «Nasze Myśli» («Нашыя Думкі»). Выданне паведамляла пра жыццё школьнага інтэрната, пра

вандроўкі, змяшчала абвесткі, шмат сатыры і гумару, лісты выпускнікоў. Планавалася, што часопіс будзе выходзіць штомесяц, але выдаваць яго атрымлівалася раз на 2–3 месяцы. З № 9 ад кастрычніка 1930 года часопіс пад назвай «Żyrowiak» пачаў друкавацца ў слонімскай друкарні Паразоўскага па Гандлёвай плошчы. Аб'ём складаў 8–26 старонак, наклад — 200–300 асобнікаў. У першым квартале 1931 года часопіс выходзіў штомесячна (вядомы № 3 ад 31 сакавіка 1931 года). Пра далейшую перыядычнасць інфармацыі няма. Агулам выйшла крыху больш за 30 нумароў часопіса.

*Крыніцы: Urzędowy wykaz czasopism wydawanych w Rzeczypospolitej Polskiej; dodatek miesięczny do Urzędowego wykazu druków. 1931. № 3. 31 marca. S. 17; Wychowanie w szkole żyrowickiej // http://bialowieza.lasy.pl/sekcja-9/65-nwzs/402-wychowanie-w-szkole-zyrowickiej.html*





**ЗА ПЕРАМОГУ КАМУНІЗМА** /ЗА ПЕРАМОГУ КАМУНІЗМУ. Гл.: **СЛОНІМСКІ ВЕСНІК**.



**ЗВАНОК**: газета для падлеткаў і моладзі Слонімшчыны. Беларускамоўнае выданне. Першы нумар выйшаў у 2003 годзе. Фармат — А5, аб'ём — 16 старонак. Галоўны рэдактар — Аляксей Якімовіч, намеснік галоўнага рэдактара — Алег Шэлестаў. Пісала пра праблемы моладзі, змяшчала літаратурныя творы. Выйшлі тры нумары.

*Крыніцы: Каваленка В. Зусім як неба і зямля // Газета Слонімская. 2003. № 48. 27 лістап. — 3 снеж.*



**ZWIĄZKOWE ZARZEWIE** («Саюзны ачаг», варыянт: «Саюзны агмень»): газета, прысвечаная арганізацыйным, асветным і грамадскім справам Слонімшчыны. Выданне паветовага аддзела Саюза польскага настаўніцтва ў Слоніме. Першы нумар выйшаў у верасні 1933 года. Рэдакцыя і адміністрацыя знаходзілася па адрасе: г. Слонім, вуліца Маршалка Пілсудскага (цяпер — Савецкая), 5. Часопіс выдаваўся ў друкарні «Rekord» (вуліца Сянкевіча, 18). Перыядычнасць невядомая. Няма звестак і пра рэдактара. Выданне выходзіла да 1939 года.

*Крыніцы: Urzędowy wykaz czasopism wydawanych w Rzeczypospolitej Polskiej; dodatek miesięczny do Urzędowego wykazu druków. 1933. № 12. 31 grudnia. S. 73; Kałuski Marian. Polskie czasopisma pedagogiczne i oświatowe wydawane na Kresach do 1939 roku // http://www.kworum.com.pl/art4418,polska_przedmurzem.html*



**ЗМАГАР**: выданне Слонімскай Рады БНФ. Рэдактар — Паўлюк Дубіна (Мікалай Ракевіч). Фармат — А4, аб'ём — 4 старонкі, наклад — 199–299 асобнікаў. Першы нумар выйшаў у красавіку-траўні 1998 года. У 1998 годзе з'явіліся 4 нумары, у 1999 годзе — 2, у 2000 годзе — 1 (агулам выйшлі 7 нумароў). Выданне Слонімскай Рады БНФ выходзіла «на правах унутранай дакументацыі». Выдавалася друкам (першыя 4 нумары) і на рызографе. Змяшчала публіцыстычныя і палемічныя матэрыялы, інфармацыю пра партыйныя справы, пра гісторыю і дзейнасць Слонімскай Рады БНФ, успаміны, вершы, рэдкія фотаздымкі.

*Крыніцы: Самвыдат Гарадзеншчыны. Горадня: Ратуша, 2000. С. 31.*



**ZORZA SŁONIMSKA** («Слонімская зара»): каталіцкая газета, выдавалася ў Слоніме верагодна з чэрвеня 1933 года на польскай мове. Выходзіла ў форме аднадзёнак, як друкаваны орган «парафіяльнай Акцыі Каталіцкай у Слоніме». Аб'ём нумароў складаў 20–36 старонак. Выданне мела рэлігійны змест, але змяшчаліся і краязнаўчыя публікацыі. Шмат публікавалася рознай местачковай рэкламы. Адказнымі рэдактарамі ў 1933–1935 гадах былі Чэслаў Цялега, Рамуальд Світкоўскі, Станіслаў Цесляк. Газета выходзіла, верагодна, да пачатку Другой сусветнай вайны.

*Крыніцы: Wiadomości Akcji Katolickiej Archidiecezji Wileńskiej. 1933. № 6–7. Czerwiec–lipiec. S. 6; Паведамленне сланімчанкі Веры Іванаўны Занямонскай Сяргею Яршу ад красавіка 2000 г.; Pietrzkiewicz I. Wizytacje słonimskiej szkoły kanoników regularnych laterańskich // Ars Educandi. Źródła. T. 1. Studia z dziejów wychowania i kształcenia od średniowiecza do XIX wieku. Mysłowice, 2009. S. 237; Kościoły i klasztory rzymskokatolickie dawnego województwa nowogródzkiego. T. 3, Miasto Słonim. Kraków: Międzynarodowe Centrum Kultury, 2013. S. 183; Bibliografia polska 1901–1939. T. Jednodniywki.Warszawa: Biblioteka Narodowa, 2013. S. 364.*



**ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ**: выданне Слонімскага грамадскага цэнтра. Першы нумар з'явіўся 1 снежня 2014 года. Выйшла з друку 4 нумары (першыя тры — на беларускай мове, № 4 — на рускай мове). Рэдагуе выданне Іван Шэга. Наклад на выданні не пазначаны.



**ИНФОРМАЦИОННЫЙ ВЕСТНИК** («Інфармацыйны веснік»): выданне Слонімскага гаркама камсамола. Выходзіла ў 1990 годзе. Адказным за яго выпуск быў Руслан Генюш. Газета выдавалася ў Слонімскай друкарні накладам 1000–1500 асобнікаў. Выходзіла ў асноўным на рускай мове, але былі і асобныя артыкулы па-беларуску. Найперш тыя, дзе распавядалася пра гісторыю моладзевага руху на Слонімшчыне ў 1920–1930-х гадах, якія пісаў па просьбе рэдактара Сяргей Чыгрын. Выйшлі тры нумары.



**КАМВОЛЬЩИК** («Камвольшчык»): лісток (з № 2 — інфармацыйны бюлетэнь) суполкі Свабоднага прафсаюза Беларускага работнікаў ААТ «Камвольна-прадзільная фабрыка». Выходзіў з траўня 2000 года да сакавіка 2003 года. У 2000-м з'явіліся 4 нумары (№ 3–4 — здвоены), у 2001 годзе — 6, у 2002 годзе — 10, у 2003 годзе — 1. Агулам выйшаў 21 нумар. Фармат — А4, аб'ём — ад 2 да 4 старонак, наклад — ад 99 да 299 асобнікаў. Рэдактар — Віталь Яшану.

Бюлетэнь змяшчаў матэрыялы на прафсаюзную тэматыку, тлумачыў мэты і тактыку Свабоднага прафсаюза, заклікаў працоўных да абароны сваіх правоў, пісаў пра стыхійны выступ работніц слонімскай фабрыкі пер'е-пухавых вырабаў. Распаўсюджваўся на правах унутранай дакументацыі. Мова бюлетэня — руская.

*Крыніцы: Ёрш С. Профсоюзное издание // Газета Слонімская. 2000. № 25 (158). 15–21 чэрв.*

**КАМПУТАРНЫЯ ЗАБАВЫ**: бюлетэнь. Адзіны нумар маладзёжнага выдання выйшаў у вёсцы Мірная Слонімскага раёна ў 2001 годзе. Фармат — А4, наклад — 250 асобнікаў. Рэдактар — Алег Шэлестаў.

*Крыніцы: Паведамленне А. Шэлестава С. Яршу ад 2003 года.*





**КЛЮЧ К СЕБЕ** («Ключ да сябе»): бюлетэнь для дзяцей і моладзі. Выходзіў у Слоніме ў 2004 годзе на рускай мове. Вядомыя № 1 ад лютага і № 2 ад чэрвеня. Фармат — А5, аб'ём — ад 16 да 32 старонак, наклад — 299 асобнікаў. Рэдактар — Аксана Барысевіч. Выдаваўся пры падтрымцы Слонімскага маладзёжнага грамадскага аб'яднання «Ветразь». У рэдакцыйным артыкуле адзначалася, што мэта бюлетэня — «дапамагчы ў пошуку ісціны і даць парады, як можна вырашыць розныя праблемы, якія стаяць перад падлеткамі і моладдзю ды падаюцца невырашальнымі».



**КОЛЫБЕЛЬ** («Калыска»): дзіцячы рускамоўны праваслаўны часопіс Навагрудскай епархіі. Выходзіць у Жыровічах штомесячна з лістапада 2012 года накладам 299 асобнікаў. Часопіс выдаюць святар Аляксандр Насека і журналістка Ксенія Пачкоўская. Выйшла ўжо каля 70 нумароў.



**КОНТАКТ** («Кантакт»): газета дзяржаўнай установы адукацыі «Сярэдняя школа № 4 імя П. І. Батава г. Слоніма». Выходзіць з 2011 года. Фармат — А4, аб'ём — 4 старонкі. Першым рэдактарам была Вікторыя Юрчак. Цяпер газету рэдагуе Таццяна Шышко. Выйшла 18 нумароў. Змяшчае навіны навучальнай установы, віншаванні, падзякі, вершы, бліц-апытанні, тэксты вучняў на самыя разнастайныя тэмы.




**KURJER SŁONIMSKI** («Слонімскі кур'ер»): штодзённае выданне. Газета пачала выдавацца ў 1931 годзе, аднавіла свой выхад у 1934-м, праіснавала да 1937 года. Рэдакцыя, адміністрацыя і друкарня месціліся ў Вільні. Выдаўцом быў Станіслаў Мацкевіч, які выдаваў віленскую газету «Słowo». Яе рэгіянальныя варыянты з'яўляліся пад рознымі назвамі ў Навагрудку, Баранавічах, Гродне, пазней — у Слоніме, Пінску. Вядома, што ў Слоніме невялічкая рэдакцыя (філія віленскай) знаходзілася на Студэнцкай вуліцы, 30 (штодня працавала толькі дзве гадзіны). У слонімскай газеце большасць матэрыялаў былі з віленскага «Слова» — пра міжнародныя падзеі, навіны з Польшчы, гістарычныя, літаратурныя публікацыі. Да

іх дадаваліся навіны са Слоніма і Слонімшчыны. Асноўным слонімскім журналістам быў чыноўнік старосства беларус Віктар Клімкевіч. Шмат увагі ён надаваў гарадскім праблемам (стан вуліц, іх асвятлення), пісаў пра кошты на рынку, пра праблемы гандлю, пра спорт. Падрабязна асвятлялася дзейнасць органаў улады, шматлікіх польскіх грамадскіх арганізацый, культурнае жыццё. Дзякуючы газеце захавалася падрабязная крымінальная хроніка 1930-х гадоў. Колькі выйшла нумароў, дакладна невядома, але лічба блізкая да тысячы. «Слонімскі кур'ер» стаў першай і апошняй штодзённай газетай у гісторыі Слоніма.

*Крыніцы: Urzędowy wykaz czasopism wydawanych w Rzeczypospolitej Polskiej; dodatek miesięczny do Urzędowego wykazu druków. 1934. № 11. 30 listopada. S. 58.*



**КУТУЗОВЕЦ** («Кутузавец»): чырвонаармейская газета. З 1943 года выходзіла пад назвай «На штурм!», у Слоніме — з 1944–1945 гадоў. Адказнымі рэдактарамі былі М. Сапожнікаў і М. Аляскоўскі. Да траўня 1945 года выходзіла пад дэвізам: «Смерць нямецкім акупантам!», пазней — «За нашу савецкую Радзіму!». У 1944 годзе выйшлі 199 нумароў (256 — ад пачатку выдання), да 19 жніўня 1945 года выйшлі 165 нумароў. Газета была ілюстраваная, друкавала афіцыйныя матэрыялы, інфармавала пра міжнароднае становішча, змяшчала інфармацыю пра жыццё вайсковай часці. Месца яе размяшчэння (Слонім) не называлася. Падаваўся наступны адрас рэдакцыі: Палявая пошта 32037 — Б. За межы вайсковай часці газету выносіць забаранялася, таму звычайныя слонімцы пра яе нічога не ведалі. Наклад газеты невядомы. Дзесьці ў пачатку 1946 года назва газеты «На штурм!» была зменена на «Кутузовец». Адказны рэдактар — М. Аляскоўскі, намеснік адказнага рэдактара — А. Пекін. Фармат — А3, аб'ём — 2 старонкі. Нам вядомыя № 21 ад 20 лютага 1946 года і № 61 ад 3 чэрвеня 1946 года. (агульная нумарацыя складала 277 нумароў, а значыць, улічваліся нумары «На штурм!» толькі за 1945 год). У 1946 годзе газета выходзіла тры разы на тыдзень. «Кутузовец» пісаў найперш пра будні вайсковай часці, змяшчаў пастановы савецкага ўраду, друкаваў дакументы Нюрнбергскага судовага працэсу над нацысцкімі злачынцамі. Наклад газеты невядомы. Па недакладнай інфармацыі, выдавалася да пачатку 1960-х гадоў.





**LOOK AHEAD** («Глядзець наперад»): літаратурны бюлетэнь. Выходзіў у Слоніме ў 2001–2002 гадах. Рэдактар — Цімур Куц. Фармат — А4, аб'ём — 8 старонак, наклад — 250–299 асобнікаў. У 2001 годзе выйшлі 3 нумары, яшчэ 1 — у 2002 годзе (агулам — 4 нумары). Бюлетэнь незарэгістраванага моладзевага літаратурнага аб'яднання «Рунь» (з верасня 2001 года), мэтай якога дэкларавалася «развіццё таленту маладых творцаў». Друкаваў вершы, прозу ды іншыя творы. Памнажаўся на рызографе.

*Крыніцы: Новыя выданні // Вятрак. 2002. № 7.*




**ЛЯКАРНЯ**: бюлетэнь Слонімскага лекарскага звязу. Выдаваўся ў Слоніме накладам 200 асобнікаў на беларускай мове ў 2010 годзе. Выйшла 4 нумары. Бюлетэнь рэдагаваў Іван Шэга.



**MŁODY LITERAT** («Малады літаратар»): выданне слонімскай гімназіі імя Тадэвуша Касцюшкі. Да яго выходзіў часопіс «Nasza myśl». Адзіны вядомы нам нумар выйшаў у 1931 годзе на польскай мове. Рэдактарам быў вучань М. Клімовіч. У выдання быў літаратурны ўхіл, аднак асвятляліся падзеі ў гімназіі, у Польшчы. Паводле задумы выдаўцоў, гэта мусіў быць месячнік. У Слоніме не захавалася гэтага выдання, некалькі асобнікаў першага нумара ёсць у бібліятэках Вільні (Літва) і Торуня (Польшча).

*Крыніцы: Urzędowy wykaz czasopism wydawanych w Rzeczypospolitej Polskiej; dodatek miesięczny do Urzędowego wykazu druków. 1933. № 10. 31 października. S. 61.*



**МОЙ РАЙОН** («Мой раён»): рэкламна-даведачная газета прыватнага рэкламнага ўнітарнага прадпрыемства «БенефітМедыя» (Гродна). Выдаецца ў апошнія гады ў Слоніме накладам 5000 асобнікаў на 16 старонках на рускай мове. Рэдактар — Таццяна Ігнацік. Выйшла 18 нумароў.

**МОЙ РОДНЫ КУТ**: гістарычны бюлетэнь. Адзіны нумар выйшаў у студзені 2002 года. Галоўны рэдактар — Вячаслаў Бякета. Фармат —

А4, аб'ём — 2 старонкі, наклад — 50 асобнікаў. Адзіны нумар бюлетэня змяшчае інфармацыю пра тагачасны Слонім, нарыс пра гісторыю слонімскага краязнаўчага музея імя Язэпа Стаброўскага.

*Крыніцы: Паведамленне А. Шэлестава С. Яршу ад 2003 г.*



**МОЛОДЁЖЬ СЛОНИМА** («Моладзь Слоніма»): гарадская маладзёжная газета. Выходзіла ў 1990–1991 гадах. Пабачылі свет 4 нумары. Заснавальнікам газеты з'яўляўся Слонімскі гарадскі камітэт Ленінскага камуністычнага саюза моладзі Беларусі. Заяўлялася пра штомесячнае выданне, што, аднак, не вытрымлівалася, газета выходзіла неперыядычна (па 2 нумары ў кожным годзе, фармат — А4, аб'ём — 4 старонкі). Змяшчаліся артыкулы пра праблемы слонімскай моладзі, навіны, крымінал, гістарычныя матэрыялы, вершы, абвесткі, была рубрыка «Бульварныя навіны». Газета выходзіла пад дэвізам «За правы маладых!» на рускай і беларускай мовах. Рэдакцыя знаходзілася ў Слоніме па вул. Першамайскай, 10 (у гаркаме ЛКСМБ). Адказным рэдактарам быў Руслан Генюш. Апошні вядомы нам нумар выйшаў у траўні 1991 года.



**НАБОЙНІ**: альманах вайсковае творчасці. Выйшаў у Слоніме летам 1984 года. Машынапіснае выданне. Фармат — А4, аб'ём — 16 старонак. Выдавец — Сяргей Астраўцоў. Ён разам з іншымі выпускнікамі БДУ быў на вайсковых студэнцкіх зборах у Слоніме. Альманах змяшчаў літаратурныя творы С. Астраўцова і С. Дубаўца. На выданні пазначана: «Слонім, 1984, Кніжня жаўнера "Варта"».

*Крыніцы: Пазацэнзурны пэрыядычны друк Беларусі (1971–1990). Каталёг. Менск, 1998. С. 32–33; Ёрш С. Самвыдат Гарадзеншчыны // Газета Слонімская. 2000. № 23. 1–7 чэрв.*




**NAKUNDES**: аднадзёнка, выйшла на ідыш у Слоніме ў жніўні 1926 года. Была пазначана першым нумарам. Пра выдаўца і рэдактара нічога невядома.



**НАТХНЕННЕ**: паэтычны бюлетэнь Саюза маладых паэтаў. Адзіны нумар выйшаў у 2002 годзе ў вёсцы Мірная Слонімскага раёна. Рэдактар — Валерый Сакалоў. Фармат — А4, аб'ём — 4 старонкі, наклад — 150–200 асобнікаў. Змяшчаліся літаратурныя творы сябраў літаратурнага аб'яднання.

*Крыніцы: Новыя выданні // Вятрак. 2002. № 7.*

**NASZ GŁOS** («Наш Голас»): часопіс вучняў Жыровіцкай дзяржаўнай сельскагаспадарча-лясной школы. Гл.: **ŻYROWIAK**.




**НАШ ДОМ**: слонімскі інфармацыйны грамадска-палітычны бюлетэнь. Выдаваўся ў 2008–2010 гадах. Рэдагаваў выданне Алесь Масюк. Выйшла ўсяго 14 нумароў. Фармат — А4, аб'ём — 4 старонкі, наклад — 299 асобнікаў.

Тэматыкай выдання была сацыяльная праблематыка, правы чалавека і працоўных, змяшчаліся навіны і абвесткі. Першыя тры нумары прысвечаны камунальным пытанням, інфармаванню насельніцтва аб дзейнасці «Таварыства ўласнікаў», аб тым, што і ў якія тэрміны павінны рабіць работнікі жыллёва-эксплуатацыйнай службы. У № 4(7) ад траўня 2009 года быў змешчаны некралог «Памёр Леанід Мацвеевіч Журовіч».




**НАШ ЛИцей** («Наш Ліцэй»): газета Слонімскага раённага дзяржаўнага агульнаадукацыйнага ліцэя. Выдаецца з 2008 года на рускай мове, асобныя артыкулы і вершы апублікаваны па-беларуску. У Слонімскай друкарні надрукавана 14 нумароў накладам 299 асобнікаў кожны. Газету рэдагавала настаўніца роднай мовы і літаратуры Алёна Турко, якая ўжо не працуе ў ліцэі. Фармат газеты — А4, аб'ём — 12 старонак. Цяпер газета выдаецца нерэгулярна. На старонках выдання шырока адлюстроўвалася жыццё ліцэя: вучэбны працэс, адпачынак, конкурсы, творчасць і спорт. У кожным нумары друкаваліся вершы ліцэістаў. Дар'я Бобчык і Кацярына Гурская вершы пісалі і друкавалі па-беларуску.

**NASZ LOT** («Наш палёт»): аднадзёнка слонімскага павятовага аддзела Саюза польскага настаўніцтва. Выйшла 4 лютага 1933 года з нагоды 10-х угодкаў існавання павятовага аддзела СПН (1922–1932 гады) і правядзення з'езда настаўнікаў. Была надрукаваная ў Варшаве. Адзін з артыкулаў аднадзёнкі (Мечыслава Гальскага — «Слонімшчына»)

згадвае Годэль Гольдберг у сваёй кнізе пра гісторыю Слоніма. Рэдактарам быў згаданы М. Гальскі. Газета мела 38 старонак.

*Крыніцы: Zjazd nauczycielski w Słonimie // Kurjer Nowogródzki. 1933. № 34. 4 lutego; Zarys dziejów miasta Słonima. S. 51; Bibliografia polska 1901–1939. T. Jednodniówki. Warszawa: Biblioteka Narodowa, 2013. S. 385; https://books.google.by/books/about/Nasz_lot.html?id=GQSJmwEACAAJ&hl=ru*



**НАША ВЕРА**: газета грэка-католікаў (уніятаў) Слонімшчыны. Выходзіла вясной-летам 2000 года ў Слоніме ў мікрараёне Альбярцін. Рэдактар — Сяргей Ёрш. № 1 з'явіўся ў сакавіку, № 2 — у жніўні. Фармат — А4, аб'ём — ад 6 да 8 старонак, наклад — 299 асобнікаў. Памнажалася на рызографе. Газета выдавалася слонімскай грэка-каталіцкай парафіяй Святой Тройцы, якая знаходзілася на стадыі рэгістрацыі. Змяшчала хроніку жыцця слонімскіх грэка-католікаў, рэлігійныя матэрыялы, інфармацыю пра царкоўныя святы, вершы, пісала пра новыя кнігі па гісторыі Уніі. Сярод гістарычных публікацый варта адзначыць успаміны Ніны Аляксеевай «Уніяты ў перадваенным Альбярціне» (№ 1).



**NASZA MYŚL** («Наша думка»): часопіс, які выдавалі навучэнцы гімназіі імя Тадэвуша Касцюшкі (у яе будынку ў пасляваенны час знаходзіўся вучэбна-вытворчы камбінат) і настаўніцкай семінарыі (у паваенны час — СШ № 1, цяпер — ліцэй). Выходзіў раз на месяц (перапынкі рабіліся на час летніх вакацый). Нумарацыя пачыналася не з пачатку каляндарнага года, а з пачатку новага года навучальнага. У 1929 годзе выйшлі 2 нумары, у першым паўгоддзі 1930 года — 6. Атрымліваецца, што за першы год выдання (1929/1930) пабачылі свет 8 нумароў. У кастрычніку–снежні 1930 года выйшлі тры нумары часопіса, а ў студзені–сакавіку 1931 года яшчэ тры — № 4–6 (12–14). Верагодна, яны з'яўляліся і ў красавіку–чэрвені. Апошні вядомы нам нумар выйшаў у кастрычніку 1931 года. Часопіс пісаў пра жыццё гімназіі і семінарыі, змяшчаў літаратурныя творы, артыкулы пра гісторыю Слоніма, пра турыстычныя вандроўкі, друкаваў публіцыстыку. Адказнымі рэдактарамі былі настаўнікі, галоўнымі рэдактарамі — навучэнцы. Нам вядомыя амаль усе іх прозвішчы. Адказнымі рэдактарамі былі Я. Тырко, Ст. Сянас, С. Яўдыньскі, В. Сэрвацкая, Рымдзянкова, галоўнымі рэдактарамі — А. Юрэвіч, Л. Стахурскі, Ул. Карэньчук, М. Міхальскі, Ул. Шыдлоўскі, Віхровуўна, Казакевіч і Клімовіч. У лістападзе 1931 года выйшаў пад назвай «Młody literat». Традыцыі часопіса «Nasza Myśl» з 1933 года працягваў месячнік «Echo Murów Szkolnych» («Рэха школьных муроў»).

*Крыніцы: Anibros M. Czasopisma wileńskiego rejonu bibljograficznego w roku 1930 // Ateneum Wileńskie: czasopismo naukowe, poświęcone badaniom przeszłości ziem Wielkiego X. Litewskiego. R. 7, z. 3–4. Wilno, 1930. S. 944; «Nasza Myśl» — wznowiona // Kurjer Nowogródzki. 1931. № 22. 12 października; Z życia Seminarjum Naucz. w Słonimie // Kurjer Nowogródzki. 1931. № 30. 22 października; Ёрш С. Слонімскія гімназісты // Газета Слонімская. 1999. № 39. 23–29 верас.*



**НАШЕ ВРЕМЯ** («Наш час»): бюлетэнь слонімскіх камуністаў. Рэдагавала «грамадская рэдакцыйная калегія», адказным рэдактарам быў Віктар Герасімчык. Першы нумар выйшаў 23 лютага 1996 года накладам 50 асобнікаў. Машынапісны макет памнажаўся на ксераксе. Бюлетэнь выходзіў на рускай і беларускай мовах. Планавалася, што гэта будзе квартальнік, аднак выдаваўся неперыядычна. Змяняўся і фармат — А3 ці А4. З № 7 (год невядомы) змяніў назву на **«ВРЕМЯ — новости — СОБЫТИЯ»**. Гэта ўжо быў інфармацыйны лісток Слонімскага раённага камітэта Партыі камуністаў Беларускай. Фармат — А4, наклад — 150–170 асобнікаў. Выходзіў пад лозунгам: «Прыхільнікі камуністычнага шляху — аб'ядноўвайцеся!».

Змяшчаў публіцыстыку, палемічныя артыкулы, літаратурныя творы. Летам 2006 года выданне спыніла выхад. Усяго выйшла 34 нумары.

*Крыніца: Даведка пра выпуск інфармацыйнага лістка Слонімскага РК ПКБ, напісаная В. Герасімчыкам на замову С. Ярша ў жніўні 2003 г.*

**NASZE MYŚLI** («Нашыя Думкі»): часопіс вучняў Жыровіцкай дзяржаўнай сельскагаспадарча-лясной школы. Гл.: **ŻYROWIAK**.



**НА ШТУРМ!**: чырвонаармейская газета. Гл.: **КУТУЗОВЕЦ**.



**НУР/СВЕТ** («Святло»): грамадскі бюлетэнь Слонімскага рэлігійнага аб'яднання мусульман. Выдаваўся ў 2000–2003 гадах. Першы нумар выйшаў у канцы 2000 года. Фармат — А4, аб'ём — 6 старонак, наклад — 299 асобнікаў. Рэдактар — Сулейман Байрашэўскі. У 2000 годзе выйшлі 2 нумары, у 2001 годзе — 12, у 2002 годзе — 12, у студзені–траўні 2003 года — 7. Бюлетэнь выдаваўся да ліпеня 2003 года. Выйшла 33 нумары. Ён распаўсюджваўся па мусульманскіх абшчынах у 18 гарадах Беларусі.

Выданне агульнарэспубліканскае, месячнік. Выходзіла на трох мовах: рускай, беларускай і арабскай. Змяшчала звароты да вернікаў-мусульманаў, інфармацыйныя матэрыялы пра рэлігійныя святы, рэлігійны каляндар, віншаванні, абвесткі, беларускамоўныя вершы. Бюлетэнь памнажаўся на рызографе.

*Крыніцы: Ёрш С. У слонімскіх мусульман з'явілася сваё выданне // Газета Слонімская. 2000. № 42 (175). 12–18 кастр.*



**ОТДУШИНА** («Аддушына»): масава-палітычная газета. Заснаваная 18 кастрычніка 2002 года ўнітарным прадпрыемствам «Газета Слонімская». Газета пачала выходзіць восенню 2003 года. Штотыднёвік. Галоўны рэдактар — Віктар Валадашчук. Змяшчала гутаркі з цікавымі людзьмі, была старонка для дзяцей «Праменьчык» (пазней яна перанеслася ў «ГС»), рубрыкі «Жанчыны нашага горада», «Вёска», «Глыбінка», «Навіны», «Грамадства», «Наша інтэрв'ю», «Погляд», «Гэта цікава», «Партрэт сучасніка», «Нявыдуманая гісторыя», «Такое жыццё», «Шлях да Бога», «Культура», «Мастацтва», «Цуд прыроды», «Увайдзі ў гісторыю свайго горада». Амаль на ўсіх старонках змяшчаліся выказванні вялікіх людзей. Друкаваліся літаратурныя творы. У чэрвені 2011 года каляровая газета стала чорна-белай, замест 8 старонак выходзіла на чатырох. З сакавіка 2012 года з'явіліся рэкламныя старонкі, вярнуўся ранейшы аб'ём — 8 старонак. У тым жа годзе абедзве газеты пачалі прадавацца разам (32 старонкі «ГС» + 8 старонак «Отдушины»). На канец 2015 года «Газета Слонімская» стала выходзіць на 24 старонках, а «Отдушина» — на 16, разам — 40 старонак.

*Крыніцы: «Отдушина» — это когда от души // Газета Слонімская. 2003. № 43. 23–29 кастр.*



**ПАЭТЫЧНАЯ ГАЗЕТА**: газета юных паэтаў на Беларусі. Выходзіла ў 2001 годзе ў вёсцы Мірная Слонімскага раёна. Рэдактар — Алег Шэлестаў. У 2001 годзе выйшлі 2 нумары. Фармат — А4, аб'ём — 2 старонкі, наклад — 50–100 асобнікаў. Наступныя два нумары газеты рабіліся адмыслова для маладых паэтаў Магілёўшчыны. Выдавец — творчае маладзёжнае аб'яднанне «Вятрак». Газета змяшчала паэтычныя творы яго ўдзельнікаў. У звароце рэдакцыі дэкларавалася, што газета друкуе толькі беларускамоўныя творы. Планаваўся выхад выдання адзін раз у тры месяцы.

*Крыніцы: Паведамленне А. Шэлестава С. Яршу ад 2003 года.*



**ПИЩЕВИК** («Харчавік»): ведамасная газета ААТ «Слонімскі мясакамбінат». Выдаецца з 26 снежня 2007 года на рускай мове. Першым адказным рэдактарам газеты быў Аляксандр Трухан. Цяпер газету рэдагуе Ірына Зянько. Газета выпускаецца накладам 100 асобнікаў. Выйшла ўжо больш за 80 нумароў. Газета друкуецца ў Слонімскай друкарні.

**ПІЯНЕР**: беларускае падпольнае выданне. Выходзіла ў канцы 1932 — 1933 годзе ў вёсках Мялькнавічы і Какошчыцы Слонімскага павета пры падтрымцы падпольнага камсамола. Газету пісалі ад рукі і памнажалі на шапірографе (наклад — да 200 асобнікаў). Гэта было беларускамоўнае выданне, разлічанае найперш на моладзь. Яно пісала пра масавыя выступленні моладзі на Слонімшчыне, пра іх барацьбу за школу на роднай мове. Адказным рэдактарам газеты быў Уладзімір Бялько, былы вучань Віленскай беларускай гімназіі. У 1933 годзе яго закатавала польская паліцыя. У рэдкалегію ўваходзілі Іван і Пётр Дабрыяны, Антон Бішкірэвіч, Піліп Маркевіч, Мікалай Сакалоўскі. Дагэтуль не выяўлена ніводнага асобніка «Піянера».

*Крыніцы: Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Слонімскага раёна. Мінск: БЕЛТА, 2004. С. 169; Ёрш С. Лёс падпольшчыка // Газета Слонімская. 1999. № 44 (125). 28 кастр. — 3 лістап.*



**ПРАВДА СЛОНИМА** («Праўда Слоніма»): слонімскае выданне кампаніі «Гавары праўду». Выйшаў адзін нумар у 2011 годзе накладам 299 асобнікаў. Распаўсюджвалася бясплатна ў Слоніме і ў Слонімскім раёне. Рэдактарам газеты быў Пётр Пабедкін (псеўданім).



**ПЯТНИЦА СЛОНИМА** («Пятніца Слоніма»): бясплатная рэкламна-забаўляльная газета. Дадатак да газеты «Слонімскі веснік». Выдавалася са жніўня 2008 года на рускай і беларускай мовах. Выходзіла па пятніцах, распаўсюджвалася разам са «Слонімскім веснікам». Выйшаў 21 нумар у 2008 годзе і 37 нумароў у 2009 годзе. Апошні нумар выйшаў з друку 30 верасня 2009 года. Рэдактар — Аліна Чарныш.

*Крыніцы: Уважаемые земляки! // Слонімскі веснік. 2008. № 83. 23 ліп.*

**ПЯТЫЙ ЭЛЕМЕНТ**: газета дзяржаўнай установы адукацыі «Сярэдняя агульнаадукацыйная школа № 5 г. Слоніма». Першы нумар выйшаў 1 верасня 2015 года. Газета выдаецца на рускай мове, але ёсць і беларускамоўная старонка, прысвечана творчасці беларускіх літаратараў. Рэдактар — Зоя Карповіч. Выйшлі тры нумары.

**СЕЛЬСКІЯ ВЕСТКІ**: газета. Выдавалася ў 2007–2008 гадах у вёсцы Драпава Слонімскага раёна. Выдавец — сельскагаспадарчы кааператыў «Драпава», рэдактар — Вячаслаў Хвясько, намеснік старшыні гаспадаркі па ідэалагічнай рабоце. Газета выдавалася 1 раз на дэкаду накладам 25–30 асобнікаў. Яна паведамляла пра дзейнасць кааператыва, сельсавета, школы, змяшчала раённыя навіны, нарысы пра заслужаных землякоў, крытычныя публікацыі. Выдаўцы сцвярджалі, што газета карысталася папулярнасцю ў мясцовых жыхароў, яе перадавалі «з рук у рукі».

*Крыніцы: Чыгрын С. Вяскоўцы маюць свае «Сельскія весткі» // Газета Слонімская. 2008. № 3. 16 студз.; Чыгрын С. Вяскоўцы маюць свае «Сельскія весткі»// Белорусская нива. 2008. № 3. 16 студз.*




**SLONIM HOOLIGANS PRESENTS**: часопіс слонімскага футбольнага фан-руху. Першы і, відаць, апошні нумар выйшаў у 2009 годзе. Фармат — А5, аб'ём — 24 старонкі. У выданні змешчаны матэрыял пра гісторыю з'яўлення фан-руху ў Слоніме. У храналагічным парадку апісваецца, калі і колькі слонімскіх фанатаў прысутнічалі на матчах футбалістаў «Камунальніка». Падаецца інфармацыя пра дзейнасць футбольных фан-клубаў з іншых гарадоў.





**СЛОНИМ ШКОЛЬНЫЙ** («Слонім школьны»): штотыднёвік, дадатак да «Слонімскага весніка». Выдаваўся ў 2008–2009 гадах на рускай і беларускай мовах. Першы нумар убачыў свет 8 снежня 2008 года, апошні (№ 12) выйшаў з друку ў 2009 годзе. Рэдактар — Наталля Зайчук.



**SŁONIMER ŁEBN** («Слонімскае жыццё»): яўрэйская газета. Выходзіла ў Слоніме ў 1929 годзе. Вядомы № 4 газеты ад пятніцы, 30 жніўня. Рэдакцыя знаходзілася на Бернардынскай вуліцы, 17 (цяпер — вуліца Васі Крайняга).

**SŁONIMER ŁEBN** («Слонімскае жыццё»): яўрэйская газета, аднадзёнка. Магчыма, гэта была спроба рэанімаваць папярэдняе аднайменнае выданне. Аднадзёнка выйшла ў пятніцу, 11 студзеня 1935 года, у слонімскай друкарні Паразоўскага. Аб'ём — 4 старонкі. Увесь нумар быў прысвечаны абароне нейкага Х. Рабіновіча ад нападаў яго палітычных праціўнікаў-сіяністаў. Магчыма, маецца на ўвазе слонімскі купец Хаім Рабіновіч. У аднадзёнцы анансавалася, што неўзабаве пачне выходзіць тыднёвік «Słonimer Łebn». Але пра тое, што ён сапраўды пачаў выдавацца, інфармацыі няма.

*Крыніцы: Nowe pismo żydowskie // Kurjer Nowogródzki. 1935. № 11. 12 stycznia; Bibliografia polska 1901–1939. T. Jednodniywki. Warszawa: Biblioteka Narodowa, 2013. S. 276.*



**SŁONIMER WOCH** («Слонімскі тыдзень»): «незалежны тыднёвік для Слоніма і ваколіцы». Выходзіў у сакавіку–чэрвені 1933 года. Агулам былі надрукаваныя 10 нумароў, першы — 3 сакавіка, апошні — 1 чэрвеня. Рэдактар — А. Альперштэйн (A. Alpersztejn). Друкавалася ў слонімскай друкарні Паразоўскага. У варшаўскай Нацыянальнай бібліятэцы захоўваюцца ўсе 10 нумароў газеты, а таксама паведамленне пра спыненне выдання.

*Крыніцы: Urzędowy wykaz czasopism wydawanych w Rzeczypospolitej Polskiej. 1935. №1. 31 stycznia. S. 4.*



**SŁONIMER WORT** («Слонімскае слова»): тыднёвік, выдаваўся ў Слоніме ў 1926, 1929–1939 гадах. Выдаўцом была арганізацыя сіяністаў. Рэдактарамі (у некаторых выпадках і выдаўцамі) у розны час былі Ш. Гузоўскі (Sz. Guzowski),

М. Ейруш (M. Jejrusz), І. Спакойны (I. Spokojny). Апошні нумар газеты выйшаў 1 верасня 1939 года, у дзень пачатку Другой сусветнай вайны. Агулам выйшлі 478 нумароў: 1929, № 1–16; 1930, № 1–47 (17–63); 1931, № 1–48 (64–111); 1932, № 1–49 (112–160); 1933, № 1–48 (161–208); 1934, № 1–48 (209–256); 1935, № 1–48 (257–304); 1936, № 1–48 (305–351); 1937, № 1–50 (352–400); 1938, № 1–48 (401–448); 1939, № 1–32 (449–478). Гэта было самае стабільнае слонімскае выданне міжваеннага часу, якое пратрымалася цэлае дзесяцігоддзе. Яно надрукавала нямала публікацый, прысвечаных гісторыі Слоніма, слонімскай яўрэйскай абшчыны. У 1933 годзе быў змешчаны нарыс Годэля Гольдберга «Слонім на працягу стагоддзяў». Былі выпадкі канфіскацыі асобных нумароў польскімі ўладамі.

У Варшаўскай Нацыянальнай бібліятэцы значная частка нумароў газеты даступная ў выглядзе мікрафільмаў.

**SŁONIMER JUDYSZE SZTYME** («Слонімскі яўрэйскі голас»): аднадзёнка. Выйшла 16 верасня 1932 года ў слонімскай друкарні Паразоўскага. Аб’ём — 4 старонкі. Рэдактарам і выдаўцом быў Я. Аберштэйн. Захоўваецца ў Акадэмічнай бібліятэцы ў Вільні. Магчыма, гэтае выданне мае дачыненне да аднадзёнкі «Unzer Sztyme» («Наш голас»), якая выйшла 3 чэрвеня 1932 года.

*Крыніцы: Memorial Book of Slonim // http://www.jewishgen.org/yizkor/Slonim/Slonim.html; Bibliografia polska 1901–1939. T. Jednodniówki. Warszawa: Biblioteka Narodowa, 2013. S. 276.*

**SŁONIMER KURJER** («Слонімскі кур’ер»): газета. Выдавалася ў 1932 годзе на ідыш. Вядомы № 5, які захоўваецца ў Акадэмічнай бібліятэцы Літвы ў Вільні.

**SLONIMER KURJER** («Слонімскі кур’ер»): газета, якая выдавалася нямецкімі акупацыйнымі ўладамі восенню 1941 года. Нам вядомыя № 1 і № 2 (21 верасня). Выходзіла два разы ў тыдзень на беларускай, польскай і нямецкай мовах. У другім нумары была нямецкамоўная старонка, дзве беларускамоўных і адна польскамоўная (адны і тыя ж матэрыялы амаль цалкам дубліраваліся на трох мовах). Падпіску прымала гарадская друкарня ў Слоніме. У газеце змяшчаліся нямецкія зводкі і матэрыялы пра становішча на франтах вайны. З уласна слонімскіх матэрыялаў было толькі два: абвестка пра згублены пашпарт ды рэдакцыйнае паведамленне: «Па тэхнічных прычынах у сённяшнім нумары на беларускай мове ёсць дзве старонкі, а на польскай-жа толькі адна. У будучую нядзелю чытачы-палякі атрымаюць задавальненне».

*Крыніцы: Мікрафільм і мікрафіша, якія захоўваюцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.*




**СЛОНІМСКІ ВЕСНІК**: раённая газета, масава-палітычнае выданне. Заснавальнік — Слонімскі раённы выканаўчы камітэт. З 26 верасня 1939 года да 1 траўня 1962 года выдавалася пад назвай «Вольная праца». У верасні–снежні 1939 года была органам «Часовага ўпраўлення Слонімскага павета», у снежні 1939 — студзені 1940 года — органам «Слонімскага павяткома КП(б) Беларусі і павятвыканкома», у студзені 1940 — чэрвені 1941 года — органам «Слонімскага РК КП(б) Беларусі і райсавета». У кастрычніку 1943 — ліпені 1944 года выдавалася ў партызанскай друкарні на поўдні Слонімскага раёна, была выданнем Слонімскага (падпольнага) РК КП(б) Беларусі». У ліпені 1944 — сакавіку 1952 года — орган Слонімскага РК КП(б) Беларусі і райсавета, у красавіку 1952 — траўні 1962 года — орган Слонімскага РК КП Беларусі, раённага і гарадскога Саветаў.

З 5 траўня 1962 года змяніла назву, стала выдавацца як газета «За перамогу камунізма» (пазней — «За перамогу камунізму»). У траўні 1962 — лютым 1963 года выходзіла як «газета Гродзенскага абкома КП Беларусі і аблсавета, Слонімскага тэрытарыяльнага вытворчага калгасна-саўгаснага ўпраўлення». З 26 лютага 1963-га да студзеня 1965-га была органам «парткома Слонімскага вытворчага калгасна-саўгаснага ўпраўлення і райсавета». З 16 студзеня 1965 года да жніўня 1966 года — «орган Слонімскага РК КП Беларусі і райсавета». З 2 красавіка 1964 года (№ 40) газета аднавіла год выдання і валавую нумерацыю з 1939 года. У 1991 годзе была ў чарговы раз перайменавана і стала называцца «Слонімскі веснік». Гэтая назва захавалася да цяперашняга часу.

На працягу дзесяцігоддзяў свайго існавання раённая газета пісала пра рашэнні рэспубліканскіх і мясцовых уладаў, пра працу прадпрыемстваў і калгасаў, змяшчала нарысы пра перадавікоў, літаратурныя творы, гістарычныя артыкулы (раней існавала старонка «Бацькаўшчына»), допісы чытачоў. Рэдактарамі раённай газеты былі Іосіф Чарняўскі, Мікалай Бурсевіч, Фёдар Ганчар, Сяргей Прасняк, Марыя

Данюк, Васіль Афанасік ды іншыя. У цяперашні час «Слонімскі веснік» рэдагуе Кірыл Ляшчанка.

У 2008–2009 гадах рэдакцыя выдавала дадаткі — «Пятница Слонима» і «Слоним школьный». На сённяшні дзень «Слонімскі веснік» выдаецца тры разы на тыдзень (адзін нумар здвоены — за аўторак-сераду, 24 старонкі, наклад — больш за 4000 асобнікаў). Нумар за суботу атрымліваюць толькі падпісчыкі.

Частка нумароў за 1943–1944 гады даступная ў інтэрнэце: http://old.nlb.by/vov70/index.php?path=/catalogue/view-728&menu_id=549

*Крыніцы: Газеты Беларускай ССР. 1917–1975. Ч. 1. Мінск, 1984. С. 33–34; Бурсевіч М. Газета-партызанка // За перамогу камунізму. 1989, 26 верас.; Герасімчык В. Цікавыя публікацыі // Слонімскі веснік. 1999. № 77. 6 ліп.; Міско І. Першы нумар // Слонімскі веснік. 1999. 17 ліп.*

**СЛОНІМСКАЯ ГАЗЭТА**: штотыднёвік, які выдаваўся нямецкімі акупацыйнымі ўладамі ў красавіку-чэрвені 1944 года. Выходзіў на беларускай мове. Першы нумар з’явіўся 25 красавіка 1944 года накладам 15 тысяч асобнікаў. Нумарацыя «Слонімскага кур’ера» захоўвалася, таму гэты нумар «Слонімскай газэты» быў 17-м. Да 13 чэрвеня 1944 года выйшлі 8 нумароў, апошні (24-ы) — 13 чэрвеня 1944 года. Газета працягвала друкавацца ў Баранавічах. Рэдактарам быў Сяргей Сіняк (Хмара). Першая старонка цалкам змяшчала пранямецкую прапаганду. Паводле ўспамінаў С. Сіняка, яна была ідэнтычная з першай старонкай «Баранавіцкай газэты». На астатніх старонках былі навіны Слонімшчыны, публіцыстыка, літаратурныя творы, абвесткі. Камплект «Слонімскай газэты» захоўваецца ў Дзяржаўным архіве Брэсцкай вобласці, у Славянскай бібліятэцы ў Празе.

*Крыніцы: Хмара С. Пад гітляроўцамі // Беларускі голас (Таронта). 1970. № 186. Верасень; Жумарь С. Библиография оккупационных периодических изданий, выходивших на территории Белоруссии в 1941–1944 гг. Минск, 1995. С. 19.*



**SLONIMSKI KUR’ER** («Слонімскі кур’ер»): штотыднёвік, які выдаваўся нямецкімі акупацыйнымі ўладамі ў студзені-сакавіку 1944 года. Выходзіў на беларускай мове (частка матэрыялаў друкавалася беларускай лацінкай, частка — кірыліцай). Першы нумар выйшаў 1 студзеня 1944 года накладам 15 тысяч асобнікаў. Адказным рэдактарам спачатку быў Віктар Войтанка, з 14 сакавіка — Сяргей Сіняк (Хмара). Выдаўцом было мінскае Прэсавае выдавецтва. Рэдакцыя знаходзілася на вуліцы Паркавай, 20 (цяпер — вуліца Пушкіна), друкавалася газета ў Баранавічах. Была абвешчаная падпіска. З 11-га нумара (14 сакавіка) газета пачала выходзіць толькі кірыліцай. Акрамя разнастайнай пранямецкай прапаганды, афіцыйных распараджэнняў акупацыйных уладаў у газеце друкаваліся слонімскія навіны, абвесткі, літаратурныя творы, некралогі. Усяго выйшла 16 нумароў. З 25 красавіка 1944 года штотыднёвік змяніў назву і выходзіў як «Слонімская газэта». Камплект «Слонімскага кур’ера» захоўваецца ў Дзяржаўным архіве Брэсцкай вобласці, у Славянскай бібліятэцы ў Празе.

*Крыніцы: Газета «Слонімскі Кур’ер» // Новы шлях. 1944. № 2 (38). Студзень; Жумарь С. Библиография оккупационных периодических изданий, выходивших на территории Белоруссии в 1941–1944 гг. Минск, 1995. С. 19.*




**СЛОНІМСКІ КРАЙ**: краязнаўчы квартальнік. Выдаваўся ў Слоніме ў 2000 годзе на беларускай мове. Рэдактар і выдавец — Сяргей Ёрш. Выйшлі два нумары (№ 1 — восенню, № 2 — у снежні). Часопіс памнажаўся ў Гродне на абсталяванні грамадскага аб’яднання «Ратуша». Наклад — 250 асобнікаў. Фармат — А5, аб’ём першага нумара — 64 старонкі, другога — 80. У часопісе было нямала арыгінальных матэрыялаў, падрыхтаваных слонімскімі аўтарамі, але змяшчалася і шмат перадрукаў. Адзначым некаторыя з публікацый: «Тунэль у Слоніме» Васіля Супруна, «Гісторыя слонімскага перыядычнага друку» Сяргея Ярша, «Парэцкая царква» Аляксандра Талерчыка, «Мусульмане на Слонімскай зямлі» Сулеймана Байрашэўскага, успаміны Пятра Пархуты «З перажытага». Выданне было спынена ў сувязі з пераездам у пачатку 2001 года рэдактара і выдаўца ў Мінск.

*Крыніцы: Мажэйка П. Слонімскі Край аднаўляе культурную еднасць // Пагоня. 2000. № 41. 2 лістап.; Чыгрын С. Квартальнік «Слонімскі край» // Газета Слонімская. 2000. № 48. 23–29 лістап.*



**СЛОНІМСКІ КРАЯЗНАЎЦА**: бюлетэнь гісторыка-краязнаўчага гуртка. Выдаваўся ў 2000–2001 гадах. Першы нумар выйшаў у снежні 2000 года, другі — у лютым 2001 года. Фармат — А4, аб'ём — 2–4 старонкі, наклад — 50–100 асобнікаў, памножаны на рызографе. Рэдагавала рэдакцыйная рада (С. Ёрш ды іншыя). Выданне гісторыка-краязнаўчага гуртка пры грамадскай арганізацыі «Воля да развіцця» распавядае пра вандроўкі па Слонімшчыне, пра сустрэчы з вядомымі слонімскімі краязнаўцамі Васілём Супруном і Міхаілам Рылком, змяшчае артыкул да 130-годдзя заснавальніка слонімскага музея Язэпа Стаброўскага, гімн творчага аб'яднання «Вятрак» з вёскі Мірная.

*Крыніцы: Ёрш С. Новыя краязнаўчыя выданні // Газета Слонімская. 2001. № 5. 1–7 лют.*



**СЛОНІМСКІ ПРАВААБАРОНЦА**: бюлетэнь Слонімскай грамадскай праваабарончай прыёмнай. Выходзіў у Слоніме ў 2003–2005, 2007–2009 гадах пры падтрымцы маладзёжнага грамадскага аб'яднання «Ветразь». Фармат — А5, аб'ём — 8–16 старонак, наклад — 100 асобнікаў. Першы нумар выйшаў у ліпені 2003 года. Выдаваўся 2–3 разы на год на рускай і беларускай мовах. На нумарах з 2006 года адсутнічае нумарацыя, пазначаецца толькі год і месяц. Апошні нумар (13-ы ад пачатку выдання) выйшаў у кастрычніку 2009 года. Пісаў на тэму абароны правоў чалавека, рэкламавалася «грамадская праваабарончая прыёмная», якая ў той час дзейнічала ў Слоніме, змяшчаліся перадрукі артыкулаў з недзяржаўных СМІ.



**СЛОНИМСКИЕ ВЕДОМОСТИ** («Слонімскія ведамасці»): інфармацыйны бюлетэнь гарадскога Савета дэпутатаў і гарадскога выканаўчага камітэта. Выдаваўся ў Слоніме ў 1999–2000 гадах. Рэдактар — Войцех Угрыновіч, рэдкалегія — Анатоль Бялянін, Валерый Бадзей, Надзея Сяркевіч, Тамара Шумская. Першы нумар выйшаў у снежні 1999 года, апошні вядомы нам нумар (трэці) з'явіўся ў красавіку 2000 года. На выданні пазначалася толькі агульная нумарацыя ад пачатку выхаду. Фармат — А4, аб'ём — 12 старонак, наклад — 299 асобнікаў.



Рашэнне пра выданне бюлетэня было прынята другой сесіяй Слонімскага гарадскога Савета 23-га склікання. Змяшчаў нарыс пра гісторыю Слоніма, напісаны старшынёй Савета В. Угрыновічам, кіраўнічы склад гарсавета, некалькі рашэнняў гарадскіх уладаў, графік прыёму выбаршчыкаў дэпутатамі, рашэнні гарвыканкама, інтэрв'ю з чыноўнікамі, каляндар святочных дзён на 2000 год, віншаванні, статыстыку, апублікаваў вынікі перапісу насельніцтва 1999 года па Слоніме ды іншыя матэрыялы. Бюлетэнь выходзіў на беларускай і рускай мовах. Быў надрукаваны ў слонімскай друкарні. Распаўсюджваўся пераважна ва ўстановах і арганізацыях горада.

*Крыніцы: [Ёрш С.] Слонімскія ўлады займелі свой бюлетэнь // Биржа информации (Гродна). 2000. № 1. 6 студз.*



**СМЭШ**: газета дзяржаўнай установы адукацыі «Сярэдняя агульнаадукацыйная школа № 2 г. Слоніма». Першы нумар з'явіўся ў кастрычніку 2008 года. Рэдактарам была Ганна Пастарнак. Выйшла з друку некалькі нумароў. Шмат на сваіх старонках публікавала матэрыялаў пра вандроўкі па Беларусі і па Слонімшчыне, а таксама іншыя артыкулы на школьныя тэмы.



**СОВЕРШЕННО НЕСЕКРЕТНО** («Зусім НЕсакрэтна»): газета дзяржаўнай установы адукацыі «Сярэдняя агульнаадукацыйная школа № 9 г. Слоніма» і суполкі грамадскага аб'яднання БРСМ. Выдаецца з 2011 года на рускай мове. У 2013 годзе выйшла з друку 11 нумароў, у 2014 годзе — 16 нумароў, у 2015 годзе — 19 нумароў. Выходзіць пад дэвізам «Ад поспеху ў школе — да поспеху ў жыцці!». Газета паведамляе пра жыццё школы, шмат піша пра кадэтаў. Рэдагуе газету Святлана Коваль.



**СТРЕМЯНКА** («Драбіны»): дадатак да студэнцкага часопіса Мінскіх духоўных акадэміі і семінарыі «Ступени». Выдаецца ў Жыровічах з сакавіка 2011 года на рускай мове. Наклад — 150 асобнікаў. Рэдактар — Дзмітрый Паўлюкевіч.



**СТУПЕНИ** («Прыступкі»): студэнцкі часопіс мінскіх духоўных акадэміі і семінарыі. Квартальнік, выдаецца з чэрвеня 2000 года ў Жыровічах. Наклад — 1000–3000 асобнікаў. Галоўнымі рэдактарамі былі: Юрый Рой (2000–2004), Яўген Свідэрскі (2004–2006), інак/манах/іерадыякан/іераманах Георгій (Халіманкоў, 2007–2009), Генадзь Бялых (2010–2012), протадыякан Павел Бубноў (2013–2014).

Рэлігійнае літаратурна-асветніцкае выданне. Распаўсюджваецца праз праваслаўныя храмы, царкоўныя крамы, праз крамы і кіёскі «Саюздруку». Асвятляе студэнцкае жыццё, царкоўную гісторыю Беларусі, змяшчае інтэрв'ю з цікавымі людзьмі, хроніку акадэміі і семінарыі, успаміны, паэзію, матэрыялы пра хрысціянскія святыні свету, праводзіць фотаконкурсы, ёсць адукацыйна-асветныя рубрыкі «Біблейскі ўрок», «Сям'я». Распаўсюджваецца не толькі ў Беларусі, але і ў Расіі, Украіне, Польшчы, Літве.

У інтэрнэце даступны электронны архіў нумароў часопіса за 2000–2010 гады: http://minds.by/zhurnal-stupeni#.VVd3x1LIwz8

*Крыніцы: Кавалеўскі А. Часопіс чакае аўтараў // Літаратура і мастацтва. 2000. 6 кастр.*



**СЧАСТЛИВЫЙ ДОМ** («Шчаслівы дом»): рэспубліканскае выданне. Выходзіла ў Слоніме з кастрычніка 2011 года. Заснавальнікам і выдаўцом была ўстанова «Рэдакцыя газеты "Счастливый дом"», а галоўным рэдактарам — Марыя Данюк, былая галоўная рэдактарка «Слонімскага весніка». Гэта было выданне фармату А5, аб'ём — 16 старонак. Друкавалася газета ў слонімскай друкарні, наклад першага нумара складаў 7550 асобнікаў. Ужо на самым пачатку было 1535 падпісчыкаў (са Слоніма, Кобрына, Ліды, Дзятлава, Зэльвы). На старонках выдання асвятляліся тэмы кахання, сямейнага жыцця, змяшчаліся кулінарныя рэцэпты, крыжаванкі. Рэдакцыя прапаноўвала чытачам дасылаць свае гісторыі кахання, рэцэпты страваў, абяцала выплачваць ганарары. На газету была абвешчана падпіска. Аднак выданне не пратрымалася доўга на газетным рынку. Мода на такія малафарматныя выданні праходзіла, дадаліся і значныя фінансавыя выдаткі. У выніку выданне было спынена. Апошні нумар выйшаў з друку вясной 2014 года накладам 200 асобнікаў.



*Крыніцы: В Слониме появилась вторая частная газета // 2011. 10 кастр.; http://slonimtv.by/index.php?option=com_content&view=article&id=353:2011–10–10–12–23–34&catid=1:latest-news&Itemid=135*



**СЦЕЖКА ДА МАТЧЫНАЙ ВЕРЫ**: лісток прыхода ў гонар іконы Маці Божай «Спаручніца грэшных» (г. Слонім). Выданне выходзіла ў 2000 годзе. Першы нумар з'явіўся ў лютым 2000 года. Фармат — А4, аб'ём — 4 старонкі, наклад — 200 асобнікаў. Рэдактар — айцец Іаан (Ян) Майсейчык. Вядома пра 4 нумары лістка. Гэта было выданне слонімскага беларускамоўнага праваслаўнага прыхода. Публікавала звароты да чытачоў, малітвы, парады, тлумачэнні, а таксама вершы. Лісток друкаваўся ў Слонімскай друкарні. Выданне было спынена пасля таго, як царкоўнае кіраўніцтва «саслала» а. Іаана ў вёску Шылавічы Слонімскага раёна. Пазней ён разам з сям'ёй эміграваў у Бельгію, дзе стаў беларускім уніяцкім святаром.

*Крыніцы: Якімовіч А. Да матчынай веры // Газета Слонімская. 2000. № 9. 24 лют. — 1 сак.; Баброўская М. «Чаго вам хочацца, панове?» // Газета Слонімская. 2001. № 29. 19–25 ліп.; Ян Майсейчык: «Царква ёсць гарант бяспекі і атравок нашай радзімы» // Газета Слонімская. 2004. № 25. 16 чэрв.*



**ТРЫБУНА КАЛГАСНІКА**: орган палітаддзела Слонімскай машынна-трактарнай станцыі (МТС). Выдавалася ў 1950–1953 гадах на беларускай мове. З 27 траўня 1950 года да 30 снежня 1953 года выйшлі 360 нумароў. Фармат — А3, аб'ём — 2 старонкі (за малым выключэннем). Рэдакцыя спачатку знаходзілася ў пасёлку Грыбава (цяпер у межах Слоніма), дзе месцілася Слонімская МТС, у 1953 годзе — у Слонімскай друкарні. Паведамляла пра працу Слонімскай МТС, пра жыццё калгасаў. Былі рубрыкі «Партыйнае жыццё», «Падзеі ў Карэі», «На працоўнай вахце міру», «Калючыя радкі», «Па БССР», «У калгаснай вёсцы», «Па слядах выступленняў "Трыбуны калгасніка"». Сярод чытачоў праводзіліся конкурсы з грашовымі прэміямі (на лепшы літаратурны твор, на лепшую насценную газету). Зрэдку друкаваліся рускамоўныя вершы.

Адказным рэдактарам газеты спачатку быў І. Новікаў. Час ад часу абавязкі адказнага рэдактара/рэдактара выконвалі Р. Кавалёў, Г. Кавальчук, П. Коршыкаў, І. Бацько, С. Сярогін і В. Рэкун. З чэрвеня 1952 года рэдактарам быў Б. Гардзей. Газета спыніла свой выхад пасля расфарміравання палітаддзелаў МТС.

*Крыніцы: Газеты Беларускай ССР 1917 — 1975. Біяграфічны паказальнік. У 2 ч. Ч. 2. Мінск, 1985. С. 114.*



**ТУСОЎКА**: выданне Слонімскай школы маладога журналіста. Выходзіла ў 2004, 2007–2009 гадах на беларускай і рускай мовах. Першы нумар выйшаў у лістападзе 2004 года. На чэрвень 2009 года выйшлі 8 нумароў. Фармат — А3 і А4, аб'ём — ад 2 да 4 старонак, наклад — 200 асобнікаў. Змяшчала матэрыялы навучэнцаў школы маладога журналіста. Асвятлялася маладзёжная тэматыка, пытанні маралі, выхавання маладога пакалення, стану беларускай мовы. Склад рэдакцыі змяняўся. У яе працы ўдзельнічалі: Антон Трафімовіч, Ірына Арлова, Кацярына Беразоўская ды іншыя слонімскія хлопцы і дзяўчаты.




**TYGODNIK SŁONIMSKI** («Слонімскі штотыднёвік»): ілюстраваная газета, «прысвечаная справам зямлі слонімскай». Каля лагатыпа мела герб Слоніма. Выдаваў яе «часовы рэдакцыйны камітэт», у які ўваходзілі Фалькевіч, Рымдзянкова, Мусніцкая, Жукоўская, Сейдэнфраў і Бычак, адказным рэдактарам быў Казімір Гарасімовіч. Вядома, што на працягу лютага-сакавіка 1937-га выйшлі як мінімум пяць нумароў газеты. Яны захоўваюцца ў бібліятэках і архівах Варшавы, Вільні і Гродна.

21 лютага (№ 2) газета надрукавала артыкул, прысвечаны гісторыі Слоніма.

*Крыніцы: «Tygodnik słonimski» // Kurjer Nowogródzki. 1937. № 43. 13 lutego; Ciechanowicz L. Czasopiśmiennictwo w województwie Nowogródzkim w latach Drugiej Rzeczypospolitej // http://pawet.net/zl/zl/2001_47/4.html*

**UNZER CUKUNFT** («Наша будучыня»): аднадзёнка, яўрэйскае выданне. Выйшла ў красавіку 1933 года ў Слоніме на 12 старонках. Рэдактар і выдавец — М. Шэлюбскі. Аднадзёнка была друкаваным органам яўрэйскай арганізацыі «Будучыня».



*Крыніцы: Bibliografia polska 1901–1939. T. Jednodniówki. Warszawa: Biblioteka Narodowa, 2013. S. 325.*

**UNZER JOURNAL** («Наш часопіс»): друкаваны орган грамадскага [яўрэйскага] савета. Выдаваўся ў Слоніме падчас выбараў у польскі Сейм у 1922 годзе. Колькі нумароў выйшла, невядома.

*Крыніцы: Memorial Book of Slonim // http://www.jewishgen.org/yizkor/Slonim/Slonim.html*



**UNZER SZTYME** («Наш голас»): яўрэйская газета, аднадзёнка. Выйшла 3 чэрвеня 1932 года. Магчыма, гэтае выданне мае дачыненне да аднадзёнкі «Słonimer judysze sztyme» («Слонімскі яўрэйскі голас»), якая з'явілася ў тым жа 1932 годзе.




**УСЁ ПРА ЎСЁ:** інфармацыйны бюлетэнь. Выходзіў у вёсцы Мірная Слонімскага раёна ў 2002 годзе. Выдавец — ТМА «Вятрак». Рэдактарам быў Алег Шэлестаў. Бюлетэнь выдаваўся на беларускай мове накладам 299 асобнікаў. Выйшлі два нумары.




**УСТНАЯ ГАЗЕТА** («Вусная газета»): чытанне абвестак і загадаў савецкіх уладаў у Слоніме на Гандлёвай плошчы (цяперашняя плошча Леніна). Была заснаваная Слонімскім ваеннарэвалюцыйным камітэтам 11 верасня 1920 года з-за немагчымасці выдання мясцовай газеты з прычыны «папяровага крызісу». Праіснавала крыху больш за два тыдні — да заняцця горада польскімі войскамі.

*Крыніцы.: НАРБ, ф. 362, в. 1, спр. 1, арк. 58.*

**FOLK UN LAND** («Народ і краіна»): аднадзёнка. Выйшла ў 1929 годзе ў слонімскай друкарні Паразоўскага. Аб'ём — 16 старонак. Адказны рэдактар — В. Вераб'ёўскі. Выданне было друкаваным органам яўрэйскай сіяністычнай партыі працы «Hitachdut».

*Крыніцы: Bibliografia polska 1901–1939. T. Jednodniówki. Warszawa: Biblioteka Narodowa, 2013. S. 52.*



**ФУТБОЛЬНЫЙ МЕРИДИАН** («Футбольны мерыдыян»): інфармацыйна-аналітычны веснік. Агульнарэспубліканскае выданне. Заснавальнікі — Руслан Корнеў і Сяргей Бузун, галоўныя рэдактары — Р. Корнеў (№ 1, 2 і 4) і С. Бузун (№ 3). Змяшчала навіны айчыннага і замежнага футболу, інтэрв'ю, аналітыку, статыстыку ды інш. Шмат увагі надавалася слонімскаму футболу. Газета друкавалася ў слонімскай друкарні накладам 3000 асобнікаў. Фармат — А3 (№ 1) і А4 (№ 2–4), аб'ём — 4–12 старонак. Мова выдання — руская. У 1995 годзе выйшлі № 1 (чэрвень), № 2 (жнівень), № 3 (кастрычнік). Апошні нумар газеты, пазначаны як «спецыяльны выпуск» (1996, № 1 [4], 22 лістапада), прысвечаны слонімскаму «Камунальніку», які ў сезоне 1996 года заваяваў пуцёўку ў вышэйшую лігу чэмпіянату Беларусі па футболе. Змешчаны інтэрв'ю з трэнерамі і футбалістамі, артыкулы па гісторыі слонімскага футболу, статыстыка. Нумар выйшаў пад дэвізам «Футбол не хобі — гэта жыццё». Выданне спынена.



**ШКОЛЬНАЯ 7я**: газета дзяржаўнай установы адукацыі «Сярэдняя агульнаадукацыйная школа № 7 г. Слоніма». Першы нумар выйшаў у верасні 2012 года. Першым рэдактарам і заснавальнікам газеты была Людміла Капліч. Цяпер газету рэдагуе Валія Серада. Газета адлюстроўвае школьнае жыццё, традыцыйныя мерапрыемствы, экскурсіі, дасягненні ў спорце і інтэлектуальных гульнях — усё, чым жыве школа. Выйшла з друку 30 нумароў.

**ECHO ŻYROWIC** («Рэха Жыровіч»): часопіс вучняў Жыровіцкай дзяржаўнай сельскагаспадарчай і лясной школы. Гл.: **ŻYROWIAK**.




**ECHO MURÓW SZKOLNYCH** («Рэха школьных муроў»): маладзёжнае выданне, часопіс слонімскай гімназіі імя Тадэвуша Касцюшкі і настаўніцкай семінарыі. Выходзіў у Слоніме да 1933 года, працягваў традыцыі школьнага часопіса «Nasza Myśl». Першы нумар выйшаў у снежні 1933 года. Часопіс друкаваў справаздачы шматлікіх гурткоў, грамадскіх арганізацый, хроніку навучальных установ, зацемкі пра экскурсіі, літаратурныя творы (аб'яўляўся «конкурс на найлепшую навелу са школьнага жыцця»). У 1933 годзе адказным рэдактарам часопіса быў прафесар Салінькі, у рэдакцыйны камітэт уваходзілі Г. Петкунасуўна, С. Лонданауўна, Ванда Каструўна, І. Дзюрыч, Г. Жэромскі. У 1935 годзе адказным рэдактарам быў Чэслаў Оржажэўскі, галоўным рэдактарам — С. Герус, яго намеснікам — В. Зімны. Па некаторых звестках, выданне часопіса было спынена ў 1936 годзе.

*Крыніцы: Urzędowy wykaz czasopism wydawanych w Rzeczypospolitej Polskiej. 1934. № 7. 31 lipca. S. 43; Ёрш С. Слонімскія гімназісты // Газета Слонімская. 1999. № 39. 23–29 верас.*




**ECHO SŁONIMSKIE** («Слонімскае рэха»): штотыднёвік. З перапынкамі выходзіў у Слоніме ў 1924–1926 гадах як «орган беспартыйны і незалежны зямлі навагрудскай» (Слонім у той час уваходзіў у склад Навагрудскага ваяводства) на польскай мове. Газета выдавалася па суботах. Рэдакцыя і адміністрацыя знаходзіліся па адрасе: Слонім, вуліца Міцкевіча, 12 (былая Парадная, цяпер — Першамайская, ніжэйшая яе частка). Адзіны нумар гэтай газеты захаваўся ў зборах Слонімскага раённага краязнаўчага музея імя Я. Стаброўскага. У 1929 годзе газета аднавіла выхад, друкавалася чамусьці аж у Беластоку. Рэдакцыя і адміністрацыя знаходзіліся па тым жа адрасе. Нам вядомыя № 1 [кастрычнік?], № 6 ад 23 лістапада 1929 года, № 2 (апошні) ад 18 студзеня 1930 года. Газета пісала не толькі пра слонімскія падзеі, але і ўздымала праблематыку ўсяго Навагрудскага ваяводства. Наклад штотыднёвіка ў 1929–1930 гадах складаў 400 асобнікаў. Рэдактарам «Echo Słonimskie» быў банкаўскі работнік Юзэф Гэнэк. Першы нумар выдання ад 1929 года захоўваецца ў Акадэмічнай бібліятэцы Літвы ў Вільні.

*Крыніцы: Urzędowy wykaz czasopism wydawanych w Rzeczypospolitej Polskiej; dodatek miesięczny do Urzędowego wykazu druków. 1930. № 8. 31 sierpnia. S. 49; Была такая газета // Слонімскі веснік. 1991. № 30. 14 сак.; Ciechanowicz L. Czasopiśmiennictwo w województwie Nowogródzkim w latach Drugiej Rzeczypospolitej // http://pawet.net/zl/zl/2001_47/4.html; Чыгрын С. Слонімскі буквар. Мінск, 2013. С. 20–21.*

**ЮНИКОНСЕРВИС:** рэкламная газета ААТ «ЮниконСервис». Першы нумар выйшаў накладам 5000 асобнікаў у слонімскай друкарні ў пачатку студзеня 2016 года на рускай мове.

# ПАСЛЯСЛОЎЕ

Гэтая кніга — толькі першая спроба даследавання гісторыі слонімскага перыядычнага друку. Намі былі абагульнены і прааналізаваны сабраныя на працягу дзесяцігоддзяў матэрыялы. Прычым рабілася гэта сцісла, без падрабязнага разгляду асобных выданняў. У далейшым гэтую працу можна і трэба працягваць, каб зафіксаваць для будучых пакаленняў слонімцаў і тых, хто цікавіцца гісторыяй друку, наш творчы набытак, нашу грамадскую актыўнасць.

Варта правесці архіўныя пошукі, дзе даследчыкаў чакае нямала цікавых знаходак. Магчыма, камусьці ўдасца знайсці і вывучыць нумары «штодзённага часопіса суперыёраў Жыровіцкага манастыра 1772–1786 гадоў»[1]. Трэба разабрацца, ці гэта была мясцовая хроніка (летапіс), ці перыядычнае выданне. У апошнім выпадку часопіс уяўляе сабой першы перыёдык у гісторыі Слонімшчыны, і тады атрымліваецца, што слонімскаму друку не 100, а амаль 250 гадоў!

Добра было б арганізаваць выставу слонімскага перыядычнага друку, сфарміраваць максімальна вялікую калекцыю выданняў у краязнаўчым музеі. Бо пакуль найбольш поўныя камплекты слонімскіх газет, самвыдату знаходзяцца альбо ў прыватных архівах, альбо ў замежжы. Гаротны стан газетных архіваў не толькі на Слонімшчыне. Нядаўна Шаркаўшчынскі раённы архіў (Віцебская вобласць) зрабіў адкрыццё: у першыя пасляваенныя гады ў якасці вокладак пенсійных спраў выкарыстоўвалася тагачасная рэспубліканская, рэгіянальная і мясцовая прэса. Дзякуючы гэтаму ўдалося сабраць калекцыю нумароў раённай газеты «Сялянская праўда», камплекты якой у Шаркаўшчыне не захаваліся[2]. Таму трэба шукаць, збіраць, рабіць копіі, папяровыя і лічбавыя. І не губляць надзеі.

Як ні сумна гэта прызнаць, але ў апошнія дзесяцігоддзі ў Беларусі пашыраецца русіфікацыя, большасць беларусаў гавораць на рускай мове. Слонімскі друк не стаў супраціўляцца названай з’яве, паплыў па цячэнні, бязвольна паддаўся агульным настроям. І ў дзяржаўнай, і ў недзяржаўных газетах усё менш з’яўляецца публікацый на роднай мове. Сітуацыя блізкая да катастрафічнай. Яшчэ пройдзе якіх 10–15 гадоў, і наш мясцовы друк не адрозніш ад газет з расійскіх правінцыйных гарадоў Разані ці Калугі. Ды і з гісторыі слонімскага друку бачна, што большасць выданняў на Слонімшчыне выпускаліся на чужых мовах: нямецкай, польскай, ідыш, рускай. А выданні на беларускай мове нярэдка траплялі пад розныя рэпрэсіі…

Але хочацца верыць у больш аптымістычны сцэнарый развіцця падзей. Магчыма, дзяржава нарэшце павернецца тварам да беларускай мовы, беларускай культуры, гісторыі і адукацыі. І пачнецца чарговая хваля беларусізацыі ўсіх сфераў нашага жыцця. Інакш і быць не можа ў незалежнай дзяржаве — Рэспубліцы Беларусь.

---

[1] Чыгрын С. Архіў Жыровіцкага манастыра быў вывезены ў Новасібірск // Газета Слонімская. 2010. № 27. 30 чэрв.

[2] Клімза І. Раённы архіў стварае фонд гісторыка-краязнаўчага накірунку // Кліч Радзімы (Шаркаўшчына), http://www.klich.by/?p=15628

# Змест



*Даведачнае выданне*

**Ёрш** Сяргей, **Чыгрын** Сяргей

**Гісторыя перыядычнага друку Слонімшчыны (1916–2016)**

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Наталля Кучмель*
Камп'ютарная вёрстка *Ларысы Гарадзецкай*
Карэктар *Наталля Кучмель*

Падпісана да друку 17.02.2016. Фармат 60x84 1/16.
Папера афсетная. Рызаграфія.
Ум. друк. арк. 6,07. Ул.-выд. арк. 4,54.
Наклад 99 ас. Зак. .

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ААТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/167 ад 01.10.2014.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.